Год I. ЖНІВЕНЬ і ВЕРАСЕНЬ 1927 г. №. 2—3.

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА

МЕСЯЧНАЯ ЛІТЭРАТУРНА-ГРАМАДЗКАЯ ЧАСОПІСЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя месьціцца ў Вільні, Ціхая вуліца 4—20. Тел. 12-07.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На ½ года . . . . . . . . . . 8 зл. — гр.
На 3 месяцы . . . . . . . . . 4 зл. — гр.
На 1 месяц . . . . . . . . . 1 зл. 50 гр.
За граніцу у два разы даражэй.



А. БАРТУЛЬ.



## МАШЭКА *).

Ціха ў даль Дняпро сіні коціцца,
Ў задуменейку не шамочыцца:
Па ім хвалі бягуць-завіваюцца,
Дый у мора яны ўсе сьпяшаюцца.
І зялёны бор расшумеўся, гудзе,
Ой, ня добра ўкруг, хіба быць бядзе!
З лесу цёмнага, безьбярэжнага,
З лесу цёмнага дый бязьмежнага
Выхадзіў з яго дый асілачак
Сам Машэка, бедакоў ён заступнічак.
Бо у тыя часы над зямелькаю,
Над крывіцкаю, над старэнькаю
Багачы і баяры разгулівалі,
Як бярозу сялян дый аблуплівалі,
Што рабіць бедаком — пакараліся,
А баяры з усіх насьмяхаліся.
А Машэка ў той час сам артайнічаў,
І зямельку-сыру паварачываў.
Засяваў і зьбіраў хлеба ўволячку,
Дый ня змог ён глядзець на нядолячку,
На баяраў ліхіх, на разбойнікаў.

*) Гэрой народнае легэнды аб заснаваньні Магілёва.

І пачаў ён зьбіраці ахвотнікаў.
Як набраў, дык пайшоў ў лясы цёмныя,
У прасторы глухія, агромныя
І адтуль ён баяраў навучываў
І людзей паважаці прывучываў.
Харомы іх палацы разьбіваючы
І братоў сваіх дый баронячы.
Але ў сэрца яго запаўзла туга,
Ой, Машэка ты, дый сялян слуга,
Іх слуга, ты мур, іх заступнічак
І народу свайго ты асілачак
І на што ты яе чорнабрывую,
І на што ты яе урадзівую,
За правы дый за праўду ваюючы,
Пакахаў яе нат' нячуючы,
Што бяду яна дый тугу табе
Дасьць, ня глянуўшы, у замен сябе.

---

І выходзіў Машэка на Дняпро - раку,
Палажыў на мячу ён асілак - руку;
І ўзабраўся Дняпро, зашумеў яму,
Словы ласкавы зашаптаў яму.
А Машэка сам адазваўся - сказаў,
Да старога Дняпра такі сказ трымаў:
„Эх, Дняпро, ты Дняпро, рака вольная,
Не такая, як мы, ты бяздольная.
На сабе ты нясеш шмат багацейка,
Але што табе, мілы мой брацейка.
Я паскарджуся — раскажу табе,
Аб сваёй тузе, аб сваёй жальбе.

---

Маё сэрцайка прывязалася,
У красуні яно закахалася,
А яна мяне дык пакінула
І баярына дый нямілага
Пакахала дзяўчына, аддалася,
У царкве яна з ім павянчалася“.

---

„Чуеш, стары Дняпро, як званочкі зьвіняць,
Маладыя ўжо ад вянца ляцяць,
Як званочкі зьвіняць, пералівамі,
Як над борам гудзяць, дый над нівамі.
Адбяру я яе, мусіць быці ў мяне,
А ня згодзіцца — яе сьмерць ня міне“.

---

І пабег у лес дый Машэка сам,
І малойчыкаў дый склікаў ён там.
А Дняпро-рака дый ўзбурлілася —
Па ім хваля ўраз завіхрылася.
І зялёны бор расшумеўся—гудзе,
Ой, ня добра ўкруг, хіба быць бядзе.

---

Ні па возеры селязенька плывець,
А баярыч сам сваю жонку вязець.
Дый ня цёмная хмара па небе ідзець,
А Машэка сам малайцоў вядзець.
Калі гойкнулі, калі крыкнулі!
І ня буйны вятры з неба веялі
І ня дробны дождж з неба падае.
А Машэка баярыча забівае ў бары.
Распускае сваіх ён малойчыкаў
Сваіх добрых сяброў і памочнікаў.
І дзяўчыну ён сам у стан вядзе
Ой, ня добра ўкруг, хіба быць бядзе.
А красуня сама прыгалубілася,
Да Машэкі яна прытулілася.
Кажа: „Сілай мяне, дый баяравіч
Да вянца пацягнуў, ня пытаючы;
Я-ж кахаю цябе, мой асілачак,
Абарона мая, мой заступнічак“.
Цалаваў ён яе ў вочы-зоранькі,
Дый у грудзі яе лебядзіныя;
Абыймаў ён дзяўчыну-малодачку
І туліў ён яе, ясну-зорачку.
І забыўся ўвесь сьвет пры каханае,
Дый ад ворага адабранае.

---

Не зязюленька кукавала ў бары,
Толькі зразу павеялі буйнай сілы вятры.
Пацямнела ў вачох у Машэкі ўраз
Ой, доля-ліха, ой благі-жа ты час.
Яго мілая, дый ласкаючы,
Прытуляючыся, абыймаючы,
Усадзіла яму ў буйна сэрцайка нож.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І упаў на зямлю ён уміраючы,
Уміраючы, заціхаючы.

---

Узыграўся Дняпро, зашумеў стары,
Забурліла вада, узьняліся вятры,
Засталісь бедакі без заступніка,
Без заступніка, без даглядчыка.

---

Закапалі яго у зямелечку,
Закапалі яго—сваю сілачку.
Пахавалі яго, курган ўзносячы;
І Машэку свайго дый шануючы,
Магілаю Льва называлі курган,
Яны плачучы, прычытаючы.

---

Над магілаю, над асілкаваю
Удалыя яго, дый малойчыкі
Будаваліся.
Магілёвам сялібы іх
Называліся.



А. БАРТУЛЬ. 

# КНЯЗЁЎНА.

## КАЗКА Ў ДВУХ АКТАХ.

---

### АДСЛОНА II-ая.

**Поле шэрае, стоптанае. Праз яго бяжыць гасьцінец. У далі цёмны бор. Каля бору відаць контуры хатак. Неба хмурнае. Пры гасьцінцы кузьня з расчыненымі дзьвярыма, падобная да нейкага трохсьценку.**

ЗЬЯВА I-ая.

(У кузьні, каваль, прыстойны хлапец раздымае горан. Пачынаюць ляцець іскры, бухае полымя).

**Каваль.** Раздымайся агонь, хай заблісьне іскра,
Мне здаецца, што ты нашай волі зара.

(*Бярэ кавалак жалеза і кладзе яго ў вугальлё. Дзьме*).

Казаў я калісь, дрэнна робіма мы
Ня хопіць нам сілы змагацца проць цьмы,
Калі не зрабілі пярсьцёнка, як сьлед.
Я знаю, бо чуў, як казаў калісь дзед,
Сівенькі старык, ой і помніў ён шмат,
Тады ён зьявіўся, хадзіў каля хат,
Казаў нам: „Рыхтуйцеся, час ўжо ідзе,
Калі не гатовы, дык быці бядзе.
А мы і ня зналі, што доля нясе;
Спрачаліcь, крычэлі, грызьліся усе;
Пярсьцёнак зрабілі і што-ж?.. ён благі
Быў мягкі, ну й зьела іржа берагі
А дзед мне казаў, што патрэбная сталь
Так цьвёрдая, быццам дыямэнт-крышталь,
Чыстая, быццам блакіт сьветлых даляў,
Дый каб сьвяціла яна блескам хваляў.
„Паўстане Князёўна“, казаў, „дый бяз сілы,
Яна без пярсьцёнка ня кіне магілы.

(*дзе-які час маўчыць*).

І што-ж... нас ізноў цемры сілы скруцілі
Ізноў, як зьвяроў, на ланцуг пасадзілі.
Ой цяжка, нам цяжка! Што будзе далей,
Ці доўга нас будзе сушыць сухавей?

(*Выцягваючы з гарна распаленае жалеза і пачынаючы яго каваць*).

Але ўжо хіба за працу вазьмуся,
А-ну, а можа, так размахнуся,
Што выплаўлю гэтую сталь неўзнарок.

### ЗЬЯВА II-ая.

(У кузьню ўваходзяць двое сялян. Адзін з іх нясе саху).

**І-шы.** Бог помач табе! як жывеш, мой браток?

**Каваль.** Як і заўсёды, вось з дня дый на дзень,
Як і усе, вось сланяюсь, што цень.

**І-шы.** Прынёс я саху, трэба справіць нарог,
Спаткаў, бач, суседа зайшліся удвох,
Ці маеш сам часу, мо' пільнае ёсьць,
Можа ранейшы ўжо неякі госьць
Нешта прасіў, бачу ёсьць што каваць,
Дык часу я маю, магу пачакаць.

**Каваль.** (аглядаючы саху).

Часу маю і я, гэта зробіма ўраз

**(Кладзе нарог у гарно, адзін з сялян дзьме, каваль мяшае вугальлё, другі селянін прыглядаецца).**

Хацеў вось пярсьцёнак рабіць ў вольны час,
Але й баюся я ўпрост пачынаць.

**II селян.** Чаму-ж? калі ўздумаў, дык трэба каваць

**Каваль.** (перабіваючы).

Бо кожны патрапіць сказаць, што ня так,
На гэта, бач, з нашых знайдзецца мастак,
Але калі штосьці запраўды рабіць
Ніхто не патрапіць сказаць, як трэ' быць.
Ну, але што будзе, спрабую, а ну!
А ну мы парэшце пакінем турму
Гэтай няволі, што ведзьмы зрабілі,
Гэта-ж быць можа у кожнае хвілі,
Што-ж будзе тады, як ня будзе яго?
Што-ж знову чакае народу майго?
Няўжо так бязконца і будзе у нас,
Няўжо не надойдзе яднаючы час.

(Выймае жалеза з агню і пачынае каваць)

**І-шы сел.** Так цяжка жывецца, лажысь—памірай.

**II-гі.** Цяпер гэтак ўсюды, ад краю у край,
Кожны так стогне, што зробіш, сусед,
Гэткі цяперака, браце, ўжо сьвет.
Гэтак усюды, для нас-жа ўсё роўна,

Хоць-бы і нават паўстала Князёўна,
Ці будзе ляпей, яшчэ трэба спытаць!

**І-шы.** Будзе! дый толькі ці нам дачакаць,
Надта ўжо крэпкія чары ліхія,
А мы, як сам знаеш, ужо несьвятыя
Сварымся часта, яднаньня няма,
Бяз помачы-ж нашай ня ўстане яна.

**ІІ-гі.** Так, сварымся мы, а нашыя-ж дзеці,
Ці-ж лепшыя крыху....

**І-шы.** ...так ўсюды на сьвеце.

**ІІ-гі.** Што ўсюды! ці-ж гэтак яшчэ шмат цярпяць.
Ведзьмам ня трапіць усіх пакаваць.
Нам трэба рабіць штось, дый мы старыкі,
А дзеці ня хочуць падняць нат' рукі.
Нас ведзьмы чмуцяць, а ўжо іх, дык аж стыдна,
Стыдна глядзець, сэрца ные. Абідна...

(Змаўкаюць, толькі стукае малаток, II-гі праз хвілю).

Мы думалі, ўсклалі надзею на іх,
Што яны для Князёўны апошні свой ўздых
Зложаць, забыўшыся ўсё навакол,
А тут, хоць чашы на галовах ім кол,
Нічога ня будзе...

**І-шы.** ...А ўсё-ж гіне шмат

Ведзьмы іх мучаць, адбіўшы ад хат
І гінуць яны з клічам „ўсе для Яе!“

**ІІ-гі.** Кінь, сьмешна слухаць гаворкі твае
Гінуць намарна; другія псуюць
Крыві іх насеньню ўзыйсьці не даюць,
Толькі й мяркуюць, каб ім выгадней
Было-бы цярпець і зьнясьці нек лягчэй,
Спрэчкі вядуць і адзін аднаго
Грызе, як сабака...

**І-шы.** ...Ну, хто без таго.

**ІІ-гі.** (не зважаючы).

Літасьці просяць у ведзьмаў, ў каго?
Бацьку забыўшыся нат'сваяго
Ой стыдна нам, стыдна, дзе праўду знайсьці?
Сілы ня маю іх лаяць, клясьці...

## ЗЬЯВА III.

(У кузьню ўваходзе падарожны, стары дзед увесь абвешаны торбамі).

**Дзед.** Бог помач вам, людзі!..

(Разглядаячы і садзячыся на абрубку).

.. змарыўся зусім
Ўжо старасьць, што зробіць, калісь быў ня тым.

**Каваль.** Што добрага дзеду на сьвеце чуваць?..

**Дзед.** Э, браце, дзе добрае можна спаткаць,
Схавалась яно і, бач, цяжка знайсьці,
Само не захоча у рукі ісьці.

(Праз хвіліну).

Ішоў я дарогай, пад лесам, вун там,
Гляджу і ня веру упроста вачам;
Наш Рыцар нясецца, як вецер імкне;
Спыніўся адразу, як згледзіў мяне
І кажа: „Дзеду, скажы кавалю,
Хай робіць-жа штосьці, прашу я, малю".

**Каваль.** Ці зроблю што толькі, надзеі няма...
Стаіць перашкодай грызьні туман-цьма.
Ведзьмы штодзень яю сеюць ўкруг нас,
Баяцца, што можа калісь прыдзе час,
Што мы ачуняем, яднацца пачнём;
Гэта-ж зблізжаецца з кожным ўжо днём.

**Дзед.** Так, браце, яднайцеся, разам усе
Споўніце пэўна жаданьні свае.
Блудных дзяцей, адганеце упроч;
А ну, бач, і хутка кашмарная ноч
Зьляціць недзе ў даль і сайдзе ў нябыцьцё,
Вам трэба нанова стварыці жыцьцё,
І самі тварэце, а ведзьмаў ліхіх
Ганеце у пекла, хай йдуць да сваіх.
Ці-ж можна, каб вашу зямельку яны
Паганілі гэтак, вы-ж волі сыны,
А ў цемры сядзеце, рабеце ўсё-ж штосьць.

**І-шы сел.** Дзеду, спытай, а ці сілы ў нас ёсьць?
Нас ўсюды нячысьцікі так сьцерагуць,
Нам нават свабодна ўздыхнуць не даюць.

**Дзед.** Рыцар хмары ударам мяча перарве;
Вас, брацьця, да шчасьця, ўпярод пазаве.
Ня вечныя чары і маюць канец
Над імі загонім асіну-капец.

Ня ўстаць тады ім, нас доля ўбароне,
Хай-жа ляцяць недзе ў прорву-бяздоньне,
А тутка у нас жыцьцё буйна заб'е
І струменем борзда уперад памкне.
Пабачыце потым, пабачыце ўсе
Час зьмены вялікія вам прынясе.

(Устаючы, выцягвае руку. Вочы блішчаць. Сам, выдаецца, поўны нейкага агнявога блеску).

Верце й гатуйцеся! блізкі ўжо дзень,
Вам хутка праз хмары заблісьне прамень,
Дык будзьце гатовы, ня сьпеце, браты!
Калі прасьпіцё, дык ізнову гады
Будзеце ў цемры свае каркі гнуць.
Будзьце гатовы! Бо вас праклянуць
Унукі і дзеці, калі зноў прамах

(апускаючы руку)

Аб ім страшна думаць, мне робіцца жах

(Змаўкае. Праз хвілю).

Кажу вам, пярсьцёнак зрабеце хутчэй,
Як выб'е гадзіна, дык будзе лягчэй!
Я пойду ужо... Мушу ўсіх гатаваць
Мо' прыдзецца хутка Князёўну спаткаць.

(Выходзе).

## ЗЬЯВА IV.

(Тыя-ж, без яго стаяць у задуменьні).

**Каваль** Гатуйцеся! Так, трэба нешта рабіць,
Аб сабе нам патрэба ўсё чыста забыць.
Вось толькі, ці гэта патрапіма мы
Сустрэць ці нам толькі зьбліжэньне вясны?
Ну, будзема верыць, што скончыцца сон,
Што хутка замоўкне магутны той стогн,
Які разьлягаецца між нашых хат.

**І-шы сел.** Вось толькі ахвяраў патрэба нам шмат.

**Каваль.** Зложым усё і здабудзем усё
З Князёўнай паўстане ўжо наша жыцьцё
Э, што быць мае, хай будзе сабе!

(падаючы селяніну нарог).

Нарог ужо гатоў...

**ІІ-гі сел.** (бяручы). ...Дзякуй, братко, табе...

(да І-га)

Мы пойдзем ужо, трэба ехаць араць,
Ідзём...

(да каваля).

...Ну бывай, бо няма што чакаць.

(бяруць саху і выходзяць).

## ЗЬЯВА V.

(Каваль адзін).

**Каваль.** Пайшлі. Пэўна знову зблiжаецца час,
Бо дзед нездарма паявiўся мiж нас.
Дык трэба, я мушу пярсьцёнак зрабiць,
Хай гэта мне знача: цi быць, цi ня быць.

(Бярэ кавалак жалеза кладзе яго ў горан. Пачынае дзьмухаць. Агню няма. Мацаючы вугальлё).

Што-ж тут за лiха?.. а, а... мокра ў гарне!
Цi гэта я сьню, цi здаецца ўжо мне?

(З-пад гарна чуваць шалёны рогат)

**Каваль.** Хто-ж зноў рагочаць за сьценкай вун там!

## ЗЬЯВА VI.

(З-пад гарна вылязае нячысьцiк).

Ха... ха... i ён думае зробiць штось сам!
Што, цяжка рабiць? як ня хочу вось я,
Бо бачыш такая ўжо воля мая.

(З рогатам хаваецца).

## ЗЬЯВА VII.

(Каваль выграбае мокрае вугальлё, сыпець другiя. Распальвае iх. Пачынаець дзьмуць).

**Каваль.** Агонь распалю, бухне полымя ўраз
Блiжэй ужо воля, iдзе ужо час!
Гэй Доля, о Доля! цябе я заву;
Злажу ў барацьбе я сваю галаву,
Пярсьцёнак Князёўне напэўна зраблю
О, Доля! Я волю шалёна люблю!

## ЗЬЯВА VIII.

(Уваходзе ў кузьню маладая дзяўчына, надзвычайнае прыгожасьцi. Убрана ў лёгкую белую вопратку).

**Доля.** (да каваля).
Любi, браце, волю й Князёўну любi,
Куй сталь на пярсьцёнак i сьпешна рабi.
Я буду цябе баранiць й помач дам,
Яго зробiш хутка, задзiвiшся сам.
Працуй!...

(Зьнiкае).

## ЗЬЯВА IX.

**Каваль.** ...Зараз-жа, зараз, о Доля, пачну

І Князёўна хутка паўстане ад сну.

(Дзьме дзе-які час моўчкі. Пасьля выймае невялічкі кавалак распаленага жалеза. Кладзе яго на накавальню.

## ЗЬЯВА X.

(У кузьню ўбягаюць тры хлопчыкі апранутыя ў зялёную вопратку).

**Адзін з іх** (падаючы кавалю невялікі сярэбраны малаток).
Доля табе вось ішле малаток
З ім зробіш пярсьцёнак ураз неўзнарок.

(Каваль бярэ яго і пачынае каваць, пяючы песьню. Хлопчыкі прыглядаюцца).

### ПЕСЬНЯ КАВАЛЯ.

Гэй, я каваль,
Кую-гартую сталь.
Іскры лятуць,
Клічуць, ўперад завуць.
Гэй-жа, молат!
Сябра мой, ты волат,
Ўзьвійся ўгару
У добрую пару.
Разьбі ланцуг,
Скрышы яго ў пух.
Звольні Народ,
Які ўжо столькі год
Стагнаў пад ім,
Узьвійся, як дым.
Дык раз у раз
Ўжо блізкі волі час;
Досыць нам сьлёз
І крыўды ён прынёс.
Скрышым яго
Для шчасьця свайго.
Дык раз у раз,
Ўжо блізкі волі час.

(Кончыўшы каваць, шліфуе яго дзе-які час у цісках. Хлопцы памагаюць яму, падаючы адпаведныя інструмэнты. У канцы бярэ яго і прыглядаецца. Пярсьцёнак увесь зігціць зеленаватым агнём).

**Каваль.** Грае іскра ў ім, гарыць ён агнём
Прамень па ім ўецца бліскучым зьмяём
Зроблены ён і гатовы ўжо я
Доля! о, дзякую моцна...

(Згледзіўшы над'звычайную яснасьць, якая пачынае падыймацца над борам, мяняючыся ў колерах).

...што там? а... а?. .
Блеск дзіўны ліецца, агонь зігаціць
Што-ж бы за дзівы маглі-бы там быць.

(Выбягае. Хлопчыкі зьнікаюць).

## ЗЬЯВА XI.

(Выбягаючы, Каваль спатыкаецца з Рыцарам, імкнуўшымся па шляху, той асаджвае каня).

**Рыцар.** (да яго).
Браце, за мной! там нявольнікі йдуць,
Хутчэй, як гатоў! нам патрэба прымкнуць
Да іх грамады. Гэй, хутчэй упярод!
Глядзі! там б'е яснасьць, глядзі! йдзе народ.

Вольныя, вольныя, — вольныя мы,
Час ўжо пакінуці сьцены турмы!
Князёўна ўстае; яе кончыўся сон,
Народ зачарованы — вольны ўжо ён!
Ідзем, нам патрэба яе бараніць,
Хутчэй, як гатоў... (Далятаюць гукі маршу і зыкі песьні).
...чуеш?.. песьня грыміць.

(абодва слухаюць).

ПЕСЬНЯ.

Падыйшоў збуджэньня час,
Ўжо даволі мук для нас!
Цемры сілы ўпроч лятуць,
Трэба нам рады самкнуць
Падняволены Народ!

Сьмела пойдзема ў бой
За правы і за край свой;
Кроў няхай крыніцай б'е;
Грудзі выставім свае
З клічам: „Упярод!"

**Каваль.** Чую, чую, гатоў я аддаці жыцьцё,
Князёўна! о, скарбе ты мой, багацьцё,
Ты вольная! Рыцару, разам хутчэй
Блеск сьветазарны ўзгарыся ясьней.

ЗЬЯВА XII

(На шлях выходзе грамада сялян з косамі, з сярпамі. Ідуць, цяжка адбіваючы крок і пяючы.)

**Каваль.** Дык на спатканьне-жа лепшых ўжо дзён,
Рыцару, дружа, ідзём, гэй ідзём!

(Каваль і Рыцар далучаюцца да грамады. Песьня гучыць).

Блеск вітаючы зары,
Гэй наперад, змагары!
Дружна, сьмела, крок у крок,
Гэй арлы, ваш сьмелы зрок
Гэй, нявольнікі ідзём!

Гадам подлым, шлём праклён,
Пяруном гудзіць хай ён,
Лепш няхай лятуць упроч,
Ужо кончылася ноч!
Волю й праўду мы нясём!

Там агонь, хутчэй туды,
Хто ня хоча больш бяды,
Каму досыць ўжо пакут,
Каму дораг родны кут,
Гэй, сьмялей ідзём у бой!

(Праходзяць усе. Дарога і кузьня пустая. Песьня яшчэ, хоць і слабей—зычыць.)

ЗАСЛОНА.

(*Канец*)

# Песьня віхру.

Бура ймкнецца. Я ірву,
Я кручуся, я заву.
Хто з адважнаю душой,
Гэй, у хмары, гэй за мной!
Пойдзем ўперад мы сьцягой
Яркасьветнай, агнявой.
Шлях маланка рэжа нам,
Дык ідзём-жа; ты ня сам,
Ты са мною, віхар я.
Глянь! Нас кліча шырыня.
Хмары йдуць, шалёны ход,
Агняцьветны карагод.

То сплятаецца зьмяёй,
То раскінецца сьцяной
Буйна, сьмела, без акоў.
Ці-ж ў цябе ня грае кроў?
Ці ня чуеш вольны дух?
Ці ня бачыш дзікі рух?
Гэй ляцем, ўгару, ураз!
Цяпер воля! Цяпер час!
Пяруны грымяць: Цябе
Я вазьму туды к сабе...
Гэй, хто з вольнаю душой,
Гэй, у хмары, гэй за мной!

*Аўгэні Бартуль.*

# ЯСЭЛКА.

Каханьне дзяўчынкі то мара,
Што сэрцам тваім запануе,
Як увосень дажджлівая хмара,
Так дожджам ліе і так злуе.

Дзяўчынкі каханьне—ясэлка,
Што коска зрабіла ад сонца.
Мы бачым, падходзім, а толькі
Яна уцякае бяз конца.

Ясэлка адходзе ўсё далі,
Ты хочаш да ёй падыйсьці
Табе ня удасцца... прапалі
Ўжо коскі, яе не знайсьці.

*М. ТАЛЕРКА.*

**Ю. СЛАВАЦКІ.**

# АНГЭЛЬЛІ.

Пераклад з польскага М. Г.

## РАЗЬДЗЕЛ IV*).

І хадзіў Шаман з Ангэльлі пустымі шляхамі Сыбіры, дзе стаялі турмы.

І бачылі твары некаторых вязьняў. Сумныя і блядыя глядзелі яны праз краты на неба.

Каля аднае з гэтых турмаў сустрэлі людзей, якія нясьлі труны; і затрымаў іх Шаман і казаў адчыніць.

І як зьнялі векі з трунаў,—здрыгнуўся Ангэльлі, бо ўбачыў, што памёршыя былі ў ланцугох і сказаў:

„Шамане, баюся, каб не ўваскрэсьлі гэтыя замучаныя.

Збудзі кагось з іх, бо маеш у сабе сілу цудаў; збудзі гэтага старога з сівою барадою і з белымі валасамі; здаецца мне, што знаў яго жывым“.

А Шаман, зірнуўшы строга, сказаў: „Што з гэтага будзе? Вось уваскрашу яго, а ты яго зноў заб'еш. Узапраўды, калі нават два разы яго ўваскрашу—два разы заб'еш яго.

Але няхай будзе так, як хочаш, каб ведаў, што сьмерць нас бароніць ад суму, які йшоў да нас, але знайшоў нас — мёртвымі.

І так гаворачы, зірнуў Шаман на старога ў труне і прагаварыў: „Устань!“ Раптам цела ў ланцугох паднялося і села, гледзячы на людзей так, як чалавек, што сьпіць.

Адразу пазнаў яго Ангэльлі і сказаў: „Вітаю цябе, чалавеча; умеў калісьці добра радзіць і быў адным з найразумнейшых!

Што-ж змусіла цябе, каб у турме пакарыўся ты прад уладамі і прызнаўся, што вінаваты? Аб гэтым чулі мы!

Чаму адрокся ад сэрца твайго і мінуўшчыны тваe? Ці-ж табе мукамі адабрала розум і памяць? Што-ж зрабіў ты?...

Пашкодзіў ты нам; бо гавораць нам сягодня чужынцы: „Вось правадыры вашыя адракаюцца ад чынаў сваіх і здрадзілі народу, — толькі малыя людзі трымаюцца моцна і вераць.

І гэтая вера малых ёсьць трывалая ў той час, калі людзі, якіх лічаць першымі ў народзе, прызнаюць памылкі свае і не спадзяюцца нават таго, што ім гэта даруюць“.

І калі ўсё гэта гаварыў Ангэльлі, — сталася так, як казаў Шаман. Уваскросшы застагнаў і памёр ізноў.

А Шаман сказаў: „Забіў ты яго, Ангэльлі, бо паўтарыў плёткі людзей і тое, як ачарнілі яго. Аб усім гэтым ня ведаў ён у хвіліну сьмерці.

Але ўваскрашу яго яшчэ раз, — а ты сьцеражыся, каб ізноў не забіць яго“.

І, прагаварыўшы гэта, збудзіў памёршага. І падняўся гэты чалавек у труне і ліліся сьлёзы з адчыненых вачэй яго.

Сказаў яму Ангэльлі: „Даруй мне, бо ня ведаў я, што чарню цябе і абмаўляю.

---

*) Глядзі „Беларуская Культура“ № 1, дзе зьмешчаны разьдзелы I, II і III.

Вось бачыў цябе ў Радзе Народу разам з тваім братам, бачыў заўсёды разам вашыя дзьве галовы белыя і чыстыя, падобныя да галубкоў, якія разам зьлятаюцца на проса.

Бо ўзапраўды, як два галубкі, зьляталіся вы на урну проектаў і вылушчалі зярнё правоў, а на мякіну вашу зьляталіся маленькія вераб'і і пяюкалі аб рэчах маленькіх.

Даруй мне, што параўняў вас з божымі птушкамі і пустымі рэчамі, але чыстата ваша і прастата так наказвае.

О, нешчасьлівыя! Вось адзін з вас на могілках сыбірскіх шукае сабе спакою, а другі ляжыць пад рожамі і кіпарысамі Сэкваны! Бедныя галубкі і разлучаны і памёрлі."

І, пачуўшы гэтыя словы,—уваскросшы крыкнуў: „Мой брат!"—і паваліўся ў труне і памёр.

А Шаман прагаварыў да Ангэльлі: „Нашто ты сказаў яму аб сьмерці брата? Вось адна хвіля і дазнаўся-б ён аб гэтым ад Бога і сустрэўся-б з сваім мілым братам у краіне неба.

Але так стала! Няхай зачыняць века трунаў і занясуць іх на могілкі. А ты не прасі ў мяне больш, каб уваскрашаў тых, каторыя сьпяць і адпачываюць!"

## РАЗЬДЗЕЛ V.

І так адбывалі Шаман з Ангэльлі падарожу па сумнай краіне і па пустых гасьцінцах пад шум лясоў сыбірскіх, сустракаючы змучаных людзей і пацяшаючы іх.

І вось аднаго разу увечар праходзілі каля ціхае, стаячае вады, над каторую расьлі плакучыя вербы і мала соснаў.

А Шаман, пабачыўшы рыбкі, якія выскаквалі да вячэрняе зары, сказаў: „Вось бачыш гэную плотку, што праляцела праз паветра і зноў затанула.

А цяпер расказвае сваім сёстрам на дне, што пабачыла неба, — а аб небе расказвае розныя рэчы і за гэта яна слаўная паміж іншымі рыбкамі.

Слухаючы аповесьць аб небе, заплывуць яны ў сетку і заўтра будуць прадавацца на рынку.

Ці ня ёсьць гэта навукаю для людзей і для тых, якія ідуць грамадою за прапаведнікамі, расказваючымі пра Бога і неба. Так сама даюць яны злавіць сябе ў сетку людзкую і прадаюцца.

Гавару, што хваробаю згубнаю ёсьць сумлівасьць і вялікае задумленьне аб душы.

Дзьве ёсьць сумлівасьці: адна — гэта сумлівасьць ад моцы, другая — ад слабасьці; першая ёсьць крыльлямі для людзеў высокіх, — другая каменем для людзей, якія топяцца.

Кажу табе аб гэтым, бо паддаешся суму і губляеш надзею".

Так размаўляючы паміж сабою, падыйшлі да грамады сыбірцаў, якія лавілі ў возеры рыбу. Рыбакі гэныя, пабачыўшы перад сабою Шамана, падбеглі да яго і загаманілі: „Кароль наш! Пакінуў ты нас для дабра чужых людзей. Сумна нам, бо ня бачым цябе паміж намі.

Застанься ў гэтую ноч. Зробім табе вячэру і пасьцелем табе ложа ў чоўне".

Сеў Шаман на зямлі, а рыбацкія дзеці і кабеты абкружылі яго і задавалі яму розныя пытаньні, на каторыя Шаман адказваў з усьмешкаю, бо былі пытаньні пустыя.

А па вячэры, калі ўзышоў месяц і разьліў сьвет свой па гладкай вадзе, як залаты гасьцінец на поўдзень

Кабеты і дзеці пачалі сумную размову, кажучы: „Пакінуў ты нас і ня робіш больш цудаў паміж намі.

Пачалі сумлявацца мы ў справах веры і ня ведаем нават, ці ёсьць у нас якаясь душа...“

На гэта Шаман з усьмешкаю сказаў: „Хочаце каб душу паказаў перад вашымі вачамі?“

І ўсе тады і дзеці і кабеты разам загаманілі: „Хочам! Зрабі гэта!“

І зьвярнуўся тады Шаман да Ангэльлі і сказаў: „Што-ж рабіць мне з гэтаю грамадою кавак? Ці хочаш, каб цябе ўсыпіў і душу тваю выклікаў з цела і паказаў яе гэтым людзям?

На гэта Ангэльлі адказаў яму: „Рабі, як табе падабаецца; ўладаеш мною“.

І паклікаў тады Шаман адно дзіцянё з грамады, пасадзіў яго на грудзёх Ангэльлі, каторы палажыўся, як да сну, і прагаварыў да гэнага дзіцяці:

Палажы твае ручкі на лоб гэтага хлопца і пакліч яго тры разы імем: „Ангэльлі“!

І сталася так, што на кліч дзіцяці вышаў з Ангэльлі дух, які меў прыгожую постаць і розныя колеры і белыя крыльлі на плячох.

І пабачыўшы сябе вольным, пайшоў гэты анёл на ваду і па стаўбе сьветлых праменьняў месяца адыходзіў на поўдзень.

Калі ўжо быў далёка, пасярэдзіне возера, сказаў Шаман дзіцяці паклікаць душу, каб вярнулася.

І аглянуўся ясны дух на кліч дзіцяці і вяртаўся неахвотна назад па залатой хвалі, валочачы па ёй канцы крыльляў сваіх, якія апалі ад смутку.

А калі казаў яму Шаман увайсьці ў цела чалавека, — застагнаў ён, як разьбітая гарфа і ўздрыгнуўся, але паслухаў.

І збудзіўся Ангэльлі і запытаў, што з ім было.

Адказалі яму рыбакі: „Пане! Бачылі душу тваю і просім цябе, будзь нашым каралём! Бо нат каралі кітайскія не ў такую сьветласьць убраны, як душа з твайго цела.

Ня бачылі мы нічога сьвятлейшага на зямлі, апрача сонца, і ніштo так ня зігціць, апрача ружовых і сініх зораў.

Крыльляў такіх ня маюць лебедзі, якія ў траўні ляцяць праз нашу зямлю.

Нават пачулі мы пах тысячы красак канваліяў.

І пачуўшы гэта, Ангэльлі зьвярнуўся да Шамана і запытаў: „Ці праўда ўсе гэта?“—а Шаман адказаў: „Праўда,—ўвесь ты ў моцы анёла.

І запытаў Ангэльлі: „Што-ж зрабіла душа мая, калі была вольнаю? Скажы мне, бо не памятаю“.

Адказаў яму Шаман: „Душа твая пайшла па тым залатым гасьцінцы, каторы ёсьць на вадзе ад месяца. Яна ўцякала ў далёкую старану так, як чалавек, каторы сьпяшаецца“.

На гэтыя словы апусьціў у задуменьні сваю галаву Ангэльлі і пачаў плакаць, кажучы: „Яна хацела вярнуцца на Бацькаўшчыну“.

## РАЗЬДЗЕЛ VI.

Калі-ж Шаман сьціснуў плач Ангэльлі,—пакінуў тады рыбакоў і адышоў у пустыню.

А месяц быў яшчэ высока, калі зайшлі да хаты старога чалавека, каторы прывітаў Шамана, як даўняга прыяцеля.

Гэта быў адзін з выгнанцаў барскіх *)... апошні.

Хата яго стаяла пад ценем шырокае яблыні і была поўна галубіных гнёздаў і пяяньня сьвершчаў; адзінокая была і спакойная.

І паставіў гэты старык перад гасьцямі цыновы збан, хлеба і чырвоных яблык, а потым пачаў, як заўсёды, гутарку аб мінуўшчыне і аб людзях, ужо памёршых.

Ня ведаў нічога аб тым, што ёсьць ужо новае пакаленьне ў Польшчы, што новыя былі рыцары і новыя мучанікі; не хацеў і ведаць аб гэтым, бо быў чалавекам мінуўшчыны.

Ён даўно ўжо страціў памяць, але добра памятаў рэчы, якія здарыліся за часы яго маладасьці; пра ўчора нічога ня ведаў і ня думаў аб дні заўтрашнім.

А жывіўся чарвякамі, каторых называюць чэрвецам і з іх плаціў падатак Цару; якраз гэта быў дзень зьбіраньня дані.

І вось праз гадзіну пад'ехаў да хаты мытнік і, напіўшыся з збана, прыпомніў аб дані.

Старац-жа аддаў усё, што меў, каб заплаціць падатак і ўзбагаціў гэтага прыслужніка.

Забраўшы ўсё, мытнік выйшаў з хаты, кажучы: „Вось там маеш яблыню, пакрытую пладамі; павінен я з яе ўзяць дзесяціну“ **).

І сказаўшы гэта, загадаў трасьці старое, разрослае дзерава, а Шаман прагаварыў да Ангэльлі:

„Ідзі і стань пад яблыняю і нічога не кажы да тых, што трасуць дзерава, аж пакуль не пакажу моцы Бога“.

І пайшоў Ангэльлі і стаў пад дажджом чырвоных яблык, як чалавек зусім спакойны.

І вось яблыню пакрыла вялікая яснасьць, а плады на ёй сталі зорамі. Яны зіхацелі і не ападалі больш.

А сьпячыя галубы абудзіліся, думаючы, што ўжо раніца і, ўмыўшы пёры, выляцелі ў ружовае паветра.

Сьветласьць гэтая так напужала мытнікаў, што, пакінуўшы ўвесь падатак, уцяклі са страху і, сеўшы на воз, ад'ехалі.

А Шаман, паклікаўшы Ангэльлі, сказаў: „Пойдзем, адгэтуль бо гаспадар пытацца ў нас будзе, якою ўладаю гэта робім, а гэта ёсьць тайна і значэньне тых зораў тайна ёсьць“.

Гэтак кажучы, абкружыў сябе і Ангэльлі цемраю, і выйшлі...

---

*) Удзельнік барскага паўстаньня проціў Кацярыны II.

**) Падатак — дзесятая часьць ураджаю.

## РАЗЬДЗЕЛ VII.

І сказаў Шаман: „Ня будзем паказваць цудаў і моцы Божай, якая ёсьць у нас, але плакаць будзем, бо зайшлі да людзей, каторыя ня бачаць сонца.

А ні навука ім непатрэбна, бо іх больш навучыла няшчасьце, а ні надзеі падаваць ім ня будзем, бо не паверацъ. У дэкрэце, што іх асудзіў, напісана было: „Навекі!“.

Вось капальні Сыбіры!

Ступай тутака асьцярожна, бо зямля брукована тут людзьмі, якія сьпяць. Чуеш? Вось дыхаюць голасна, а некаторыя з іх стогнуць і гавораць праз сон.

Адзін аб матцы сваёй, другі аб сёстрах і братох, а трэці аб доме сваім; аб тэй, якую кахаў сэрцам і аб палёх, дзе збожжа схілялася перад ім, як прад панам сваім і — шчасьлівыя яны праз сон... але збудзяцца.

У іншых капальнях выюць злачынцы, але гэта толькі ёсьць дамавінаю сыноў бацькаўшчыны і напоўнена цішынёю.

Ланцуг, што бразгае тут, смутны маець гук, а ў склепе розныя рэхі і адно рэха, якое кажа: „Шкадую вас“.

І ў той час, як Шаман быў поўны літасьці, ўвайшла варта і жаўнеры з лямпамі, каб разбудзіць спаўшых да працы.

Паўставалі тады ўсе з зямлі і абудзіліся, і йшлі, як авечкі, са спушчанымі галовамі, апрача аднаго, каторы ня ўстаў, бо памёр сонны.

І падышоўшы да тых, што йшлі на працу з малаткамі, Ангэльлі спытаўся ў аднаго з іх ціхім голасам, хто быў той памёршы і ад якое хваробы сканаў.

На гэта адказаў яму бляды чалавек-арыштант: „Той, аб якім пытаеш, ксяндзом быў; я яго знаў — спавядаў жонку маю і дзяцей маіх на Бацькаўшчыне.

А калі прыйшла вайна, сеў на каня з крыжам у руках і з босымі нагамі; а калі агонь быў перад радамі, стаў і клікаў: „За Бацькаўшчыну!... За Бацькаўшчыну!“

І запрасіў яго біскуп і выдаў у рукі катам, але прад гэтым зьняў з яго сан на гарадзкім рынку і выпусьціў з рук пастораль, і самлеў.

А каты схапілі Божага Чалавека і ўвапхнулі яго ў шэрую сярмягу, а потым замкнулі яго ў ёй, бо быў тоўстым і стаяў бяз рухаў, як няжывая рэч.

Тады прывязьлі яго ў капальню і прычвараўся, што яму добра на сэрцы, але я бачыў, што ён быў бляды і сумны.

І паддаўся роспачы і ссыхаў, як старое дзерава. Падыйшоўшы раз да яго сказаў: „Бойся Бога! Чаму грызеш сябе?“

І адказаў мне таёмна, як звар'яцеўшы: „Забыўся словы малітвы“... і, пагразіўшы мне пальцам, каб нікому не казаў, адышоў.

Пабачыў яго раз, як у цемнаце браў у вусны гнілое волава і еў гэтую атруту.

А праз колькі дзён на твар яго вышаў цагляны румянец, а цела апала на касьцях, як змочанае палатно палаткі, а вочы яго гарэлі і блішчэлі.

А сёньня ня ведаю, як памёр ён, бо вось спаў каля яго і ня чуў, каб хоць уздыхнуў.

Калі маеце сэрца, пашкадуйце яго, бо яго знаў—быў чалавек добры".

Ангэльлі тады зьвярнуўся да Шамана і сказаў: „Гэта самагубца".

Але Шаман закрыў вочы і, падняўшы з зямлі кавалак волава, сказаў: „Гэтае волава ёсьць забойца і злы райца, бо кажа: „Вазьмі мяне і зьеш, я — канец і супакой".

„Гэтае волава ёсьць ашуканцам, бо здаецца чалавеку Богам, каторы толькі Сам канчаець мукі навекі, а сэрцу дае супакой.

І пракляты той, хто прад маленькім віхрам падаець на землю і ломіцца... як патрэсканы стоўп.

Але прад сільным віхрам вам можна падаць... бо пашкадуюць вас.

Што-ж? Адмовяць вам сьвятых могілак; хто ведаець, які сон у непасьвенчанай магіле?

Але ўсё-ж лепей паміраць сярод грамады дзяцей і ўнукаў, якія плачуць... і глядзець на расьцьвітаньне вясновых дрэваў і мець ціхую гадзіну".

Калі-ж так гаварыў Шаман, акружылі яго колам няшчасныя жабракі і сказалі: „Добра вучыш, маеш сэрца, а можа нават прысланы ад Бога.

Ведай-жа, што пяць дзён таму ўпала скала і завaліла адзін з калідораў, дзе працаваў пэўны, стары чалавек з пяцьма сынамі, а варта ня хоча яе разьбіць у порах і кажа: „Гэта доўгая праца, няхай памрэ!"

А мы стаімо кожны дзень каля гэтае скалы і слухаем, ці жывуць яшчэ; але нічога ня чуваць у гэтай яміне, нават стогну.

Калі ты чалавек Божы, адвалі камень, можа яшчэ жыве бацька, або каторае з дзяцей яго.

Задзіві прынамсі катаў нашых, звольніўшы гэтых людзей, бо памруць з голаду".

Падвялі тады Шамана да гэтае скалы, і наступіла вялікая цішыня, а Шаман, падняўшы вочы ўгару, маліўся.

І прышоў пад'земны вецер і вывярнуў скалу так, што адкрылася цёмная і глыбокая скіўца і ніхто не адважыўся ўвайсьці ў яе першым.

Тады Шаман узяў каганец, увайшоў па разваленых каменьнях да яміны, а за ім Ангэльлі і зьняволеныя.

І жахлівы пабачылі від. На целе наймалодшага сына ляжаў бацька, як той сабака, які кладзе лапы свае на косьць.

А вочы ў таго бацькі блішчэлі, як шкло, а чацьвёра іншых памёршых ляжалі блізка, ляжалі адзін на адным.

І зірнуўшы на яго, Шаман сказаў: „Што я зрабіў? Вось бацька жывець, а сыны памёрлі. Нашто-ж я маліўся?"

Гэтак кажучы, выйшаў з яміны, а палова грамады ішла за ім.

# З АФОРЫЗМАЎ РОМЭНА РОЛЯНА *).

Мастак мусіць быць на баку жывых, мусіць хацеці піць малако жыцьця з грудзей сьвету, браць удзел у тым, што наша пакаленьне мае за найсьвяцейшае, мусіць хацеці чэрпаць натхненьне з любові агульналюдзкае, з любові сямейнае і з любові бацькаўшчыны. Так у вякох, што карысталіся найбольшаю воляю, калі ўвесь сьвет складаў чэсьць красе, Рафаэль—бацька італьянскага адраджэньня — падняў да найвялікшага жыцьцёвага сымболю мацярынства, ў сваіх непараўнаных мадоннах.

Хто нам дасьць сёньня Мадонну „della Sedia“? Хто створыць поэзію на ўсе гадзіны жыцьця!

Хто створыць, той запраўдны мастак.

Трэба кінуць баляст вучонасьці і кунштоўнае вырафінаванага гарманізаваньня.

Трэба, каб людзі любілі напісанае, трэба хацеці любіць, трэба жыць паводле любові. Супольна мусіць і аўтор і слухач шукаці скарбаў творчасьці.

Мусяць унікаць, як заразы, пустой мовы пэўнай касты людзей, якія завуцца артыстымі.

Трэба мець адвагу казаць да людзей так, як чалавек, а не як „артысты“.

Чэрпаці трэба з глыбіні, даступнае ўсім, ужываючы формы, асьвячоныя вякамі і поўныя любоўю людзкіх пакаленьняў.

Пах радзімае зямлі зрабіў тое, што творы клясыкаў зрабіліся проста нячувана популярнымі і адтрымалі вялізарную моц.

А ўсе яны ўзялі пачатак з найпрасьцейшае песьні.

Бесканечнасьць жыве ў кожным, хто пасьвячаецца ў ціхасьці, так што ніхто ня бача яго ахвяры.

Вось гэтая хваля жыцьця, якая ідзе здалёк да пэўнага об‘екту, і адбівае яго з размаху ў даль.

Апішы жыцьцё простае, ствары ціхі, спакойны твор дзён і начаў, наступаючых адно за адным, падобных да сябе, як дзецi адной маткі, але, аднак, надта розных.

---

*) Узята з твору „Ян-Хрыстафор“ Ромэна Роляна, вялікага францускага пісьменьніка і гуманістага. Па сьмерці Анатоля Франса, Р. Ролян зьяўляецца найвялікшым прадстаўніком сучаснае францускае літэратуры.

Пішы спакойна, ня імкніся да над'звычайнага ўражаньня; не марнуй на гэта сілы.

Кажаш усім, дык ужывай мову ўсіх.

Няма над'звычайных словаў, няма стылю шліфованага і нячыстага; ёсьць толькі людзі, якія кажуць ясна тое, што маюць сказаць, і ёсьць людзі, якія крыюць у словах сваіх поўны брак сутнасьці.

Укладайся цэлы ў тое, што робіш, думай цэлай душою.

Рытма сэрца хай гудзіць у тым, што пішаш.

Стыль — зброя душы. Тварэньне павінна мець раўнаважнік у прафэсіі, у працы, у штодзенным абавязку.

Пазбаўленае мусу працы на хлеб, яно губляе адну з найважнейшых частак, перастае быць жывой праўдай — робіцца роскашай.

Найвялікшыя гэніі сьвету выказалі ў мастацтве краскі цярпеньня чалавецтва.

Мастак мае абавязак бараніць мастацтва, ня можна яму ісьці на службу якое-колечы партыі.

Уратаваць сьвятло інтэлігэнцыі: гэта яго роля.

Мусяць быць працаўнікі, занятыя падтрыманьнем агню ў машыне, у той час, калі другія б'юцца на палубе карабля.

Мастак гэта бусоля, якая падчас буры заўсёды паказвае поўнач.

Найвышэйшае мастацтва, запраўды годнае гэтае назовы, знаходзіцца па-над усялякімі правамі дня, гэта ёсьць камэта, кінутая праз бесканечнасьць.

Быць можа, што гэтая сіла патрэбна, быць можа, што здаецца і непатрэбнай і небясьпечнай у парадку практычных рэчаў; але яна ёсьць моцай, рухам і агнём, гэта маланка, якая вырвалася з неба, і праз гэта сьвятая і дабрадзейная.

Дабрадзействы яе могуць быць нават практычнае натуры, але яе запраўдныя, яе нябесныя дабрадзействы гэта, як вера над'звычайнага парадку. Яна падобна да сонца, з якога паўстала.

Сонца ня ёсьць ані моральнае, ані неморальнае. Яно ёсьць, каторае ёсьць.

Яно расьсьвятляе ночы прастору так, як і мастацтва.

**МАКСІМ ГОРКІ.**

# ЧАЛАВЕК.

*(Пераклад з расейскага.)*

I.

... У гадзіны ўтомы духу, — калі памяць ажыўляе цені мінулага і ад іх на сэрца вее холадам, — калі думка, як бяз'імпатнае сонца восені, асьвятляе грозны хаос цяперашняга і злавешчліва круціцца на адны месцы, бясьсільнае падняцца вышэй, ляцець наперад; — у цяжкія гадзіны ўтомы духу, сілаю майго ўяўленьня, я выклікаю перад сабою вялічны абраз Чалавека!

Чалавек! Быццам сонца родзіцца ў грудзёх маіх, і ў зыркім сьвятле яго, неахопны, як сьвет, памалу ступае — наперад! і вышэй! трагічна-прыгожы Чалавек!

Я бачу яго гордае чало і адважныя, глыбокія вочы, а ў іх — праменьні бясстрашнае, магутнае Думкі, тэй Думкі, што схапіла цудоўную гармонію сусьвету, тэй вялічавай сілы, якая ў мамэнты змогі — творыць Багоў, у эпохі бодрасьці — іх перакуляе.

Закінены сярод пустыняў сусьвету, адзін на маленькім кавалку зямлі, які прэцца з такою, што й не ўлавіць, быстрынёю кудысьці ў глыбіню бязьмернага прастору, турзаны балючым пытаньнем — „нашто ён істнуе“? — ён мужна рухаецца — наперад! і вышэй! па шляху да перамогаў над усімі тайнамі зямлі і неба.

Ідзе ён, росячы крывёю сэрца свой трудны, адзінотны, горды шлях, і ствараe з гэтае палючае крыві-поэзіі нятленныя краскі; тужлівы крык душы свае мяцежнай у музыку ён спрытна пратварае, з дасьведчаньня — навукі ён стварае і, кожным шагам упрыгожваючы жыцьцё, як сонца зямлю шчодрымі праменьнямі, — ён рухаецца ўсё — вышэй! і ўперад! зарою пуцяводнай для зямлі...

Азброены толькі сілай Думкі, якая то да маланкі падобная, то халодна-спакойная, быццам меч, — ідзе вольны, горды Чалавек далёка наперадзе людзей і вышэй за жыцьцё, адзін — сярод загадак быцьця, адзін між натаўпу сваіх памылак... і ўсе яны кладуцца цяжкім гнётам на сэрца гордае яго і раняць сэрца, і турзаюць мазгі, і, распальваючы ў ім гарачы сорам за іх, клічуць яго — іх зьнішчыць.

Ідзе! У грудзёх яго равуць інстынкты, агідна ные голас самалюбства, як наглы жабрак вымагаючы падачкі, прывязаннасьцяў чэпкія валокны апутваюць сэрца, быццам плюшч, кормяцца яго гарачаю крывёю і гучна вымагаюць уступак сіле іхняй... усе пачуцьці апанаваць яго жадаюць, усё хоча ўлады над яго душою.

А хмары розных дробязяў жыцьцёвых, падобныя да калу на яго дарозе і да гнюсных жабаў на яго шляху.

I як плянэты абкружаюць сонца — так Чалавека цесна абкружаюць стварэньні яго творчага духу: яго — заўсёды галодная — Любоў; здалёк, за ім

прыкульгвае Дружба; прад ім ідзе ўтомленая Надзея; вось Ненавісьць, ахопленая Гневам, зьвініць кайданамі цярпеньня на руках, а Вера глядзіць цёмнымі вачыма ў яго мяцежны твар і жджэ яго ў свае спакойныя абняцьці...

Ён знае ўсіх у сваёй панурай сьвіце — калекія, недасканальныя, слабыя стварэньні яго творчага духу!

Апраненыя ў лахманы праўдаў, атручаныя ядам забабонаў, яны воражна ідуць ззаду Думкі, не пасьпяваючы за яе палётам, як груган за арлом не пасьпявае, і з ёю спрэчку аб пяршынстве вядуць, і рэдка з ёй зьліваюцца яны ў адно магутнае і творчае полымя.

І тут-жа — вечны спадарожнік Чалавека — нямая і таямнічая Сьмерць, увесь час гатовая пацалаваць яго ў гаручае смагаю жыцьця сэрца.

Ён знае ўсіх у сваёй бясьсьмертнай сьвіце і, нарэшце, яшчэ адно ён знае — Шаленства...

Крылатае, магутнае, як віхар, яно сочыць за ім варожым поглядам і акрыляе Думку сваёю сілай, імкнучыся ўцягнуць яе ў свой дзікі танец...

І толькі Думка — дружка Чалавека, і толькі з ёю ён заўсёды неразлучны, і толькі полымя Думкі асьвятляе перад ім перашкоды яго шляху, загадкі жыцьця, змрок тайнаў прыроды і цёмны хаос у яго сэрцы.

Вольная дружка Чалавека, Думка ўсюды пазірае зоркім, вострым вокам і бязьлітасна асьвятляе ўсё:

— Любові хітрыя й паскудныя ухваткі, яе жаданьне заўладаць любімым, імкненьне паніжаць і паніжацца і — чуцьцёвасьці нячысты твар за ёю;

пужлівае бясьсільле Надзеі й Ману за ёю — сястру яе родную — убраную, расфарбаваную Ману, гатовую заўсёды і ўсіх уцешыць і — ашукаць сваім харошым словам;

— Думка асьвятляе ў старым сэрцы Дружбы яе мяркоўлівую асьцярожнасьць, яе жорсткую, пустую цікаўлівасьць і зайздрасьці гнілыя пляны і языклівасьці зародышы на іх;

— Думка бачыць чорнай Ненавісьці сілу і ведае: калі з яе скінуць кайданы, — тады яна ўсё на зямлі зруйнуе і нават справядлівасьці атожылкаў не пашкадуе!

Думка асьвятляе ў нярухлівай Веры і злую смагу бязьмежнае ўлады, што імкнецца парабаціць усе пачуцьці, і схаваныя пазуры піхаверства, бясьсільле яе цяжкіх крыльляў, і — сьлепату пустых яе вачэй.

Яна ў барацьбу пушчаецца і з Сьмерцяй: ёй бо, з быдля стварыўшай Чалавека, ёй стварыўшай, ой, як шмат, багоў, сыстэмы філёзофскія, навукі — ключы да загадкаў сьвету, — вольнай і бясьсьмертнай Думцы — няміла і варожа гэтая сіла, бясплодная і часта дурна-злая.

Сьмерць для яе — ганучніцы падобна, — ганучніцы, што ходзіць па сьметніках і зьбірае ў гразны свой мяшок ад'жыўшае, гнілое, непатрэбныя воцерабкі, але часамі прыдзе навальна здаровае і моцнае.

Прапоеная пахам гніеньня, ахіненая жаху пакровам, бяз'імпатная, бястварая, нямая, суроваю і чорнаю загадкаю заўсёды стаіць перад Чалавекам Сьмерць, а Думка яе заўзята вывучае — творачая і зыркая, як сонца, поўная парыўчасьці шалёнай і гордае сьвядомасьці бясьсьмерцьця...

Гэтак ступае мяцежны Чалавек праз жудны змрок загадак існаваньня — аперад! і вышэй! усё — наперад! і вышэй!

II.

Вось ён змогся, хістаецца і стогне; спалоханая сэрца шукае Веры і гучна просіць тонкіх ласкаў Любові.

І слабасьцяй народжаныя птушкі тры — Жыцьцё, Роспач, Туга, — тры птушкі чорныя й калекія — злавешчна над яго праносяцца душою і ўсё пяюць яму панура песьню аб тым, што ён — нікчэмная кузулька, што абмяжована яго сьвядомасьць, бясьсільна Думка, сьмешна сьвятая гордасьць і — што-б ён ні рабіў, а — ён памрэ.

Дрыжыць яго ўжо стурзанае сэрца пад гэту песьню і хлусьлівую, і ліхую, няпэўнасьцяў іголкі колюць мазгі яго, і на вачох блішчыць сьляза крыўды...

І калі гордасьць у ім не забунтуе, — страх Сьмерці ўладна гоніць Чалавека ў цямніцу Веры, Любоў, пераможна ўсьмяхаючыся, цягне яго ў свае абняцьці, хаваючы ў гучных абяцаньнях шчасьця сумнае бясьсільле быць большаю і смажны дэспотызм інстынкту...

У саюзе з Маной, трусьлівая Надзея пяе яму аб радасьцях спакою, пяе аб ціхім шчасьці прымірэньня і мягкімі, харошымі словамі люляе той, што ўжо драмоцтвуе, дух, піхаючы яго ў сьлізь галоднага Гультайства і ў лапы Суму, сына яго.

І, па нагавору сьлепаватых пачуцьцёў, ён пасьпешліва напойвае мазгі і сэрца прыемнаю атрутаю тае цынічнае Маны, якая проста вучыць, што Чалавеку няма шляху іншага, як шлях на быдлячы падворак спакойнага здаволеньня з сябе самога.

Але Думка гордая, і Чалавек ёй дарагі, — яна ўступае ў злую бітву з Маною і поле бітвы — сэрца Чалавека.

Як вораг, яна прасьледуе яго; як чарвяк, бяз утомы точыць мазгі; як засуха, пустошыць грудзі; і, як кат, пытае Чалавека, бязьлітасна сьціскаючы яго сэрца бадзёрным холадам тугі па праўдзе, суровай мудрай праўдзе жыцьця, якая хоць марудна расьце, але ясна відная праз змрок памылак, як нейкая агністая краска, народжаная Думкай.

Але калі Чалавек атручаны ядам Маны невылячальна і ўжо цьвёрда верыць, што на зямлі няма шчасьця, вышэйшага за паўнату жывата і душы, няма насалодаў, вышэйшых за сытасьць, спакой і дробныя жыцьцёвыя выгады, тады ў палоне ўцешанага пачуцьця панура спушчае крыльля Думка і — драмае пакідаючы Чалавека ўва ўладзе яго сэрца.

І воблаку заразнаму падобнае, гнілое Паскудзтва, подлага Суму дзіцянё, з усіх бакоў паўзе на Чалавека, ахінаючы едкім, шэрым пылам і мазгі яго, і сэрца, і вочы.

І Чалавек губляе сам сябе, перароджаны слабасьцьцю сваёю ў быдлё бяз гордасьці і Думкі...

Але калі бунт загарыцца ў ім, дык ён разбудзіць Думку, і — зноў ідзе ён далей, адзін праз церні сваіх памылак, адзін сярод палючых іскраў сваіх няпэўнасьцяў, адзін сярод руінаў старых праўдаў!

Вялічны, горды і вольны, ён мужна пазірае ў вочы праўдзе і кажа няпэўнасьцям сваім:

— „Вы маніцё, кажучы, што я бясьсільны, што абмяжована мая сьвядомасьць! Яна — расьце! Я гэта ведаю, бачу, я адчуваю — яна ўва мне расьце! Я ахапляю рост сьвядомасьці мае маіх пакутаў сілаю, і — ведаю, — што калі-б не расла яна, дык я не пакутаваў-бы больш, як раней.

— „Але з кожным шагам я ўсё большага хачу, ўсё больш адчуваю, усё болей, глыбей бачу, і гэты борзды рост маіх жаданьняў — магутны рост сьвядомасьці мае! Цяпер яна ўва мне — падобная да іскры — ну, што-ж? То-ж іскры — гэта маткі пажараў! Я — ў будучым — пажар у цьме сусьвету, І прызваны я, каб асьвяціць увесь сьвет, растапіць цемру яго загадак тайных! знайсьці гармонію паміж сабою і сьветам, у самым сабе гармонію стварыць і, азарыўшы ўвесь цёмны хаос жыцьця на гэтай спакутаванай зямлі, пакрытай, як наскурнаю хваробаю, карою няшчасьцяў, бяды, гора, злосьці, — усю ліхую гразь з яе зьмясьці ў магілу мінулага!

— „Я прызваны для таго, каб распутаць вузлы ўсіх момэнтаў зьбіцьця з дарогі і памылак, вузлы, зьвязаўшыя запалоханых людзей у крывавы і агідны камяк жывёлаў, што ўзаемна жаруць адно аднаго!

— Я створаны Думкай на тое, каб перакуліць, раскідаць, растаптаць усё старое, ўсё цеснае і гразнае, усё ліхое, — і новае стварыць на выкаваных Думкай непарушных устоях волі, хараства і — пашаны да людзей!

— „Непрымірымы вораг пагарднае ўбогасьці людзкіх жаданьняў, хачу, каб кожны з людзей быў Чалавекам!

— Бессэнсоўнае, нічога нявартае і агіднае ўсё гэтае жыцьцё, з якім непасільная і рабская праца адных бясьсьледна, ўся ідзе на тое, каб іншыя аб'ядаліся і хлебам, і дарамі духу!

— „Хай будуць прокляты ўсе прывычкі, апутаўшыя мазгі і жыцьцё людзей, бы тое ліпкае павуценьне. Яны перашкаджаюць жыць, гвалцячы людзей;— я іх зруйную!

— „Мая зброя — Думка, а цьвёрдая ўпэўненасьць у свабодзе Думкі, ў яе бясьсьмерцьці і вечным росьце творчасьці яе — невычарпальная крыніца мае сілы!

— „Думка для мяне ёсьць вечны і адзіна неманлівы маяк у змроку жыцьця, агонь у цемры яе пагардных сходжаньняў з дарогі; я бачу, што ўсё зырчэй ён гарыць, усё глыбей асьвятляе бяздоньні тайнаў, і я іду ў праменьнях бясьсьмертнае Думкі, сьледам за ёю, ўсё вышэй! і — ўперад!

— „Для Думкі няма цьвярдыняў незруйнавальных ні на зямлі, ні ў небе! Усё ствараецца ёю, і гэта ёй дае сьвятое, неадбіральнае права зруйнаваць усё, што можа замінаць свабодзе яе росту.

— „Спакойна разумею, што забабоны — абломкі старых праўдаў, а хмары сходжаньняў з дарогі, што цяпер круцяцца над жыцьцём, усе створаны з попелу старых праўдаў, спаленых полымем усё той-жа самай Думкі, што калісьці іх стварыла.

— „І разумею, што перамагаюць ня тыя, хто бярэ плады перамогі, а толькі тыя, што астаюцца на полі бою...

— „Сэнс жыцьця — бачу ў творчасьці, а творчасьць сама ў сабе і бязьмежна!

— „Іду, каб згарэць як мага зырчэй, і глыбей асьвяціць цемру жыцьця. І пагібель для мяне — мая нагарода.

— „Іншых нагародаў ня трэба для мяне, я бачу: ўлада — нічога нявартая і нудная, багацьце — цяжкае і дурное, а слава — забабон, паўстаўшы з няўменьня людзей цаніць самых сябе і рабскай іх прывычкі паніжацца.

— „Няпэўнасьці! Вы — толькі іскры Думкі, ня больш. Сама сябе сабою прабуючы, яна родзіць вас ад лішкі сілаў і корміць вас — сваёю-ж сілай!

— „Надойдзе дзень — у грудзёх маіх зьлецца ў адно вялікае і творчае полымя сьвет пачуцьця майго з маёю бясьсьмертнаю Думкаю, і гэтым самым я выпалю з душы ўсё цёмнае, жорсткае й ліхое, і буду я падобны да тых багоў, што Думка мая тварыла і творыць!

— Усё ў Чалавеку, — усё — для Чалавека!“.

Вось ізноў, вялічавы і вольны, задраўшы высока гордую голаў, ён памалу, але цьвёрдымі шагамі, ідзе па праху старых забабонаў, адзін у сівым тумане памылак, за ім — пыл мінулага цяжкаю хмараю, а наперадзе — стаіць натаўп загадак, што бяз'імпатна чакаюць яго.

Яны бяз ліку, як зоркі ў бяздоньні неба, і — Чалавеку няма канца шляху!

Гэтак ступае мяцежны Чалавек — наперад! і — вышэй! усё наперад! і — вышэй!

Пералажыў *Краўцоў Макар.*

* *
*

*Кружыцца вольная птушка крылатая*
*Кругам паточыстым, — вышай узьлятае,*
*Крокам размашыстым ідзе наш ратай:*
*Наш ранены край ня ўмірае!*

*Вясна разбудзіла сярмяжныя нівы,*
*На Нёмане лёд пасінеўшы ўздымае:*
*Шуміць бор адвечны, таёмны бор сівы:*
*Наш ранены край ня ўмірае!*

*Крывёю крывіцкаю точыцца рана*
*Сьціскаецца сэрца ад болю.*
*Край наш нявольны! Край запрадaны*
*Калі-жа пабачыш ты волю?*

*Кружыцца вольная птушка крылатая*
*Над Нёманам сінім высока ўзьлятае*
*І крыкам прарочым, крыкам прадсьмертным*
*Наш край беларускі вітае.*

*Я. ДОЛІН.*

# СПАТКАНЬНЕ.

(*Абразок*).

Плакалі драты на тэлефонных стаўпох.

Вецер сумна стагнаў у шырокім полі.

Паўзьлі шэрыя карагоды хмараў. Па разьлезлай ад дажджу дарозе шагаў згорблены хлапец; сумныя думкі катлавалі ў маладой галаве.

Так, ён — Міхась, мусіць кідаці родную вёску, родны бацькаўскі загон і ехаць у чужое, нязнанае места ў заработкі.

Што рабіць?... Іншае рады няма. Сям'я вялікая, зямлі мала... Так, трэба недзе прадаці сваю сілу. Ён мусіць знайсьці кавалак хлеба... Дык у дарогу!...

У далі, праз шэрую імглу вясновае ночы, заблішчэлі вогнікі станцыі.

Цягнік ужо чакаў пасажыраў, пыхкаючы быццам зьнецярпліўлены.

Міхал падыйшоў да самай станцыі.

Людзей было малавата; дый хто бачыў, каб з гэтага месца было шмат пасажыраў.

Міхась узяў білет і асьцярожна з сваім хатулькам усеўся ў вагоне.

Праз хвіліну раздаўся сьвісток і цягнік, сапучы дый мягка калыхаючыся рушыў.

Міхал выхіліўся праз вакно і прыглядаўся да зьнікаўшых у імгле контураў; шмат разоў ад'яжджаў ён, але ніколі не перажываў такога суму.

Стукалі колы цягніка, здаецца, пяючы нейкую песьню вечна паўтаральнага жыцьця, якое, на першы пагляд, ступае бязупынку ўперад, пяючы песьні адраджэньня, а аднак вечна паўтараецца, вечна круціцца каля аднаго пункту.

Гэтае калыханьне і гэты грукат, мімаволі прымушаў чалавека думаць, думаць упорна; і Міхал думаў. У перадзеле ня было нікога.

— „Так, бацька ня можа памагчы мне выбіцца на дарогу, ці здолею сваімі сіламі здабыць асьвету?... Эх, як шкада школы, але што рабіць, мушу... Мілае жыцьцё вучня пракацілася, цяпер у заработкі, без надзеі на лепшую будучыну... Але калі трэба, дык трэба..."

І гэтак бясконца зьбіваўся шэры карагод думак у маладой галаве.

Прайшоў кандуктар, праверыў білеты.

Міхал паволі задрамаў. Яму сьніўся сон: Вось нейкая вялікая гадзіна хоча праглынуці яго, ён стаіць маленькі, безбаронны супроць яе. Вось ужо блізіцца страшная разяўленая ляпа...

Ён раптам прабудзіўся.

Цягнік падыходзіў да нейкай станцыі і нарэшце спыніўся.

Каля яго ўладжваўся нейкі жыдок, а насупроць сядзела маладая жанчына. Ён аглядзеўся, праціраючы заспаныя вочы і, ўспомніўшы, што ён у дарозе, стаў разглядацца, пасьля выцягнуў з пакунка хлеба, крышку перакусіў.

Жыдок зукоса прыглядаўся да яго.

Цягнік імчаў...

Ужо расьсьвітала, калі Міхалка быў, нарэшце, ў месьце. Яно жыло і кіпела: нясьліся трамваі звонячы наперабой, ішлі людзі, гудзелі аўты. Міхал адразу згубіўся ў гэтым гвалце. Пасьля ўспомніў № трамваю; дачакаў яго і пакаціў.

Яго сябра ўжо дзе-які час працаваў у месьце і меў нейкае памешканьне; у яго Міхал і думаў прыпыніцца. Гэта быў адзін з найлепшых яго сяброў.

Трамвай спыніўся, Міхась быў ужо за местам.

Адусюль тырчэлі коміны фабрык, людзі сьпяшылі ўжо на працу. Гудзелі гудкі.

На вуліцы таялі гурбіны сьнегу, брудныя, зьбітыя. Усюды стаялі лужы.

Міхась пайшоў. Ён успомніў дарогу, якой меў трапіць да прыяцеля.

— „Ага, вось ужо і мост, цяпер направа 36 №; так, хіба тутака“.

Ён спыніўся перад вялізарнай шэрай грамадзінай, навакол бруд і нейкі прыкры пах. Ён увайшоў у падворак, той прыняў яго і праглынуў у цемнаце сваёй. З трудом знайшоў Міхась канурку прыяцеля, той пазнаў яго, пасадзіў; паказаў нейкае паломанае ложка з бярлогам на ім і казаў адпачываць, чакаючы яго, сам, ледзь перакусіўшы, пабег.

Міхась стаў аглядацца, дзіўнае ўражаньне кідала на яго места.

Чалавек жыве ў нейкай клетцы, ўсё агароджана, ўсюды сьцены, то ўсё такое шэрае нуднае, то яркае, рабое. Дзерава тутака і тое ня мае прастору, яно забіта, абмяжована і роўненька падстрыжана.

Усе сьпяшаюцца, ўсе, ўсе... Тутака бедната, гразь, там палацы, чысьціня, багацтва, якая рэзкасьць, якая няроўнасьць лініі...

Там плаўны пераход фарбаў, там пэўны тон, які так балюча ня рэжа вачэй, там — у яго далёкай вёсцы, а тут?.. брр!.. як нясвойска, але што рабіць, трэ' прывыкаць.

І ён стаў аглядацца ў канурцы.

Сьцены нейкія мокрыя, быццам заплясьнеўшыя, столік каля вакна, а вакно-ж, забрызганае балотам, праз яго мільгаюць ногі прахожых; пара табурэтак, жалезнае ложка, на якім ён сядзеў, паломанае, пагнутае.

Эхе, хе! трудная рада; ён выцягнуў свае запасы і пасьнедаў.

За сьценкай нехта хрыпла закашляўся і закляўся.

Пасьнедаўшы, ён, не разьдзяваючыся нават, кінуўся на ложка і заснуў, як мёртвы.

Праснуўся, чуючы, што яго нехта тармосіць. Яго сябра, Янук, сьмяяўся, будзячы яго.

„Ну, ўставай, уставай, час ужо і аб працы падумаць, ці-ж ты спаць сюды прыехаў?“.

Міхал ускочыў, праціраючы заспаныя вочы.

Янук усеўся на тубарэце, выцягнуў папіросы і пачаставаў яго, абое задымілі. — „Ну, кажы, брат, што-ж там у вас новага, а?“ — пачаў ён, — „Э, што-ж новага быць можа, ўсё ідзе, як і йшло„. — "А як маці?" — „Неяк, брат, рушыцца, сходзе недзе з боку. Значыць, нешта прызаробіць, ну і жыве. Так. так“ ... — працягнуў Міхалка, зяўнуўшы.

— „Што ж, братко, мо' пойдзем у места?“ — ажывіўся Янук, — „тут тракцірчык слаўны ёсьць, можна... шкалік і закусіць дзе-чаго дастаць, а заўтра раніцай на працу. Гаварыў я з кіраўнікам фабрыкі, дык можаш працаваць у машынным аддзеле, ў качагарні, значыць, але гэта заўтра, а сёньня ідзём“.

Ён устаў і абодва апрануўшыся падымаліся на сходкі, пасьля выйшлі на брудны панадворак і зараз выкіраваліся на вуліцу. Ужо шарэла.

Прайшоўшы пару крокаў, была піўная, яны ўвайшлі.

Гэта было цёмнае, панурае памешканьне, прапітае нейкім дзіўным пахам; у глыбі яго стаяў прылавак, каля вокнаў пара столікаў. За адным з іх сядзе-

ла некалькі маладых, як і яны, хлопцаў, якія моўчкі закусвалі, зрэдка выймаючы з-пад палы бутэльку і даліваючы з яе да піва, якое стаяла на стале, выпівалі

Яны ўселіся. Міхал стаў разглядацца.

За сьценкай, у суседнім пакоі шумелі, гулка стукалі більярдныя кулі, нехта пачаў пяяць.

Янук падыйшоў да стойкі, нешта заказаў. Праз хвіліну маленькі брудны чалавечак, з дзіўна пакорнымі вачыма цяляці, лоўка лявіруючы і круцячы талеркай з хлебам, паставіў яе на стол; пасьля селядзец і агуркі, так сама, лоўка перакруціўшыся ў паветры, спусьціліся на стол; а там і піва і гарэлка.

Янук наліў Міхасю і сабе. Абое хлопнулі па чарцы і кашлянуўшы плюнулі. З-за суседняга століка даносілася: ...„Ведаеш, браце, няма чаго бедаваць, я табе пакажу яе... Эх! вось дык дзяўчынка, цацачка, адно слова“..., а другі басіў: ...„Не, надаела мне гэтае жыцьцё, дурна тутка ўсё зладжана, вось каб грошы... купіў-бы...“ Ён замоўк на хвіліну, быццам забыўшыся, *што* хацеў купіць запраўды. ...„вось купіў-бы сабе рэвальвэр, і... застрэліўся-б“, — дакончыў ён.

Громкі рогат пакрыў яго словы: „Чудак з цябе, ты лепш, што глупства купляць, палажы грошы на яе, я табе кажу, проста не адыйдзі“... — ня спыняўся другі. — „Кінь глупства гаварыць“... — ізноў перапыніў бас, і Міхасю здалося, што гаварыўшаму надта цяжка на сэрцы, а мо' так і сапраўды было. Ён чуў, што ў яго ў галаве ўжо круціцца, і што яго разьбірае ахвота пагаварыць з гэным хлапцом, так пасяброўску. Ён выпіў яшчэ. Янук падліваў. Раптам, за сьценкай заныў, заплакаў, гармонік, і Міхасю зрабілася дзіўна міла на сэрцы.

Адзін з іхніх суседзяў устаў і, киваючыся, няпэўным голасам пачаў прапанаваць: „Сябры, даражэнькія я... я...“ — ён заікнуўся — „...прапаную выпіць за вёску нашую далёкую, за братоў нашых і за нашае аб'яднаньне!“

Янук устаў з-за століка, Міхась пайшоў за яго прыкладам і абодва хістаючыся падыйшлі да суседзяў-хлапцоў.

Янук падыйшоўшы, заплятаючыся ў словах, пачаў тлумачыцца, што і ён хоча выпіць за вёску радзімую.

Жыва перазнаёміліся, стулілі столікі, нехта пачаў пяяць. і чарка абыйшла стол.

Родная мова, ў вуснах незнаёмых, неяк асабліва цягнула Міхася да іх, апроч таго ўжо шумела ў галаве і за сьценкай, так сумна песьцячы душу, выводзіў гармонік.

Хлапцы былі студэнтамі. Паліліся размовы, і аб чым толькі не гаварылася; сыпаліся прыказкі, стукалі чаркі. Пілі за ўсё: за родную, далёкую вёску, за сыноў яе, якія мусяць, выкінутыя лёсам бедняка, працаваць на чужацкіх фабрыках, за сыноў яе, якія галадаючы дабіваюцца асьветы, за сыноў яе, якія ходзяць за плугам, прыгнечаныя і цёмныя; пілі яны за цесны хаўрус іх усіх. Пілі за ўвесь народ Беларускі.

Загудзелі песьні і толькі ўжо а 12-ай гадзіне развалакліся яны па хатах.

Янук з Міхасём, трымаючыся адзін аднаго, дабраліся да хаты і зараз-жа заснулі.

Назаўтра раніцай Янка павёў Міхася на працу. Вялізарныя фабрычныя будынкі, людзі, якія рыхталіся да рабочага дня, дзіўна хвалявалі яго душой. Усё чужое, усё такое халоднае, як сталь машынаў і цэглы сьценаў.

Па выкананьні звычайных фармальнасьцяў прыпіскі і па атрыманьні рабочае кніжкі, дзесятнік адвёў яго ў машынны аддзел; каля вялікай печы, якая абслугоўвала паравік, даючы жыцьцё ўсей фабрыцы, было яго месца.

Ён стаў з лапатай, яго абавязкам было падтрыманьне агню ў печы, падкідваючы ў топку вугаль.

Машыністы пацягнуў шнурок, рэзка загудзела зараўла сырэна. Завурчэлі, закруціліся колы. Вялізарны сталёвы волат пачаў дыхаць.

Работа ня была Міхалу цяжкай, у параўнаньні з вясковай; ён кідаў вугальлё ў топку, абціраючы, час ад часу, чорнай рукой, спацеўшы лоб.

У тахту руху машын, у галаве заварушыліся думкі, выпаўзаючы з невядомых куткоў і зьвіваючыся ў дзіўныя комбінацыі.

Міхась раптам схапануўся: „Чаму-ж я ня спытаўся ў Янука, дзе Галя?..“ Ён успомніў, ціхі сьвяточны майскі вечар, яны разам гулялі пад жытам; сколькі яны супольна перадумалі ўсяго, усяго, колькі плянаў будавалі на будучае!.. Мілая Галя, яна мусіла так, як і ён, кінуць вёску і ехаць у места. Дзе-ж яна?.. Блізка два гады, як выехала і што ў вадзе ўтапілася — ні слуху, ні духу...

— „Трэба спытацца ў Янука, ён хіба ведае?“.

І Міхась кідаў і кідаў вугальлё ў цёмную прорву.

...„Як цяжка было на сэрцы, калі яна ад'яжджала, як сумна было на сэрцы... ну, але-ж мы спаткаемся, абавязкова спаткаемся!..“ — праносілася ў яго ў галаве.

Раптам ён угледзіў самаход, які з шумам укаціў на фабрычны падворак; з яго вылез нейкі поўны, як бочка, чалавек і другі малады, тонкі, пэўна яго сын.

Абодва скіраваліся да машыннага аддзелу. Міхась заглядзеўся на іх і на хвілю спыніўся. Неспадзейна ён пачуў: „Ну, быдлё, чаго стаіш, іш ты, грошы бярэ, каб дурака корчыць, я такую шэльму ў момэнт разьлічу!“.

Гэта крычэў прыехаўшы гаспадар фабрыкі і крык яго балюча, як бізуном, сьцебануў Міхася; ён зразумеў, што прадаў сваю працу і свой час, і той мае права выцягнуць з яго ўсё, што ён можа даць. Ён разумеў гэта, але ў душы яго катлавала, ён мусіць за гэтыя марныя грошы даваць усё, і толькі за тое, каб пражыць, а той можа ўжываць жыцьця, пакрыкваючы і пануквіючы іншых; чаму так ёсьць? чаму?

І яго простая душа шукала разгадкі, а разам з тым паднімалася жаданьне зьвера, схапіць кавалак вугля і пусьціць яго ў жырны карак.

Ён ужо чуў ад Янкі, што надта трудна ім увайсьці ў сувязь з іншымі рабочымі, трэба дэнацыяналізавацца, каб поўнасьцю правясьці гэта ў жыцьцё.

І зноў прад ім уставала дзіўнае пытаньне:

Чаму? Чаму?

І цяжка давіла яго думкі чужая, нявольніцкая атмосфэра...

Кончыўся рабочы дзень, пачалі разыходзіцца па хатах. Міхась пацягнуўся таксама. Зараз-жа да хаты прыйшоў і Янук. Гаспадыня, у якой наймалі пакой, варыла ім і абеды. Паабедалі.

Янук пачаў распытвацца, як Міхасю падабаецца праца, якое ўражаньне кідае на яго. Той расказаў яму ўсё, што перадумаў.

— „Так, так, братка! што рабіць? мусіш прывыкаць, мусіш неяк прыклейвацца, хоць мо' і душна ў чужой атмосфэры, сілы няма, каб даць пэўны адпор і трэбаваць роўнага месца. Нас шмат, але ці мы арганізуемся?.. трэба забыць роднае, а цяжка на сэрцы, дык гарэлачкай сэрца пацешыш, што аб гэтым і думаць“...

— „Братка, ты мой!“ — перарваў Міхась — „а скажы ты мне, дзе-ж Галя, мо' ведаеш?..“

Запанавала хвіліна маўчаньня.

— „Дзе, пытаеш?.. Э! лепш ня пытай, яна — дзеўчына прапала... ім цяжэй тутака ўтрымацца, пайшла, брат, па лёгкай дарозе, гандлюе, вось, сабой“...

Згледзіўшы, што Мішук дзіўна зьмяніўся на твары, ён падскочыў да яго:

— „Што з табою, Міхась?“ Той адпіхнуў яго ад сябе.

— „Кажы, кажы...“ — прамармытаў.

— „Ну, што-ж, далей думаю ведаеш яе лёс, хіба вось толькі, здаецца, прастудзілася летась, дык ці ня сухоты толькі мае?.. Цяжка ей, браток, ня з радасьці пайшла“... Міхась сядзеў, нізка схіліўшыся — ён плакаў.

---

Прайшла пара дзён. Раніцай Міхась і Янук заўсёды ўскаківалі, перакусвалі, што папала, і беглі на фабрыку. Праца ня была цяжарам Міхасю, але моральна ён чуўся зусім разьбітым, прыгнечаным і стоптаным.

У душы падымаўся бунт, але што-ж? ён не адзін гэта перажывае, — „кожны з нас, выкінуты з вёскі, перажывае тое самае, — думаў ён, — кожны так сама чуецца адзінокім, ня гледзячы на тое, што нас тысячы, у нас сілы няма стварыць свой цэнтр, трэба гінуць у чужэй масе“.

Апроч гэтага, яго грызла думка аб Галі і грызла, кідаючы знак суму і задумы на твары.

Аднаго вечара засядзеліся яны з Януком да познага. Неміласэрна курачы і зрэдку перакідваючыся словам. Міхал ня мог больш стрымаць.

— „Янук! — адазваўся ён ціха, — пакажы мне яе“...

Янук глянуў на яго, і шкада зрабілася яму хлапца.

— „Кінь, Міхасю, думаць аб ёй“, — прасіў. Але той упёрся; ён, як і кожны чалавек, хацеў і чуў патрэбу парушыць старую рану, хоць яна і баліць, хоць можа і крывавіцца.

І яны пайшлі.

На вуліцы ня было ўжо блізка што нікога. Па небе паўзьлі хмары. Гарэлі толькі электрычныя лятарні.

Вецер выў і калыхаў іх, па тратуарах поўзалі цені тэлеграфных стаўпоў, быццам рукі нейкай цёмнай няведамай сілы хацелі нешта апутаць здушыць, быццам яны нечага шукалі.

Абодва хлапцы хутка прайшлі некалькі вуліц — на аднэй з іх пайшлі паволі.

Ў цені варотаў, каля гзымсаў стаялі *яны*. Людзі страціўшыя свой воблік, людзі сапраўды спаняверaныя.

Каля варотаў хадзіў патоптаны чалавечы гонар, хадзіла збэшчаная душа.

Чуўся сьмех, але сьмех змушаны, сьмех роспачы. Ох, як дзіка здалося Міхасю!

*Яны* ахрыпшымі галасамі прапанавалі сваё цела, *яны* гандлявалі сабой, яркі кармін на іх вуснах, ненатуральны колер твараў, іх дзікія выкрыкі і лаянкі былі протэстам, вялізарным протэстам супроць вечнай і сусьветнай няпраўды.

Міхася і Янука зачаплялі. Янук адсьмейваўся і адбрэхваўся, але Міхасёва чыстая, несапсованая, вясковая натура бунтавалася, — яе мучыў, дзёр на часьці малюнак, від прадаваньня чалавека, ён увесь хваляваўся.

Раптам Янук спыніўся. Міхась стаў прыглядацца, ён ледзь стрымаўся

ад крыку: у падваротні стаяла Галя; не, гэта быў толькі яе вобраз, жудасны вобраз разьбітага жыцьця.

Міхал ня бачыў ужо нічога, ён чуў толькі голас, яе голас, але даносіўшыся быццам з-пад зямлі, здушаны, ахрыпшы: „Сколькі дасі"...

Яны пайшлі ў дол, завярнулі ў нейкі завулак, пасьля зайшлі ў нейкую канурку.

У ёй цьмяна гарэла невялічкая лямпка, у куце стаяла ложка, невялічкі стол, табурэтка і мядніца з вадой.

Міхал бясьсільна апусьціўся на табурэт, закрыўшы рукамі вочы. Яна скінула пальто, акружылася па пакоі.

— „Ну, грошы ўперад!... Але чаго вы? Ці я вам не падабаюся, можа ўсё скінуць? эх ты, чаго зажурыўся?!" — пачуў ён, і яна адарвала яго рукі ад твару.

Іх вочы сустрэліся.

Хвіліну яна ўглядалася, цень успаміну перабег на твары, пасьля адступіла пару крокаў і з крыкам — „Міхасю!..." — завалілася на ложка... Яна плакала, яе пачаў душыць кашаль.

Міхась стаяў, як скамянеўшы.

— „Галя, што кінула цябе на гэта? Галя, што змусіла цябе?"... — выдавіў ён, падыходзячы да яе.

Яна адсунулася.

— „Ня руш мяне, я ня годна нават бачыць цябе"... — ціха прашапталі яе вусны. „На памяць прошлага"... Але раптам яна спынілася, пасьля ўскочыла і дзіка закрычэла: „Чаго прыйшлі вы, подлыя? Чаго капаецеся ў душы маёй?! Сэрца маё вырваць хочаце. Проч, проч, нягоднікі!.."

Але зараз-жа спынілася, ціха змоўкнуўшы. Янук прыглядаўся.

Яна пачала хутка гаварыць:

— „Разьбілі маё шчасьце, Міхасю, подлыя людзі, мяне тады выкінулі на брук... Што я мела рабіць?.. Вяртацца на вёску? Чаго? О, хай будуць праклятыя тыя дні!.. Міхасю, як я хацела бачыць цябе і як я баялася. Адзінай маёй уцехай былі ўспаміны аб нашым каханьні і аб табе.

Міхасю! я разьбітая пасудзіна, я хутка скончу гэту дарогу, але выбач мне, выбач, я атруціла і табе жыцьцё!" І яна павалілася на падлогу, стала на калені. Яна, як шалёная цалавала яго ногі, яна малілася, яна разьвітвалася з прошлым.

У кішані яе зазьвінелі грошы, яна вырвала іх і кінула з ненавісьцю ў кут, яны пакаціліся з ціхім хаўтурным звонам.

Міхась стаяў, як п'яны; ён пачаў бясьсьвязна казаць нешта аб даравань-ні, пасьля галасьней і галасьней.

— „Галя!" — казаў ён, — „я ня віню цябе. Хай будзе праклята места— гэта гняздо крыўды і мукі, яно зьела нас"...

— „Ха-ха!.." — дзіка зарагатала, перабіваючы яго, Галя.

Міхал стаяў, схіліўшы галаву...

*Бонфэльдт.*

# КАРА.

Яшчэ нядаўна ўвесь сьвет хваляваўся па поваду выкананьня кары сьмерці над амэрыканскімі анархістымі — Сакко і Ванцэтті. Амаль усе палітычныя партыі, прадстаўнікі навукі, уся работніцкая кляса і людзі вольных прафэсіяў паднімалі свой голас проціў прысуду амэрыканскага суда.

Вуснамі іх загаварыла сумленьне чалавецтва 20 стагодзьдзя, сумленьне абуранае ў сваім праўным пачуцьці, якое ў працэсе эволюцыйнага разьвіцьця выступае проціў кары сьмерці.

Кара сьмерці зьяўляецца адным з найстарэйшых відаў кары, ад'емнай рэакцыі грамадзянства на паступкі грамадзяніна.

Што такое кара? Карай будзе ад'емная рэакцыя грамадзянства, сям'і, царквы і дзяржавы проціў грамадзян, якіх паступкі нязгодны з мэтамі групы і абложаны гэнай ад'емнай санкцыяй.

Да пытаньня аб кары можна падходзіць з розных бакоў, але сярод усіх спосабаў разважаньня аб кары выдзяляюцца два. Адзін стараецца выясьніць, чым будзе кара па свайму зьместу і па псыхолёгічнаму эфэкту для адзінкі і грамадзянства, паводле зарысоўкі проблемы кары ў карных кодэксах. Другі падход да гэнае проблемы будзе старацца выказаць, чым *павінна быць* кара ў дадзеных грамадзянскіх абставінах з псыхолёгічнага пункту гледжаньня.

Дасьледчыкі проблемы кары, якія разглядаюць яе з тэорэтычнага падходу, адказваючы на пытаньне, што такое кара, даюць процілежныя адказы. Адны гавораць, што кара гэта грамадзкая помста, другія цьвярдзяць іншае. Кара, кажуць, ёсьць помстай дзеля таго, што ў сваім гэнэтычным разьвіцьці мае падставай ад'емную рэакцыю і паявілася на грунце помсты. Спачатку была помста індывідуальная, пасьля яна прыняла форму помсты роду, грамадзянства, і далей у гістарычным разьвіцьці гэная функцыя грамадзкага колектыву пераходзіць на дзяржаву.

Праціўнікі гэнага пагляду на кару слушна робяць цяжкія закіды. Калі гаворым аб помсьце, то маем на ўвазе пэўнае псыхічнае пераажыванне. Калі ад'емная рэакцыя, выступаючая ў постаці кары, ёсьць помстай, то яна мусіць быць пераажытай псыхікай таго, хто даконвае гэнае помсты, у суб'екта помсты пры выкананьні яе.

Калі староньнікі пагляду на кару, як помсту, кажуць, што дзяржава, зманапалізаваўшы рэгуляцыю грамадзкага ладу, пры выкананьні кары заступае грамадзянства, дзеець як пасярэднік, то ня можам дапусьціць у гэнага выканаўцы і пасярэдніка псыхічнага пераажываньня, якое характарызуе кару, як помсту. Можна дапусьціць, што некалі грамадзкая група (род, племя, клян), выконваючы кару, мела пераажываньні помсты, але, дапусьціўшы, што ролю гэнае групы ўзяла на сябе дзяржава, гэтым самым мусім адкінуць паняцьце кары, як помсты. Трудна прадставіць, што судзьдзя мсьціцца на праступніку пры выкананьні сваіх прафэсіянальных абавязкаў, што ён пераажывае акт помсты. Гэта была-б дарога да дому вар'ятаў. Судзьдзю ніхто ня скрыўдзіў, псыхічнае-ж пераажываньне помсты можа зьявіцца ў скрыўджанага, які ў працэсе караньня ніякае дзейнае ролі ня йграе, дзеля гэтага судзьдзя ня можа мець пераажываньня помсты. Адсюль вывад, што помста ня можа быць псыхолёгічнай падставай кары.

Пры разгляданьні проблемы кары, выходзячы з таго матар'ялу, які даецца сучаснымі карнымі кодэксамі, будзем мець адказ, як глядзяць на яе гэныя ко-

дэксы, і толькі. Атрымаем пэўныя надбудовы юрыдычныя, пэўныя праўныя канцэпцыі, і толькі. Адказу, ў чым істота кары, з гэтага матар'ялу не вывядзем, бо кара не зьяўляецца юрыдычнай канцэпцыяй, а зьмест свой выводзіць з жыцьцёвага і гістарычнага прабегу.

Падход да зьместу проблемы кары, вымагае выясьненьня гэнэзы кары. Выходзячы з таго матар'ялу, які даюць сучасныя кодэксы, пры помачы гістарычных і этнолёгічных матар'ялаў можна дайсьці да самага пачатку пытаньня аб кары.

У першых часох арганізованага жыцьця чалавецтва, кара ня была зрацыяналізована і ня мела ніякіх тэлеолёгічных надбудовак. Жыцьцё тады ня мела таго багацьця праяваў у дзейнасьці сяброў групы, якую бачым цяпер. Панавала суровая барацьба дзеля захаваньня роду і ў выпадку пастунпкаў, якія былі ў супярэчнасьці з агульнапрынятымі паняцьцямі роду, вінаватых спатыкала ад'емная рэакцыя з боку сяброў групы, бяз сьведамасьці ані мэты кары, ані дзеля чаго выпадае ад'емная рэакцыя. З разьвіцьцём формаў жыцьця, гэная біоінстынктыўная рэакцыя рацыяналізуецца ў тым сэнсе, што біоінстынктыўныя факты атрымоўваюць пэўны зьмест, выясьненьне мэты караньня. Зьяўляюцца тэлеолёгічныя прадпасылкі.

Рацыяналізацыя ідзе ў тым напрамку, што пэўныя паступкі, шкодныя для роду, зьяўляюцца абразай, зьнявагай багоў. Далей форма рацыяналізацыі кары мае ўжо іншыя прадпасылкі, залежныя ад часу і культуры групы, сярод якой выраблялася выясьненьне кары, так што цяпер, калі гаворыцца, што кара — помста, або адплата за пэўныя паступкі, гэта нішто іншае, як вынік гістарычнага прабегу рацыяналізацыі паняцьця кары.

Дзеля гэнае свае гэнэзы, як біоінстынктыўнага факту, ёсьць тое, што ніводная філёзофічная тэорыя ня можа даць падставаў самога караньня.

Зышоўшы з філёзофічнае дарогі і стаўшы на пункт гледжаньня крымінальна-палітычны, можна выясьніць проблемы караньня, не апіраючыся на філёзофічныя падставы яго. Грамадзянства ўтрымоўвае кару дзеля таго, што гэты інстытут мае свае мэты і, як такі, даець позытыўныя вынікі. Гэта зьяўляецца падставай захаваньня кары. На гэтым паглядзе збудованы ўсе амаль карныя уставы (кодэксы). Гэная мэтнасьць цесна зьвязана з паняцьцем грамадзянства аб кары, якое лучыць з ім прадстаўленьне аб прэвэнцыі, стрыманьні грамадзян ад праступнасьці.

У галіне прэвэнцыі агульнай, кара выробляе ў грамадзянстве псыхічны настрой, які мае на мэце не дапусьціць ступаць на дарогу праступнасьці, сьведамасьці таго, што за праступак грозіць кара.

Прэвэнцыя спэцыяльная кіруецца толькі да асобы праступніка. Праступнік, найчасьцей асоба, з пэўнымі псыхічнымі дэфэктамі, спаткаўшыся з карай, адчувае ад'емнасьць рэакцыі і на гэтай падставе паяўляецца ў яго пагляд аб недапусьцімасьці паўтарэньня папярэдняга паступку. Грамадзянства-ж на прыкладзе з пэўнымі адзінкамі выробляе ў сабе стрыманьне, адстрашэньне ад праступнасьці ў галіне праступкаў звычайных, крымінальных. У галіне праступкаў палітычных і рэлігійных дзеюць іншыя мотывы і там прэвэнцыя мае малое значэньне. Кара ў сучаснай яе будове ў кодэксах карных зьяўляецца адплатай і ўстасункована да паняцьця віны, адносін праступніка да праступку, чаго ня было ў часох мінулых.

Кара без праступку, паводле кодэксу нашага, ня існуе. Кара-адплата зьяўляецца лёгічным момантам праступку і мае ў сабе ацэнку таго, што зрабіў праступнік, на якой ацэне апіраецца.

Новыя напрамкі крыміналёгіі паўстаюць проціў концэпцыі кары, як адплаты, і радзяць замяніць кару сродкамі прэвэнцыйнымі, забясьпечваючымі грамадзянства ад праступнасьці. Розьніца паміж гэнымі дзьвёма концэпцыямі не ў фактычным стане, не ў выкананьні, а ў гэнэзе іх.

Навука сьцьвярдзіла, што сярод праступнікаў бываюць людзі анармальныя, але не падпадаюць пад катэгорыю несьвядомых, якія не караюцца паводле кодэксу. Гэта дзеці алькаголікаў, сыфілітыкаў, бацькоў з ненармальнай псыхопатычнай будовай. Адносна іх стасаваньне кары, як адплаты, ня мае значэньня і мэты, бо яны ня лучаць перажыванае ад‘емнасьці з сваім пастухкам. Да іх далічаюць няпоўналетніх, у якіх трудна ўстанавіць здольнасьць разуменьня сваіх паступкаў і кіраваньня імі.

Другой падставай будовы кодэксаў карных, якія ўводзяць сродкі забесьпячэньня, ёсьць увядзеньне на месца паняцьця віны, сьведамасьці і нясьведамасьці стану небясьпечнасьці, які зьяўляецца, як крытэрыюм рэакцыі адносна асобы праступніка. Шкоднасьць праступку для грамадзянства пераносіцца тут на самую асобу праступку. Сродкі забясьпечаньня выходзяць з таго, што пэўныя асобы зьяўляюцца грознымі для грамадзянства дзеля таго, што яны склонны да праступнасьці. Гэная склоннасьць ёсьць мерай стасаваньня да такіх людзей сродкаў бясьпечнасьці. Яны могуць стасавацца да кожнага, хто паводле свайго псыхічнага складу *можа* пайсьці па дарозе праступнасьці, незалежна ад таго, ці праступак меў месца, ці не. Вар‘яты, хворыя на розум і неразьвітыя людзі могуць быць об‘ектам стасаваньня да іх сродкаў бясьпечнасьці, чаго ня робяць кодэксы, збудованыя на паняцьці віны і адплаты. Асобы гэтыя памяшчаюцца ў спэцыяльных дамох, дзе іх лечаць, пакуль ня будзе пэўнасьці, што прабываньне іх сярод грамадзянства не стварае стану небясьпекі. У гэнай гэнэзе розьніца паміж карай і сродкамі небясьпекі. Адносна-ж асобы праступніка, адчуваньня ягонага кары і выдзяленьня спаміж грамадзянства, розьніца малее і зусім заціраецца. Бо ад‘емнасьць пазбаўленьня свабоды аднолькава будзе адчувацца, незалежна ад таго, якая вывеска будзе вісець на доме, у якім знаходзіцца пазбаўлены свабоды. Пры тэхнічным выкананьні кары і сродкаў забясьпечаньня розьніца заціраецца для асобы праступніка.

Толькі адзін кодэкс у Італіі збудованы на сродках забясьпечаньня, але іншыя кодэксы памалу ўводзяць паняцьце іх адносна да пэўных групаў праступнікаў, напр. швайцарскі, японскі і норвэскі адносна алькаголікаў, якіх прымусова лечаць у дамох для алькаголікаў у выпадку праступнасьці іх.

Якое-ж значэньне новага напрамку крымінальнае палітыкі ў дзеле аздараўленьня грамадзянства ад праступнасьці? Прыведзены прыклад з алькаголікамі паказвае мэтнасьць увядзеньня сродкаў бясьпечнасьці. Яны зьяўляюцца профіляктыкай грамадзянства. Аднак, увядзеньне іх для ўсіх праступкаў і праступнікаў, пры сучасным паглядзе грамадзянства на віну і адплату за яе — кару, спатыкае адпор з боку крыміналёгаў.

Кара, як зло, як ад‘емная рэакцыя, браная з боку псыхолёгічнага яе перажываньня, вытварае стрымуючы ад праступнасьці настрой. Іншая рэч, што дзеяньне яе, якое праходзіць і адбываецца ў грамадзянстве, спатыкаецца з іншымі процілежнымі пабуджэньнямі, што выпрабляюць спрыяючы настрой для праступнасьці, як матар‘яльны недахват, выхаваньне і г. д. Яны аслабляюць усь-

ведамленьне зла кары, пры чым чалавек заўсёды ставіць на пэўную рызыку — „а мо' удасца“ — нават там, дзе грозіць вялікая небясьпека.

Ня гледзячы на катастрофы, ляцяць-жа цераз акіяны, хоць мала хто далятае.

Псыхіка праступніка падатная гэтаму настрою рызыкі таксама.

Аднак-жа, стрыманьне ад праступнасьці йдзе ад кары, яна ўплывае на псыхолёгію праступніка. І калі, паміма караў, узрастае праступнасьць, гэта доказ сільнага дзеяньня контр-імпульсаў.

Пэўна-ж, поўнае выэлімінаваньне асобы з праступнай псыхікай з грамадзянства дасьць лепшыя вынікі, ніж кара, аднак, ці гэны спосаб будзе лепшы ў галіне барацьбы з праступнасьцяй, сказаць яшчэ трудна.

Кожная адзінка рэагуе на ўсялякі паступак, ацэньваючы яго з боку справядлівасьці ці несправядлівасьці.

У кожнага дзеюць праўныя, як-бы сказалі, эмоцыі, якія даюць суб'ектыўную ацэну таго, ці дагледжаны паступак, распараджэньне ўлады, прыгавар суда, ёсьць справядлівы, ці не.

У масавай псыхіцы карная рэакцыя разглядаецца з боку адчуваньня зла і як выяўленьне моральнай справядлівасьці. Момэнт адплаты за зло і дабро ў масавай псыхіцы бязумоўна істнуе. І калі-б цяпер выкінуць кару, як адплату, а ўвясьці сродкі забясьпечаньня, гэтая масавая псыхіка, няпрывычная да такога спосабу дзеяньня, была-б у нязгодзе з імі. Кара не зьяўляецца чыста тэарытычным сродкам барацьбы з праступнасьцяй.*) Такая кара ў нас істнуе, зжылася з псыхікай грамадзянства і калі мае сваё адбіцьцё ў адчуваньні і паняцьці шырокіх масаў, калі яна ўплывае на паступкі, то толькі дзякуючы таму, што ёсьць чымсьць такім, што ўплывае на мотывы дзейнасьці чалавека.

Сродкі забясьпечаньня вымагаюць пэўнага выхаваньня грамадзянства, навыку да іх стасаваньня, зьяўляючыся бязумоўна лепшым і рацыянальнейшым спосабам барацьбы з праступнасьцю. Але цалком выцесьняць кару тады толькі, калі чалавек ня будзе ўзалежняць сваіх паступкаў ад ад'емнай рэакцыі, якая йдзе ад кары. У параўнаньні з сярэднявеччам, шмат галін сучаснага жыцьця абходзіцца бяз санкцыі і кары. У цэлым ліку чалавечых паступкаў можна сьцьвярдзіць, што ад'емная рэакцыя слабне і адпадае, яны ёю не дэтэрмінуюцца, чалавек пачынае захоўвацца разумна і натуральна ў пэўных галінах жыцьця, і гэтая тэндэнцыя давядзе да таго, што санкцыі і рэакцыі за паступкі ня будуць патрэбны.

А згэтуль вывад, што сродкі забясьпечаньня зьяўляюцца добрай профіляктыкай для грамадзянства, аднак нельга імі замяніць кары, бо гэта спаткалася-б з нездаволеньнем у псыхіцы масаў, якія зжыліся з паняцьцем віны і кары.

Умяшчэньне-ж іх побач з карай у кодэксах зьяўляецца рацыянальным і будзе прызвычайваць да іх грамадзянства, пакуль у дарозе эволюцыйнага разьвіцьця не дайдзе яно да таго стану, калі на месца кары, ужо бязмэтнай, ня будзе ўведзены другі спосаб барацьбы з праступнасьцю — сродкі бясьпечнасьці.

Пераходзячы цяпер да пытаньня аб кары сьмерці, мусім сьцьвярдзіць, што гэта найбольш выразны спосаб адплаты за зло, пазбаўлены ўсялякага сутыку з сродкамі забясьпечаньня, скіраваны на зьнішчэньне праступніка. Кара сьмер-

---

*) Гаворачы аб праступнасьці, ня маем на ўвазе г. зв. праступкаў палітычных.

ці зьяўляецца найдаўнейшай рэакцыяй за праступнасьць. Само выкананьне яе не вымагала з'арганізованае грамадзкае групы, было магчымае ў першых часох жыцьця чалавецтва.

У далейшым разьвіцьці чалавецтва наступае пэрыяд кваліфікованае кары сьмерці, калі гэная рэакцыя становіцца больш труднай пры выкананьні. Гэта ўжо пэрыяд рацыяналізацыі кары, яна мае тэлеолёгічныя мэты: устрашэньне грамадзяніна ад забароненых і шкодных у паняцьці групы, а лепш кіруючае ёю клясы, паступкаў.

Бачым тут вялікую рознароднасьць выкананьня кары сьмерці: насаджваньне на кол, паленьне на стосе, чацьвертаваньне, разрываньне коньмі і г. д. Людзі тады былі вельмі памысловыя ў выдумваньні што раз, то страшнейшых спосабаў пазбаўленьня жыцьця, з мэтаю прычыніць найбольш мукі і падзеяць на ўяўленьне. Дзеялася гэта дзеля таго, што спачатку кара сьмерці была будована з мэтай застрашыць, і гэнае застрашэньне мела прычыніць кваліфікованая кара сьмерці.

Праз усё сярэднявечча йдуць вялікія катаваньні пры выкананьні кары сьмерці. Увядзеньне гільотыны за Францускай Рэвалюцыі лічылася за праяву гуманітарызму, бо скарочвала мукі засуджаных на кару сьмерці. Гэты самы „гуманітарызм“ уводзіць яшчэ прасьцейшыя спосабы выкананьня кары сьмерці: расстрэл, віселіцу, электрычнае крэсла.

Каля пытаньня кары сьмерці існуе паміж крыміналёгамі вялікі спор аб мэтнасьці гэнае рэакцыі, дзеля яе ўплыву на грамадзянства, як імпульсу проціў праступнасьці. Каб даць на гэта адказ, трэба было-б сьцьвярдзіць беспасярэдні ўплыў кары сьмерці ў гэтым напрамку. Зрабіць гэта трудна, бо само зьявішча кары сьмерці не зьяўляецца простым і дзеля гэтага трэба зьвярнуцца да даных статыстыкі. Але і тут труднасьць тая, што цяжка выдзяліць з зьвязку залежнасьці паміж карай сьмерці і праступнасьцяй іншыя момэнты, якія дзеюць на праступнасьць.

Апіраюцца тады пры дасьледаваньні пытаньня аб кары сьмерці на ўплыў яе на псыхіку масы.

У галіне праступнасьці палітычнай і рэлігійнай, дзе кара сьмерці дагэтуль найчасьцей мае застасаваньне, дзеюць такія імпульсы, якія не залежаць ад рэпрэсіі, ідучай ад кары сьмерці.

Рэпрэсіі, стасаваныя да праступкаў палітычных і рэлігійных, могуць ня мець ніякага ўплыву на зьменшаньне праступнасьці. Палітычныя праступкі зьяўляюцца перш за ўсё ідэолёгічнай барацьбою, якая, незалежна ад існуючых за такія праступкі рэпрэсіяў, узрастае ці слабне, залежна ад укладу грамадзкіх і палітычных абставін, і адносін паміж грамадзянствам і формай улады. У гэтай галіне кара сьмерці касуецца тады, калі наступае раўнавага паміж урадам і грамадзянствам.

Пакуль такога ўстасункаваньня няма, кара сьмерці, як найстражэйшая рэпрэсія, ня мае ўплыву на зьменшаньне палітычных і рэлігійных праступкаў. Наадварот, гэная рэпрэсія вытварае пэўны апотэоз, імя славы для палітычных праступнікаў, якія знаходзяць шмат сваіх наступнікаў у дзеле барацьбы з ненавіснай формай улады і ад'жыўшымі формамі палітычнага ладу. Тое самае бачым у галіне праступкаў процірэлігійных. Яны цяпер зьяўляюцца рэдка, але ў прошласьці станавілі масу праступкаў, за якія стасавалася кара сьмерці, і яна якраз як-бы прыцягвала на дарогу, што вяла на крыжаваньне або на стос.

Выстаўляецца далей аргумэнт, што кара сьмерці ў сваім прабегу, як момэнтальная рэпрэсія, не зьяўляецца найгразьнейшай. Заяўляюць, што „вечнае“ пазбаўленьне свабоды больш выразна дзеець на псыхіку праступніка і масы, ніж кара сьмерці. Аднак, аргумэнт гэны ў застасаваньні да нармальнай псыхікі, для якое жыцьцё зьяўляецца найбольш цэнным дабром, будзе сумліўным. Мае ён значэньне для анармальнае псыхікі і некаторых азіяцкіх народаў, як прыкладам, кітайцы, якія мала цэняць само жыцьцё. Там сапраўды экзэкуцыі не вытвараюць дзеючага контр-імпульсу.

Самая экзэкуцыя, кажуць праціўнікі кары сьмерці, мае дзеяньне на масы ў тым напрамку, што вырабляе настрой і жаданьне паддацца гэнай экзэкуцыі і стаць цэнтральнай асобай, а ня звычайным наглядчыкам. Такія выпадкі здараліся, але жаданьні гэныя могуць зьявіцца ў людзей з ненармальнай псыхікай, дый цяпер экзэкуцыя не адбываецца публічна.

Гэныя аргументы проціў кары сьмерці ня будуць прамаўляць з належнай сілай.

Другая катэгорыя закідаў разглядае дзеяньне кары сьмерці на іншыя галіны грамадзкага жыцьця, перш за ўсё на пераживаньні моральныя. Кара сьмерці дэмаралізуе грамадзянства. Пазбаўленьне чалавека жыцьця адбіваецца на масы ў тым напрамку, што яны перастаюць цаніць жыцьцё сваё і іншых.

Кожная вайна, як ведама, вырабляе абесцаненьне жыцьця. Людзі асвойваюцца з фактам частае ўтраты жыцьця, ня цэняць яго ў іншых і самі мала прывязваюць значэньня да яго, якое перастае быць моральным дабром. Далей, частае выкананьне кары сьмерці прызвычайвае людзей да жорсткасьці і яны звыкаюцца з мучэньнямі іншых, тады кара сьмерці прымае формы кваліфікованыя.

Кожны рэвалюцыйны пераварот, як гэта сьцьверджана, астаўляе на псыхіцы масаў асадак, які выражаецца ў здэмаралізаваньні іх у тым напрамку, што яны робяцца жорсткімі і ахвотна годзяцца з мучэньнямі. Пасьля францускае рэвалюцыі дзеці ахвотна гільотынавалі катоў. Гэта быў уплыў масавых экзэкуцыяў на псыхіку маладога пакаленьня. Досьледы грамадзкага жыцьця сьцьвярджаюць, што кожнае ад'емнае зьявішча адбіваецца на грамадзкім жыцьці. Усе гэтыя разважаньні проціў кары сьмерці апіраюцца на довадах у галіне ўплыву яе на псыхічнае і моральнае жыцьцё масы, якая пад дзеяньнем гэнага ўплыву ня робіцца больш адпорнай у галіне праступнасьці. З гэтага боку кара сьмерці ня йграе тае ролі, якую ёй вызначаюць староньнікі захаваньня гэнае рэпрэсіі. З соцыялёгічнага пункту гледжаньня, дзеля гэтага, няма падставы да захаваньня кары сьмерці.

Калі-ж разьбіраць пункт гледжаньня крымінальнай палітыкі і ацэньваць тыя контр-імпульсы, што йдуць ад кары сьмерці на грамадзянства ў яго адносінах да загрожаных карай сьмерці праступкаў, цікавы адказ даець нам тэндэнцыя эўропэйскага уставадаўства і судовае практыкі. Кара сьмерці занікае. У дзесяцёх дзяржавах Эўропы яе ня знаюць угалоўныя кодэксы. Там-жа, дзе яна істнуе, як сродак рэпрэсіі, дзе суды выносяць прысуды на кару сьмерці, найчасьцей яна ня выконваецца, замяняная ў дарозе ўласкавеньня на іншыя кары.

У Нямеччыне ад 1860 г. да 1868 г. было выдана 228 прыгавараў на кару сьмерці, а выканана толькі 44.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Англія. | Да 1827 г. | было 1.526 | выпадкаў кары сьмерці. |
| | Да 1834 „ | „ 480 | „ „ „ |
| | У 1864 „ | „ 32 | „ „ „ |
| | У 1868 „ | „ 27 | „ „ „ |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| У 1902 г. | было | 33 | выпадкі | кары | сьмерці |
| У 1903 „ | „ | 41 | „ | „ | „ |
| У 1904 „ | „ | 28 | „ | „ | „ |
| У 1905 „ | „ | 32 | „ | „ | „ |

Францыя. У 1803 г. прыгаворана на кару сьмерці 605 чал. Ад 1826 г. да 1830 г. штогод лік прыгавараў на кару сьмерці даходзіў да 92. У 1908 г. было толькі 49 прысудаў на кару сьмерці, з іх выканана толькі 6. Павялічваецца лік амнэстыі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ад 1826 г. | да 1830 г. | процант | амнэстыі | даходзіў да | 35% |
| Ад 1901 „ | „ 1905 „ | „ | „ | „ „ | 85% |
| Ад 1906 „ | „ 1908 „ | „ | „ | „ „ | 95% |

Бэльгія. Ад 1863 г. ня было ніводнага выкананьня кары сьмерці.

Нарвэгія. Ад 1862 г. да 1902 г. кара сьмерці, як рэпрэсія, ня была ўжыванай судамі, хоць у кодэксе істнавала. У 1902 г. выданы новы кодэкс, які такое рэпрэсіі ня знае.

Найцікавейшы прыклад тэндэнцыі уставадаўства ў галіне стасаваньня кары сьмерці і выкананьня прыгавараў бачым у Аўстрыі.

| Год. | Прысудаў. | Выканана. | Год. | Прысудаў. | Выканана. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1877 | 128 | 1 | 1890 | 86 | 2 |
| 1878 | 120 | 1 | 1891 | 89 | 0 |
| 1879 | 103 | 4 | 1892 | 87 | 2 |
| 1880 | 121 | 5 | 1893 | 70 | 3 |
| 1881 | 82 | 1 | 1894 | 65 | 6 |
| 1882 | 108 | 2 | 1895 | 76 | 5 |
| 1883 | 82 | 4 | 1896 | 68 | 5 |
| 1884 | 99 | 4 | 1897 | 67 | 5 |
| 1885 | 93 | 4 | 1898 | 54 | 4 |
| 1886 | 84 | 4 | 1899 | 64 | 4 |
| 1887 | 74 | 4 | 1900 | 65 | 4 |
| 1888 | 75 | 6 | 1908 | 45 | 1*) |
| 1889 | 95 | 2 | | | |

У Расеі перад вайной — 1914 г. — таксама штогоду зьмяншаўся лік прысудаў на кару сьмерці. Толькі ў 1905-1906 г.г., падчас рэвалюцыйнага руху, сільна ўзрос за праступкі палітычнага характару.

Аднак, ясна відаць, што, у гады спакойнага, нармальнага жыцьця дзяржавы, лік прысудаў на кару сьмерці і выкананьня яе меншае. Адносіны да гэнае рэпрэсіі судзьдзяў і грамадзянства што-раз больш ад'емныя, кара сьмерці перастае быць сродкам рэакцыі проціў праступнасьці ў зьвязку з новымі паглядамі на барацьбу з ёю.

Разам з ад'жыўшымі формамі караў, як пятнаваньне, калечаньне, адыходзе ад чалавецтва і гэная найстарэйшая форма рэакцыі — зьніштажэньне чалавека, якая не знаходзе ніякіх доводаў за ўтрыманьне, апрача атавістычнага навыку да яе і часта псэўда-навуковых вывадаў крыміналёгаў, прывыкшых да суровасьці рэпрэсіяў.

*) Бр. Врублеўскі. — Лекцыі. — 1925 г.

На яе месца ўжо ў XVII ст. ўведзена новая рэпрэсія — пазбаўленьне свабоды — турма, якая спачатку замяняла як-бы кару сьмерці, калі аб пасаджаным у турму ніхто ня дбаў, а пасьля сталася асобным сродкам карнае рэпрэсіі.

Калі дагэтуль у кодэксах захоўваецца кара сьмерці і мае практычнае застасаваньне, то гэта дзееца дзеля таго, што кожная кара ня ёсьць нечым тэорэтычным, а выплывае з навыку да яе грамадзянства, з адносін да такое рэпрэсіі яго на кару, як меру ўстрыманьня грамадзяніна ад праступнасьці, і культуры грамадзянства. Па меры ўзросту цывілізацыі і культуры, кара сьмерці ўступае месца сродкам рэпрэсіі.

У новы проект угалоўнага закону ў Польшчы кара сьмерці ўведзена кодыфікацыйнаю камісіяй большасьцю аднаго голасу, але закон гэны дагэтуль не апублікованы.

Трэба думаць, што ад часу ўвядзеньня кары сьмерці ў гэны проект камісіяй зьмяніліся палітычныя варункі жыцьця ў Польшчы, якое прыняло спакойнейшыя формы, і ў аканчальным сваім стане проект будзе апублікованы бяз гэтага ад'жыўшага рэпрэсійнага спосабу.

*Саўліч.*

# Школьная справа ў Польшчы у цыфравым асьвятленьні.

Перад намі польская брашура: *Tadeusz Antoni Nik. Stan i potrzeby szkolnictwa w Polsce w chwili obecnej. Łódź 1927.*

Як відаць з уступу да яе, брашура гэтая складаецца з артыкулаў аўтора, друкованых з лютага да лістапада 1926 году ў лодзінскім тыднёвіку „*Prawda*“.

Падзелена брашура на дзьве часьці: 1-ая—а) школьнае законадаўства, б) пачатковыя школы, в) настаўніцкія сэмінарыі, г) сярэднія школы, д) прафэсіянальныя школы і 2-ая — а) прасьветная праграма ўраду, б) пытаньне аб 7-клясовай школе і в) Рада Нацыянальнага Выхаваньня.

Для беларуса найбольш цікавага ў 1-ай часьці брашуркі; тут мы знаходзім шмат цыфраў, сярод якіх займаем, нажаль, зусім апошняе месца.

Пачынаецца брашура артыкулам „*Tymczasowość ustroju naszego szkolnictwa*“, у якім аўтор сьцьвярджае блізка што поўную адсутнасьць у Польшчы школьнага законадаўства. Школьная справа ў Польшчы прыпамінае дом, збудованы на пяску. Увесь школьны лад рэгулюецца міністэрскімі распараджэньнямі і цыркулярамі, а не законамі.

Каб зразумець палажэньне нашае беларускае школьнае справы ў параўнаньні з лікам ня толькі польскіх школаў, а і з палажэньнем школьнае справы іншых нацыянальных меншасьцяў Польшчы, пазволім сабе спыніцца на некаторых даных грамадзяніна *Nika* і нават на дзе-якіх цікавых яго вывадах.

Вось-жа, гаворачы наагул аб польскім школьным законадаўстве, ці, праўдзівей кажучы, аб адсутнасьці гэтага законадаўства, аўтор, закрануўшы пытаньне аб 7-клясовай пачатковай школе, разважае, паміж іншым, гэтак:

„Бо гаворыцца-ж аб ёй толькі ў уставах выканаўчага характару, але ў сутнасьці гэта зьяўляецца хутчэй паглядам некаторых, хоць мо' і ня ўсіх, вураднікаў міністэрства, некаторых, а ня ўсіх, кругоў настаўніцтва, але хто ведае, ці пры сёньняшніх адносінах, якраз паводле голасу праціўнікаў, ня мог-бы міністар, які быў-бы гэтай концэпцыі праціўным, адным росчыркам пяра перачыркнуць усю дасюлешнюю працу і загадаць паслухянасьць для свае чатырох-пяцёх, ці нават і аднаклясовае концэпцыі. А тымчасам да гэтае концэпцыі семклясовае пачатковае школы дароблены ўжо проект школьнае сеткі, для яе ўва ўсёй Польшчы, а перш за ўсе на землях б. расейскага забору ладзяцца школьныя будынкі пры вялізным накладзе фондаў, да яе ўжо сягоньня датарнованы лік настаўніцкіх сэмінарыяў, які перарастае нашыя патрэбы, для яе клікалі цэлыя масы некваліфікованых настаўніцкіх сілаў і на гвалт за цану вялізных коштаў давучвалі іх на сотнях курсаў"...

Які хаос пануе ў сфэры школьных праграмаў можам сабе ўявіць з гэткіх слоў аўтора: „самастойна складаюць свае праграмы школы сярэднія, самастойна школы вышэйшыя, самастойна, нарэшце, школы прафэсіянальныя. Паразуменьня і прынцыпіяльнае адналітае думкі няма, тры ніжэйшыя клясы сярэдняе не адказваюць праграме трох адпаведных вышэйшых аддзелаў (4, 5, 6) пачатковае школы"...

З ранейшае ўвагі аўтора для нас цікава тое, што паляк сьведчыць адкрыта аб празьмернай разбудове настаўніцкіх польскіх сэмінарыяў *якраз у той час, калі гэткае беларускае сэмінарыі няма ў Польшчы а ніводнае.* Дый яшчэ сьведчыць аб тым, што некваліфікованы настаўніцкі элемэнт быў у польскія школы браны аберуч, у той час, як нам не давалі фактычнай магчымасьці адчыняць часам нават ужо толькі прыватныя школы па тэй простай прычыне, што няма кваліфікованых настаўнікаў.

Пачатковыя школы па бюджэту 1925 г. каштуюць ураду 197 мільёнаў злотых. У гэтую суму ўваходзяць расходы на 264 школьныя інспэктараты і іх канцэлярыі. І кожны з нас ведае, што на беларускую школьную справу не даецца з іх а ні граша! А тым часам грам. Нік аблічае, што на школьную справу п дае ў Польшчы 11 злотых падатку ў год на галаву, з якіх аж 7 злотых на адны толькі школы пачатковыя.

*Лік пачатковых настаўнікаў* у 1926 г. — 61.411, *лік школаў*—26.855. І ніводнае з іх беларускае? *)

Аўтор заўважае, што лік дзяцей, пазбаўленых школы, значна яшчэ перавышае 1 мільён і што праз гэта Польшча яшчэ вельмі далёка стаіць ад рэалізацыі агульнага абавязку пачатковага вучэньня.

Ясна, што гэты мільён зьмяшчае ў сабе вялікі лік беларускіх дзяцей, бацькі якіх, боручыся за *рэалізацыю права на сваю родную школу,* неахвотна пасылаюць іх у казённую школу польскую.

Усяго ў 1924-5 шк. г. налічвана ў Польшчы 4.243.827 дзяцей школьнага веку, з іх хадзіла ў школу 3.234.233, не хадзіла — 1.109.594. У сярэднім на аднаго настаўніка ў 1921-2 г. выходзіла па 56 дзяцей, у 1926 г. павінна было быць — 52.

*Настаўніцкіх сэмінарыяў ёсьць у Польшчы* аж 180 з 29.488 вучнямі, у тым ліку 118 сэмінарыяў дзяржаўных з 20.614 вучнямі, 3 самаўрадовыя

*) Толькі цяпер — у 1927-8 шк. годзе адчынена 14 беларуск. школ у Віленшчыне (гл. „Бел. Дзень" № 28. 29-IX-1927).

з 399 вучнямі і 59 прыватных з 8.475 вучнямі. Па выкладовай мове яны дзеляцца гэтак: з польскаю моваю 156 сэмінарыяў, з *русінскаю* (украінскаю?) — 9, з польскаю і русінскаю 8, з нямецкаю 4, з жыдоўскаю, літоўскаю і гэбрайскаю па аднэй сэмінарыі на кожную мову. Найменш вучняў даюць сэмінарыям нашыя (ўсходнія) ваяводзтвы, найбольш паўднёвыя. Гэтак у 1923-4 шк. г. было ў сэмінарыях 13.054 вучні і 16.434 вучаніцы, з іх у цэнтральных ваяводзтвах 9.777 (33%) *усходніх—1.716 (5,8%)*, заходніх—5.564 (18,8%) і паўднёвых — 12.431, або аж 42,4% вучняў-сэмінарыстых.

Ня дзіва, пасьля гэтага, што Галіцыя дастаўляе ў наш край польскае настаўніцтва — яно-ж там у найбольшым ліку якраз і „фабрыкуецца“!

Адна настаўніцкая сэмінарыя прыходзіцца ў цэнтральных ваяводзтвах Польшчы на 179.778 жыхароў, у *ўсходніх на 294.542 жыхары*, у заходніх на 118.826 жыхароў і ў паўднёвых толькі на 108.485 жыхароў.

Трэба, аднак-жа, зазначыць, што ў паўднёвых ваяводзтвах на 69 сэмінарыяў ёсьць аж 49 прыватных, а ў цэнтральных ваяводзтвах на 63 сэмінарыі толькі 12 прыватных, у ўсходніх на 14 сэм. 5 прыватных, а ў заходніх на 34 толькі 1 прыватная.

Вялізны лік настаўніцкіх сэмінарыяў у Польшчы творыць, калі так можна сказаць, перавытвар настаўніцтва (разумеецца польскага) і, зразумеўшы гэта, міністэрства прасьветы і рэлігійных вераваньняў запрапанавала ў бюджэтным прэлімінары на 1926 г. паменшыць лік дзяржаўных настаўніцкіх сэмінарыяў з 118 на 110.

*Сярэдніх дзяржаўных школаў* мела Польшча, паводле даных за 1924-5 ш. г., агулам 266, з іх на абшары варшаўскага куратарыюму—64, лодзінскага 10, беластоцкага 15, віленскага 11, палескага 8, валынскага 8, пазнанскага 30, паморскага 20, сілезкага 11, кракаўскага 29 і львоўскага 60. Такім чынам, выходзіць, што цэнтральныя ваяводзтвы (калі ўлічыць туды й беластоцкі куратарыюм) маюць 89 дзяржаўных сярэдніх школаў або 30,9%, ўсходнія ваяводзтвы (Віленшчына, Наваградчына, Валынь і Палесьсе) — 27 школ або ўсяго толькі 10%, заходнія ваяводзтвы — 61 школу ці 28,1% і паўднёвыя — 89 школ або 30,9%.

Кожны з нас ведае, што няма ў Польшчы, а ні аднюсенькае дзяржаўнае беларускае сярэдняе школы. А вышэйпаказаныя цыфры надта ясна сьведчаць, дзе адбываецца найбольшая фабрыкацыя польскіх вураднікаў. Усё ў тых-жа самых паўдзённых ды цэнтральных ваяводзтвах—у Галіцыі ды Конгрэсоўцы.

Найбольшую ўвагу, з нашага пункту гледжаньня, зьвяртае на сябе артыкул грам. *Ніка* „Szkoły średnie mniejszości narodowych“. Тут мы знаходзім і простыя цыфравыя аб нас даныя і дзіўныя вібрацыі польскае афіцыяльнае статыстыкі пры падзеле насяленьня Рэспублікі на нацыянальныя катэгорыі. Nonsens гэтых цыфраў ясны сам сабою хаця-ж бы па тэй простай прычыне, што *каталікоў у Польшчы аказваецца менш, як палякоў?!* Але, ня маючы іншае, апрача афіцыяльнае, статыстыкі нацыянальнасьцяў у Польшчы, будзем карыстацца цыфрамі грам. Ніка, адносячыся з пэўнымі асьцярожнасьцямі да іх праўдзівасьці.

Аўтор падае гэткія цыфры аб насяленьні Польскае Рэспублікі. Палякоў ёсьць 18.820.163 душы або 69,2%, на другім месцы стаяць *русіны* (украінцы?) 3.899.223 душы або 14,3% агулу насяленьня, на трэцім — жыды — 2.111.304 або 7,8%, далей *беларусы — 1.060.041 (3,9%)*, за імі немцы — 1.058.824 (3,9%), нарэшце іншыя нацыянальнасьці — 235.281 (0,9%).

Наколькі крытычна трэба адносіцца да гэтых цыфраў, відаць хоць-бы з таго, што зараз-жа пасьля іх аўтор сам зазначае:

„Нацыянальныя адносіны ня зусім пакрываюцца з адноснымі цыфрамі, датычнымі вераваньняў. Гэтак, лік жыхароў рымска-каталіцкае веры раўняецца 63,8%, грэка-каталіцкае 11,2%, праваслаўнае 10,5%, эвангеліцкае 3,7%, майсеевае 10 5%, іншых або невядомае веры 0,3%“.

Калі проста кінем вокам на тое, што жыдоў афіцыяльная статыстыка налічвае ў Польшчы 7,8%, а асобаў майсеевай веры 10,5%, дык зробіцца ясным, што ледзь ня поўныя тры процанты агулу насяленьня, будучы юдэямі, залічаюць сябе да асобаў польскае нацыянальнасьці; гэта так званыя „polacy wyznania mojżeszowego“.

Трудна мець што-нібудзь проці падобнага спосабу павялічэньня процанту польскага насяленьня ў Рэспубліцы!

Беларусаў афіцыяльныя даныя налічваюць у Беластоцкім ваяводзтве 9,1%, у Віленскім 25,7%, у Наваградзкім 37,7% і ў Палесьсі 42,6%.

Але й тут аўтор робіць увагу, што *процант, які датычыць нацыянальнасьці, значна ніжэйшы за процант праваслаўных.* Ясна адсюль, што ў свой час, па нясьведамасьці і цемнаце, шмат якія праваслаўныя беларусы пісаліся палякамі.

Што датычыць школ нацыянальных меншасьцяў, дык цыфры тут паказваюць гэткую пярэстасьць, што й надзівіцца немагчыма.

У сэнсе выкладовае мовы ў гэтых школах знаходзім якую толькі хочам мешаніну.

Гэтак, паводле даных за 1923-4 шк. г., стан сярэдніх школ нацыян. менш. выглядае так: з нямецкаю выкладоваю моваю 34 школы з 8.421 вучн., з нямецкаю і польскаю моваю 9 школ, вучняў 4.304; школаў з выкладоваю русінскаю (украінскаю?) моваю 20, вучняў 7.615, з расейскаю і польскаю 1, вучняў 1.194; з расейскаю выкладоваю моваю 10 школ, вучняў 2.373, з расейскаю і польскаю — 5, вучняў 1.179; *школаў з беларускаю выкладовою моваю 2, вучняў 323, з беларускаю і расейскаю моваю 1 школа, вучняў 237*; школаў з жыдоўскаю выкл. моваю 6, вучняў 1.085, з жыдоўскаю і польскаю 1, вучн. 131. З гэбрайскаю моваю 7 школ, вучняў 1.688, з гэбрайскаю і польскаю моваю 1 школа, вучн. 131. Ёсьць нават 1 школа з польскаю, расейскаю і гэбрайскаю выкладоваю моваю адразу, з 332 вучнямі. Літоўская адна школа з 538 вучнямі. Ёсьць і 2 школы з выкладоваю францускаю моваю з 235 вуч.

На агульны лік меншасьцевых школаў—101—дзяржаўных толькі 13 (3 нямецкія, 3 нямецка-польскія, 6 русінскіх (украінскіх?) і 1 русінска-польская).

Як у Польшчы дбаюць аб асьвеце сваіх нац. меншасьцяў аб гэтым ясна сьведчаць гэткія цікавыя параўнаньні: адна сярэдняя дзяржаўная русінская (украінская) школа прыходзіцца на 557.031 душу украінскага насяленьня, адна польская на 74.387 душ польскага насяленьня, адна нямецкая на 176.470 душ немцаў.

Аб беларускай дзяржаўнай сярэдняй школе няма нават і спаміну. Калі згадзіцца, што нас ёсьць у Польшчы ўсяго толькі 1 з лішкаю мільён (паводле афіцыяльнае статыстыкі), дык выходзіць, *што адна прыватная беларуская сярэдняя школа прыходзіцца на 353.347 жыхароў-беларусаў.*

Украінцы маюць адну прыв. сярэдн. школу на 278.515 душ, палякі 1 на 45.902 душы, немцы на 28.617 душ, юдэі на 24.350 душ.

Ня маючы ніводнае дзяржаўнае сярэдняе школы і ня маючы ніякага падтрыманьня з дзяржаўных фінансаў нават на тыя прыватныя сярэднія школы, якія ледзь істнуюць за кошт ахвярнасьці нашага насяленьня і нашай настаўніцкай інтэлігэнцыі, мы запраўды-ж знаходзімся на першым месцы ў ліку закіненых у прасьветным сэнсе нацыянальных меншасьцяў Польшчы. І патрэбна нялюдзкая натуга ўсіх нашых сіл жывых, каб уратавацца ад экспансіі польскага нацыяналізму на нашыя беларускія душы, экспансіі, якая ідзе шляхам дзяржаўных польскіх школаў на нашых землях.

*К. М.*

# Беларускі друк на Ўсходзе.

Апошнімі часамі, дзякуючы палітыцы „беларусізацыі", а галоўным чынам дзеля таго, каб прыцягнуць на свой бок сымпатыі беларускае інтэлігэнцыі і пакіраваць яе проціў Польшчы, — у Менску і наагул у БССР значна вырас беларускі друк. Праўда, гэны друк носіць выразна камуністчны напрамак і заклікаець беларускі народ моцна трымацца Масквы — (іншых напрамкаў там быць ня можа) — але панашаму ўзрост беларускіх газэтаў хоць і камуністычных па напрамку маець пэўнае значэньне і сьведчыць аб росьце нацыянальнае сьведамасьці беларусаў на Ўсходзе.

Вось чаму мы і лічым патрэбным коратка паінфармаваць нашага чытача аб тым, у якім стане знаходзіцца беларускі друк у БССР.

Абмінаючы пытаньне зьместу, — які, як вядома, камуністычны ўва ўсіх газэтах і часопісах — ад'значым толькі, што менскі беларускі друк маець сваім заданьнем падрыхтоўваць настроі беларускіх сялян на выпадак вайны з Польшчаю — адгэтуль яры антыпольскі характар усіх менскіх газэт, што адразу кідаецца ў вочы, калі вы зачнеце пераглядаць менскую прэсу. З боку мовы і тэхнікі можна падзяліць усе газэты і часопісі БССР на тры тыпы;

1) Газэты і часопісі, якія друкуюцца выключна ў беларускай мове.
2) Газэты і часопісі з мяшанаю моваю з перавагаю расейскай.
3) Пэрыядычны друк з мяшанаю моваю з перавагаю мовы беларускай.

Да першага тыпу належыць найлепей пастаўленая штодзенная газэта *Савецкая Беларусь*, якая маець тыражу 10.000 экзэмпляраў, хоць большасьць матар'ялу, друкованага ў газэце, носіць казённы характар, — аднак часам у „С. Б." трапляюцца і паважныя артыкулы, якія сьведчаць, што на газэту маець пэўны ўплыў апрача камуністых і беларуская нацыянальная стыхія. Рэдагуець газэту Б. Кудзелька (М. Чарот), — вельмі здольны беларускі журналісты і адначасна з гэтым беларускі поэт.

Апрача „*Савецкай Беларусі*" ў Менску выдаецца газэта ў беларускай мове для сялян — „*Беларуская вёска*" — 15.000 экз. — і для моладзі — „Чырвоная Зьмена" каля 3.000 экз. Гэтыя газэты выходзяць два разы на тыдзень і значна слабейшыя за „С. Б.". Рэдактарамі гэтых газэт зьяўляюцца не беларусы. Амаль ня ўвесь матар'ял для „Ч. З." і „Б. В." пішацца спачатку парасейску, а потым перакладаецца на беларускую мову. У канцы 1926 году ў Магілёве, Віцебску, Полацку, Бабруйску і іншых районах, дзе раней выдаваліся газэты парасейску — яны пераведзены на беларускую мову.

Так, у Полацку выходзіць „*Чырвоная Полаччына*", у Магілёве „*Селянін*",

у Воршы „*Камуністычны Шлях*“, у Віцебску „*Віцебская Сялянская Газэта*“, у Бабруйску „*Камуніст*“, у Калінінску „*Наш Працоўнік*“, у Мазыры „*Савецкая Вёска*“. Агульны тыраж усіх гэтых 7 газэт 17-18.000 экзэмпляраў, з чаго відаць, што гэтыя газэты ня маюць вялікага значэньня.

З газэт і часопісаў 2-га і 3-га тыпу—гэта значыць з моваю мешанаю перад усім трэба ад‘значыць „Звезду“, якая маецъ найбольшы тыраж і найбольшы ўплыў на савецкую антыбеларускую палітыку. Рэдагуецца яна ў сучасны момант праз нейкага Шульмана, жыда па нацыянальнасьці і сьмяротнага ворага беларускае нацыянальнае справы. Ня больш, як тры гады таму назад, калі Шульман знаходзіўся ў Віцебску і кіраваў віцебскаю расейскаю газэтаю, ён зусім не прызнаваў нават істнаваньня беларускага народу, а беларускі рух лічыў за рух выкліканы польскімі інтрыгамі. Сягоньня гэты самы Шульман цкуе сьвядомых беларусаў у „*Звездзе*“, кваліфікуючы кожную праяву беларускага нацыянальнага руху за контр-рэвалюцыю, шовінізм, нацыянальны-дэмакратызм і г. д. Ня гледзячы на тое, што „*Звезда*“ зьяўляецца найбольш пашыранай газэтай гэтак званай БССР, беларусы гэтай газэты ня толькі ня любяць, а, проста кажучы, ненавідзяць.

Мяшаную мову маюць таксама і часопісі: „*Беларуская Работніца і Сялянка*“, „*Плуг*“ выданьне Народнага Камісарыяту Земляробства, „*Каапэрацыйнае Жыцьцё*“, „*Наш Край*“, „*Асьвета*“, „*Беларускі Піонэр*“ і некаторыя іншыя спэцыяльнага зьместу. З гэтых часопісаў трэба ад‘значыць перад усім часопісь „*Наш Край*“, якая выдаецца Інстытутам Беларускай Культуры і друкуець галоўным чынам матар'ялы па краязнаўству.

Асобна ад часопісаў з мешанаю моваю трэба разглядаць часопісі месячнікі літэратурна-палітычнага характару, як „*Полымя*“ і „*Маладняк*“ і чыста літэратурную часопісь „*Узвышша*“.

„*Полымя*“ гэта тоўстая часопісь — выходзіць 8 разоў у год. Рэдагуець яе З. Жылуновіч — вядомы ў літэратурных колах пад псэўдонімам Цішкі Гартнага. У „Полымі“ супрацоўнічаюць амаль ня ўсе літэратурныя сілы Менску, ня выключаючы Я. Коласа і Я. Купалы, хоць творы апошняга і ня вельмі ахвотна друкуюцца, як напрыклад было з яго камэдыяй „*Тутэйшыя*“, — якая валялася ў рэдакцыйным партфэлі больш 2-х гадоў. Навуковы і крытычны аддзелы часопісі вельмі слабыя. Калі там што і друкуецца — то ў большасьці працы расейскіх прафэсароў — перакладзеныя на беларускую мову. З апошніх, часам добрыя артыкулы на літэратурныя тэмы падае праф. Замоцін, а з беларускіх вучоных праф. Піотуховіч. „*Полымя*“ выходзіць ужо пяты год, — тым ня менш тыраж яго не перавышае 2.000 экзэмпляраў, з якіх платных індывідуальных падпісчыкаў усяго 416. Пашырэньню часопісі значна перашкаджаець улада, якая хоць і выдаець субсыдыю на часопісь, аднак ня вельмі зацікаўлена ў тым, каб „*Полымя*“ і яго супрацоўнікі мелі ўплыў на інтэлігэнцыю і народныя масы.

Часопісь „*Маладняк*“ істнуе ўжо чатыры гады і выдаецца літэратурнаю групаю поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“. Рэдагуець газэту М. Чарот, а бліжэйшымі супрацоўнікамі яго зьяўляюцца Дудар, Зарэцкі і Александровіч.

Часопісь „*Узвышша*“ выдаецца літэратурнаю групаю поэтаў і пісьменьнікаў „Узвышша“, у якую ўваходзяць: Дубоўка, Крапіва, Бядуля, Кузьма Чорны, Бабарэка і іншыя. Агульны тыраж „Узвышша“ 1000 экзэмпляраў.

Што-ж датычыць непэрыядычнага друку на Ўсходзе, то ён складаецца галоўным чынам з кніжак-падручнікаў для беларускае школы, некаторыя з якіх выданы ў значным ліку экзэмпляраў. *Падаў В.*

# III Конгрэс нацыянальных меншасьцяў.*)

Ад 22 да 25 жніўня працаваў у Жэнэве III конгрэс нацыянальных меншасьцяў Эўропы.

На Конгрэсе былі прадстаўлены: меншасьць польская з Нямеччыны (пасол І. Бачэўскі, доктар Карчмарак, С. Шчэпаняк), з Літвы (пасол Будзыньскі), з Латвіі (пасол Вільпішэўскі), з Чэхаславакіі (пасол Волер), меншасьць сэрба-лужыцкая з Нямеччыны, дацкая з Нямеччыны, меншасьць украінская з Румыніі, меншасьць славенцаў з Італіі і Аўстрыі, меншасьць харвацкая і чэская з Аўстрыі, меншасьць расейская з Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі і Баўгарыі, меншасьць жыдоў з Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі і Баўгарыі, каталёнская меншасьць з Гішпаніі, меншасьці нямецкія з Польшчы, Даніі, Эстоніі, Вэнгрыі, Італіі, Югаславіі, Літвы, Румыніі і Чэхаславакіі, а таксама меншасьці вэнграў з Югаславіі, Румыніі і Чэхаславакіі — агулам 32 нацыянальныя меншасьці Эўропы.

Працу Конгрэсу папярэдзіла Конфэрэнцыя славянскіх меншасьцяў у Жэнэве (19 жніўня), Конфэрэнцыя нямецкіх меншасьцяў у Рызе і Рэўлі (Таліне) — 5 і 6 ліпня і жыдоўская конфэрэнцыя ў Цурыху (17, 18 і 19 жніўня).

Конфэрэнцыя славянскіх меншасьцяў прыняла тэзы агульнае тактыкі на конгрэсе і цэлы рад прапазыцыяў, якія датычаць паасобных пунктаў парадку дня конгрэсу. Трэба адзначыць, што на гэтай конфэрэнцыі славянскіх меншасьцяў стварыўся агульны фронт славянаў проціў немцаў і проціў тых, якія знаходзяцца пад нямецкімі ўплывамі. Між іншым славянскія меншасьці пастанавілі салідарызавацца з блёкам нацыянальных меншасьцяў Нямеччыны і дамагацца прыняцьця на конгрэс меншасьці фрызаў,

20 жніўня па абедзе адбылося першае паседжаньне прэзыдыуму конгрэсу, у склад якога ўвайшлі: адзін славенец, адзін паляк, двох немцаў і адзін вэнгэрац. Ужо на гэтым першым паседжаньні выявілася немагчымасьць прыйсьці да згоды паміж групаю немцаў і групаю славянскіх меншасьцяў.

Наступнае паседжаньне прэзыдыуму адбылося ў панядзелак 22 жніўня, на якім таксама была вострая дыскусія, якая не прывяла а ні да якіх кампрамісных пастановаў.

Таго-ж самага дня адбылося першае паседжаньне гэтак званае „gremium“, накшталт Найвышэйшае Рады, на якім прадстаўлены былі ўсе групы меншасьцяў, прыехаўшых на конгрэс.

Галоўным пытаньнем гэнага паседжаньня была справа прыняцьця на конгрэс новых нацыянальных меншасьцяў, а менавіта: фрызаў з Нямеччыны, македонцаў з Югаславіі, украінцаў, беларусаў і літоўцаў з Польшчы. Таксама, як і ў нарадзе прэзыдыуму, пачалася досыць вострая дыскусія. Немцы гатовы былі прыняць на конгрэс македонцаў, а таксама украінцаў, беларусаў і літоўцаў з Польшчы, гатовы былі нават на прынцыповыя ўступкі ў справе характару конгрэсаў, якія, як вядома, выключылі з дыскусіі самавызначэньне народаў,—але ні за што не хацелі

*) Артыкул аб III конгрэсе нацыянальных меншасьцяў падаецца на падставе матар'ялаў, атрыманых рэдакцыяй ад гэнэральнага сэкрэтара Дасьледчага Інстытуту Нацыянальных Справаў п. Папроцкага, які асабіста быў прысутны ў Жэнэве падчас конгрэсу.

прыняць на конгрэс фрызаў, ня гледзячы на тое, што справа іх парушвалася на першым і другім конгрэсе і што спэцыяльная камісія прызнала фрызаў за нацыянальную меншасьць Нямеччыны.

На пленуме конгрэсу немцы запрапанавалі адлажыць справу фрызаў і прыняцьця новых меншасьцяў да наступнага 4-га конгрэсу, калі будзе апрацованы новы статут конгрэсаў. Проціў такое прапазыцыі востра выступіў блёк меншасьцяў з Нямеччыны, які стаяў на пазыцыі прыняцьця фрызаў.

Ня гледзячы на тое, што меншасьці з Нямеччыны пайшлі на вялікія ўступкі і згадзіліся адлажыць прыняцьце фрызаў да чацьвёртага конгрэсу, абы толькі конгрэс прызнаў фрызаў за нацыянальную меншасьць, — нямецкія групы пасьля кароткае нарады самым рашучым спосабам адкінулі гэтую прапазыцыю. Конфлікт завастраўся. Станавілася ясным, што конгрэсы арганізуюцца ня толькі дзеля мэтаў абароны меншасьцяў, але галоўным чынам для таго, каб з меншасьцяў зрабіць аружжа нямецкае палітыкі.

Усе прапазыцыі опозыцыі на конгрэсе, а асабліва датчан і славянаў ня толькі ня прыймаліся, але нават не дапускаліся на парадак дня па чыста фармальных прычынах. Адначасна з гэтым, усіх хацелі змусіць прыняць такія прапазыцыі, якія былі на карысьць немцаў. Напрыклад, у арганізацыйнай камісіі, у якой абгаварвалася конструкцыя органаў кангрэсу, немцы хацелі правясьці такія пастановы: стварэньне інстытуцыі „gremium“ — уставадаўчае інстытуцыі, якая-б працавала паміж конгрэсамі і складалася-б па аднаму дэлегату ад кожнае меншасьці — а не ад нацыянальных групаў (напр. палякі — адзін дэлегат, немцы — адзін дэлегат і г. д.). У практыцы — устанаўленьне інстытуцыі „gremium“ аддавала-б усю працу конгрэсу ў рукі немцаў. Зусім зразумела, што меншасьць конгрэсу такое прапазыцыі прыняць не магла.

Таксама і ў „языковай“ камісіі нарада стала на мёртвым пункце, дзеля таго, што ў справе устанаўленьня правілаў для прыналежнасьці паасобнае адзінкі да меншасьці славяне і немцы не маглі а ніяк пагадзіцца.

У той час, як славяне лічылі, што да залічэньня да меншасьці досыць суб'ектыўнае сьведамасьці і об'ектыўнае ад'знакі (мовы), немцы хацелі, каб устаноўлены быў прынцып дэклярацыі „прызнаньня сябе“.

Розьніца гэткая вельмі характарная. Калі для немцаў досыць „прызнаньня сябе“ за немца, ў Польшчы напрыклад, што ён заўсёды зробіць, то для паляка ў Нямеччыне з прычынаў чыста суб'ектыўных і палітычных вельмі цяжка прызнаць сябе за паляка, бо гэта павядзе за сабою шмат няпрыемнасьцяў.

Адным словам, разьбежнасьць паміж большасьцю конгрэсу і меншасьцю істнавала ўвесь час, як на пленуме, так і ў камісіях, і дзеля гэтага рэфэраты, чытаныя на пленуме, нікога ня цікавілі, а жыцьцё пульсавала ў камісіях і за кулісамі конгрэсу.

У аўторак 23 жніўня на парадак дня пленуму былі пастаўлены наступныя рэфэраты: „Нацыянальнае пытаньне з пункту гледжаньня навуковага“ (належнасьць да нацыі і статыстычныя пытаньні) і другі рэфэрат: „Нетолеранцыя нацыянальных меншасьцяў, як пагроза міру“. Першы рэфэрат меў характар чыста тэорэтычны, — але другі насіў характар выразна палітычны і быў прачытаны доктарам Эвальд Аммэндэ, які даказваў, *што галоўнаю прычынаю сусьветнае вайны* былі нацыянальныя спрэч-

кі паміж дзяржавамі і ўнутры дзяржаваў, што вайна вялікіх зьменаў не прынясла і хоць зьменшыла лік належачых да меншасьцяў, але за тое павялічыла лік самых меншасьцяў.

Доктар Аммэндэ далей высунуў тэзу, што галоўнаю прычынаю такога прыкрага стану зьяўляюцца *памылкі, зробленыя пры устанаўленьні межаў розных дзяржаваў.*

Другою характарыстычнаю тэзаю доктара Аммэндэ было тое, што амаль ня кожная нацыянальная меншасьць мае сваю бацькаўшчыну — дзяржаву, да якое імкнекца, што яшчэ больш, ніж перад вайною, абвастраець міжнародныя конфлікты. Конфліктаў гэтых ня можа залагодзіць ні абарона нацыянальных меншасьцяў з боку Лігі Народаў, ні абарона нацыянальных меншасьцяў унутры дзяржаўных арганізацыяў, якая нідзе не праведзена ў жыцьцё.

Нацыянальнае пытаньне, калі ня будуць папраўлены граніцы, можа быць ізноў прычынаю вайны і калі Ліга Народаў узапраўды хоча міру, яна мусіць адважна вырашыць нацыянальныя конфлікты.

Па адчытаньні гэтых рэфэратаў — была дыскусія, а потым старшыні розных камісіяў запрапанавалі некалькі рэзалюцыяў.

У гэтым самым часе конфлікт паміж большасьцю і меншасьцю конгрэсу дайшоў да кульмінацыйнага пункту. У апошні дзень конгрэсу 24 жніўня — за некалькі гадзін перад зачыненьнем конгрэсу — склікана была конфэрэнцыя меншасьці конгрэсу, на якой аднагалосна пастаноўлена, што розьніца ў паглядах паміж большасьцю конгрэсу, кіраванай праз немцаў і меншасьцю такая значная, што немагчыма прыйсьці да кампрамісу. Прапазыцыя аб выступленьні з конгрэсу знайшла падтрыманьне ўсіх опозыцыянэраў, а гэнэральным прамоўцаю ад імя сэцэсіяністаў выбраны доктар І. Карчмарак, каторы аб'явіў дэклярацыю аб прычынах выступленьня.

Выступленьне з конгрэсу ўсіх славянскіх групаў, апрача славенцаў з Тыролю і украінцаў з Румыніі, выклікала вялікае ўражаньне на конгрэс. Паседжаньне было перарвана, і паасобныя нацыянальныя групы выйшлі на нараду.

Пасьля паўгадзіннага перарыву, зноў адчынілася паседжаньне пленуму, на якім Вэнгры, Немцы, Жыды і Каталёнцы заявілі, што застаюцца на конгрэсе. Пасьля прыняцьця незачытаных яшчэ рэзалюцыяў, конгрэс зачыніўся.

Групы-ж славянскія (палякі, чэхі, славенцы, сэрба-лужычане, рускія, харваты, а таксама і датчане) сабраліся на нараду, на якой стварылі агульны блёк, выбралі сэкрэтарыят гэнага блёку, сядзібай якога назначылі Бэрлін.

Такім чынам, сягоньня заместа аднае істнуюць ужо дзьве арганізацыі нацыянальных меншасьцяў, з якіх кожная маець сваю ідэолёгію і сваеасобныя мэты.

# Шлях да незалежнасьці Беларусі.

## II.

## Польска-беларускія адносіны.

У № 1 „Б. К.“ у артыкуле пад такім самым назовам мы толькі агульна закранулі гэную вельмі паважную справу польска-беларускіх адносінаў, якая ў варунках пасьлямаёвага перавароту маршалка Пілсудскага набывае́ць для беларусаў ня толькі тэрэотычнае, але і актуальнае практычнае значэньне. І ўзапраўды, ставячы сваёю галоўнаю задачаю палітычнае і эканамічнае ўзмацненьне незалежнае Польшчы, сучасны польскі ўрад, а з ім і тыя палітычныя і грамадзкія польскія групы, якія падтрымліваюць урад, пачынаюць варушыцца ў справе зьмены нацыянальнае палітыкі ў адносінах да украінцаў і беларусаў.

І трэба прызнаць, што першыя крокі, хоць і ня зусім сьмелыя, ў гэтым кірунку ўжо зроблены, асабліва-ж у галіне гаспадарчай і культурнай. Адчыненьне беларускіх і украінскіх школаў, прынцып утраквізму, які ўводзіцца на Валыні, ў Галіцыі і ў нас, толераваньне гаспадарчых і грамадзкіх беларускіх арганізацыяў, адкрытая барацьба ўраду з польскімі шовіністымі і асабліва з эндэцыяй, якая выявілася ў разгоне эндэцкіх дэмонстрацыяў у Львове і Пазнані, пратэставаўшых проціў палітыкі міністра асьветы Дабруцкага, — усе гэтыя факты можа яшчэ і не далі пэўных палітычных і псыхолёгічных эфэктаў у грамадзянстве, можа яшчэ і не стварылі пераломy ў настроях народных масаў, але ў кожным разе зьяўляюцца вельмі характарнымі фактамі, міма якіх прайсьці нельга і ацаніць іх значэньне зьяўляецца патрэбным для кожнага рэальнага палітыка.

Па нашаму глыбокаму пераканацьню, ўсе гэтыя зьмены ў адносінах польскага ўраду да беларусаў і украінцаў *зьяўляюцца пачаткам цэлае прадуманае сыстэмы новай нацыянальнай палітыкі Маршалка Пілсудскага* і выкліканы ня столькі ўваскрашэньнем традыцыяў і жэстаў 1920 году, сколькі рэальнымі інтарэсамі незалежнае Польшчы, якая ад слоў і замераў, ад абяцанак і хістаньняў, нарэшце пераходзіць да справы ўзмацненьня свайго палажэньня на Ўсходзе.

Той, хто ацэньваець сягоньняшні дзень днём учарашнім, хто, раўняючы вынікі высілкаў Пілсудскага ў 1920 г. з сягоньняшнімі зьменамі, лічыць, што нічога сталага, нічога пэўнага ня будзе, — мыляецца, і глыбока мыляецца, бо паміж 1920 годам і сягоньняшнім днём аграмадная розьніца.

Тады, у 1920 годзе было больш рамантыкі, — сягоньня больш рэальнасьці. Тады была пераацэнка і сваіх сілаў і сілаў нацыянальнае сьвядомасьці беларусаў і украінцаў, — сягоньня асьцярожны падыход да спра-

вы з бугальтэрыяй у руках. Тады быў хаос і эканамічная руіна краю, — сягоньня хоць і невялікая, але пэўная матар'яльная база для эканамічнага адраджэньня.

Адным словам — розьніца паміж 1920 годам і сучаснасьцю вялікая і фактычна толькі сягоньня незалежная Польшча пачынаець рэалізаваць тое, што яна павінна рэалізаваць, толькі сягоньня набіраець павагі і дзяржаўнага жэсту, толькі сягоньня становіцца незалежнаю, як у сэнсе свае ўнутранае, так і загранічнае палітыкі.

З гэтым трэба лічыцца і толькі сьляпы ня бачыць тых паважных зьменаў у дзяржаўным польскім жыцьці, якія адбыліся за апошнія гады і асабліва пасьля маёвага перавароту.

---

Калі мы ня мыляемся, калі мы ўзапраўды маем перад сабою пачатак новае нацыянальнае польскае палітыкі на Ўсходзе, то павінны зразумець яе намеры і мэты, павінны зразумець хоць-бы ў агульных рысах той плян, які незалежная Польшча хоча зрэалізаваць.

Ні ўрад у асобе Маршалка Пілсудскага, ні польская прэса на гэтае пытаньне выразнага адказу не дае. Выразных дэклярацыяў мы ня бачым і ня чуем.

Але гэны плян ёсьць і яго ня так трудна зразумець кожнаму, хто зьяўляецца па сваім перакананьням незалежнікам — у вышэйшым, чыстым значэньні гэтага слова.

Гэты плян, па нашай думцы, палягаець на тым, *што ў галіне свае нацыянальнае палітыкі ўрад будзе старацца паправіць памылкі папярэдніх дамаёвых урадаў і установіць нармальныя, здаровыя, братэрскія адносіны паміж народамі Польшчы і гэтым узмоцніць сваё палітычнае палажэньне ў краі і на міжнароднай арэне.*

І вось у той час, калі польскі ўрад, а з ім і пэўная частка польскага грамадзянства, найбольш дальнавідная і разумная, пачынаець выкідаць на сьметнік гісторыі прыкрыя памылкі папярэдніх дамаёвых урадаў, калі пачынаецца змаганьне з шовіністычнымі настроямі сярод польскага грамадзянства, то па нашай думцы было-б вельмі неразумна з боку беларусаў ня бачыць гэтага і не зьвяртаць на гэта ніякае ўвагі.

Таксама цьвяроза, таксама рэальна, з бугальтэрыяй у руках, як палякі, павінны падыйсьці да справы і мы.

Разумеючы, што ажыцьцяўленьне ідэалу Незалежнасьці Беларусі яшчэ далёка, — павінны мы перастроіць усю сваю праграму і тактыку сягоньняшняга дня, перастроіць так, каб адваяваць сабе базу дляназьбіраньня сілаў, базу для нармальнага культурнага і гаспадарчага жыцьця.

Гэта нам патрэбна сягоньня, як паветра, як вада і хлеб, але яшчэ болей гэта нам патрэбна для будучыны, для тае будучыны, якая нясе нам поўнае нацыянальнае вызваленьне.

Ствараўшуюся ў Польшчы сытуацыю мы перад усім мусім разумна выкарыстаць для рэалізацыі ідэі тэрыторыяльнае аўтаноміі беларускіх земляў.

*Аўтаномія! За аўтаномію!* вось баявы, рэальны лёзунг для нас, пад якім павінны мы сягоньня згуртавацца, адкідаючы ў бок партыйную і гру-

павую грызьню, адкідаючы ў бок усе „праграмы“ і „праграмкі“, якія сягоньня ўжо нікога пераканаць ня могуць і выклікаюць толькі ўсьмешку на вуснах рэальных, цьвярозых людзей.

Ствараючы пад лёзунгам „аўтаноміі“ адзіны беларускі нацыянальны фронт, мы дакажам сваю палітычную сьпеласьць, патрапіма выйсьці з таго крызысу і маразму, у якім апынуліся, дзякуючы інтрыгам варожых нам чужацкіх сілаў, і здабудзем сабе саюзьнікаў і сярод польскага грамадзянства, якое складаецца, як бачым, ня толькі з аднае „эндэцыі“, — а і з людзей, якія разумеюць ўсю патрэбу рэарганізацыі і рэформы сцэнтралізованага дзяржаўнага арганізму Польшчы.

Рэальныя сілы ў нашым краі сягоньня ўлажыліся так, што ідэя аўтаноміі стала ня толькі папулярнаю, — але і актуальнаю задачаю ўсіх групаў насельніцтва незалежна ад нацыянальнасьці і стану.

Адным камуністым і эндэкам аўтаномія будзе не да смаку, бо рэалізацыя яе аканчальна падарве іх уплывы на народныя масы, уплывы, якія яшчэ маюць месца, як перажытак ненармальных нацыянальных адносін.

Аўтаномія — будзе вялікаю здабычаю беларускага народу на шляху да поўнага нацыянальнага вызваленьня, бо рэалізуюць мінімум нашае нацыянальнае праграмы.

Але яшчэ большаю здабычаю яна будзе для нас, як для народу ў тым сэнсе, што паставіць крыж на нацыяняльнай грызьні і зьявіцца тым мостам, які злучыць усе народы нашага краю ў адным імкненьні — у імкненьні творчым над адраджэньнем нашае вякамі заняпалае, гаротнай, „пакінутай Богам і людзьмі“ — старонкі.

Ці ёсьць магчымасьць дабіцца і адваяваць гэную, патрэбную нам аўтаномію ў сучасных варунках?

Глыбока пераканаsuccessful ў тым, — што пры разумным падыходзе да справы, пры згуртаваньні ўсіх беларусаў - аўтанамістых і пры адначасным з гэным згуртаваньні ўсіх палякоў - аўтанамістых пры супрацоўніцтве і дружным выступленьні гэных дзьвёх грамадзкіх групаў на арэну нашага краёвага палітычнага жыцьця, — аўтаномію мы будзем мець.

*Незалежнік.*



# Творы М. Васілька.

**Ніжэй надрукаваныя вершы популярнага беларускага поэта М. Васілька былі атрыманы рэдакцыяй перад самым выхадам № 2 „Беларускай Культуры". Дзеля гэтага яны зьмешчаны ў канцы кніжкі, а не ў літэратурным аддзеле яе.**

## Песьняру.

*Не прароч барацьбы ты ў спакойных слывах*
*Братом гінучым ў муках нядолі*
*Знай, што вецер слабы той — будыніну, гмах*
*Не ўзварушыць, мой браце, ніколі.*

*Заклік твой, як агонь, ў якім плавіцца сталь*
*Мусіць быць пяруністым ударам;*
*Як магутна далонь, якой сьмела каваль*
*Сыпле іскраў сталёвых пажарам.*

*Азірні навакол вокам гордым прастор:*
*Гэй, народ — жыве маці-краіна.*
*Сіла ёсьць — гэй, арол, шыбані аж да зор*
*Духам моцным спакон славяніна.*

*Што нам цемры туман, мы дарэшты зьмяцем*
*Сьмелым прыступам мрок той бяздольля,*
*На адвечны курган штандар славы ўзьнясем*
*Мы! — ніхто, бо мы сіла, мы воля...*

*Брат, ты плачаш — пакінь, ня траць часу дарма,*
*Чуеш, вецер як дзіка скавыча,*
*Рукі склаўшы ня сьлінь — шчасьце, воля сама*
*Нас ў палацы свае пе пакліча.*

*Яна прыдзе з красой, пасьля хмурнага дня*
*У яснай постаці, з гымнам свабоды,*
*Згасіць, шчасьця расой, боль пакуты-агня*
*Гляне ў душу жыцьцём-асалодай.*

*Праляціць яна віхрам праз ніўкі, палі,*
*Гарамыка мужык дзе працуе*
*Палын вырве — траву з маткі роднай зямлі*
*На тым месцы жытцо закрасуе.*

*Адно трэба прыняць шчырай працы цяжар,*
*Каб спаткаць гэту волю сьвятую,*
*Азарыці сьвятлом, браце родны, пясьняр,*
*Адрадзіць Беларусь Маладую.*

# Разальлю я мора веры.

Разальлю я мора веры,
Мора імпату-запалу,
Праламаю к шчасьцю дзьверы,
Разальлю я мора веры.

Песьню моцы разудалу
Зацяю, дзень смутку шэры,
Безнадзейнасьць, роспач зьнішчу —
Разальлю я мора веры.

Тым, ў чыіх грудзёх пакута,
Чыё сэрца лёдам скута,
Каго крыўдзіць лёс бяз меры —
Разальлю я мора веры.

Па шляху жыцьця вялікім
З роем думак горкіх, чорных,
Хто пляцецца наманікам,
Абуджу ў тым дух бадзёрны.

Брацьця! — горда і высока
Узьнімем голавы, хай вока
Сакалінным зрокам зьзяе.
Сіла, сіла маладая

Хай з грудзей магутным ўздымам
Б'е-шугае. Горкім дымам
Даль спавіта
шлях сейбіта
Зьдзірванелы...

Веры трэба — гэй, хто сьмелы!
Церабі шлях, спрабуй сілу,
Ахіні старонку мілу
Шчырай працаю, каханьнем;

Бліскам сонца, пышным раньнем
Разуквець яе, ня здрадзь ёй.
Шчырым сэрцам, край, народ свой
Пакахай!
І скрозь хмары
На папары
Жыцьця-поля
Лепшай долі
Закрасуйся пышны май!

# Восень.

Лес повен суму, клопату,
Шуміць лісьцьцём, гудзе.
То сьцішыцца, то зноў потым
Тужліва завядзе.

Ляціць пажоўклы ліст зрэдка
Дзьмухне ледзь вецярок,
Асін, чырвона вопратка,
Віднеецца здалёк.

Ні коласа, ні каліўца
На ніўках на палёх,
Гуляе вецер, цешыцца,
Што ёсьць яму разлог.

Дні шэрай, хмурнай восені
Пачатак халадоў —
З напевам сумным, вось яны,
Зьявіліся ізноў.

Ўжо цьмяней неяк сонейка
Сьвятлом палошча гай,
Цалуе твар сасоньніка
Пяе красе — бывай!..

Ня будзе над далінамі
Пры дзіўным зьзяньні зор
Люляці салаўінымі
Вас трэлямі, прастор

Праменнымі пяшчотамі,
Жывой красы агнём
Ў крышталь нябёс узьлётамі
Ня гляне дзіва днем.

І быццам ў доказ слоў гэтых
Заскавытаў віхор
З шалёным сьвістам праз платы
Шугнуў-памкнуў на бор.

# КРАЯЗНАЎСТВА.

## Геолёгічныя досьледы праф. Тэрлецкага і Блюдухі.

Аб мінэральных багацьцях Беларусі мала хто ведаець, або правідловей кажучы ніхто ня ведаець. Гэта тлумачыцца тым, што Беларусь на геолёгічнай карце — белая пляма, найменш дасьледаваная краіна Эўропы.

Тым больш цікавымі зьяўляюцца, як з чыста навуковага боку, так і эканамічнага першыя геолёгічныя досьледы праф. Тэрлецкага і праф. Блюдухі, якім наш край будзе вельмі ўдзячны за трудную працу піянэраўдасьледчыкаў.

Дык вось аказваецца, што ў нас сустракаюцца вельмі карысныя выкапні, як вапняк, глаўкалітавая гліна, белыя кварцовыя пяскі, жалезная руда, крэйда і іншыя, якія чакаюць яшчэ падрабязнага вывучэньня і з часам адыграюць вялікую ролю ў росквіце нашае краёвае прамысловасьці.

Так напрыклад: у Менскай акрузе каля в. Раванічы Ігуменскага раёну, знойдзены вялікія залежы вапнякоў, рознай афарбоўкі глаўкалітавых глін, пясчанікаў і інш.

У Койданаўскім і Лагойскім раёнах знойдзены выхады белай крэйды. У Койданаўскім раёне знаходзяцца найбольш буйныя залежы крэйды, якія выходзяць напаверх каля в. Дзягільна і каля хутара Бакіновічы. Апроч таго, крэйда знойдзена таксама пры сьвідраваньні пад'земнага пласту ў некаторых мясцох койданаўскага раёну.

З карысных выкапняў у Менскай акрузе сустракаюцца будаўнічыя каменьні і пяскі, асабліва іх шмат у паўночнай частцы акругі. Таксама шмат ёсьць белых кварцовых пяскоў, якія ўжываюцца на выплаўку шкла; апошнія знаходзяцца каля в. Крамянец, Лагойскага раёну, каля в. в. Вуглы, Затычына і Зарэчча, Заслаўскага раёну і каля в. Парэчча, Пухавіцкага раёну.

Цікава спыніцца на мінэральных крыніцах, якія пакуль што ў межах акругі больш-менш дасьледаваны толькі ў адным Лагойскім раёне, дзе ёсьць моцна-жалезістыя і слаба-радыёактыўныя воды. Жалезныя руды знойдзены (балотныя і дзірванныя) на р. Цна, Лагойскага раёну, на рацэ Нёмане каля м. Пясочнае, на р. Волме каля в. Рудня, Ігуменскага раёну. Асабліва значныя залежы жалезнай руды на р. Сьвіслачы і прытоках яе ў раёне м. Пухавіч.

У Бабруйскай акрузе знойдзена таксама шмат розных карысных выкапняў. Шмат будаўнічых каменьняў з валуноў знаходзяцца ў межах Сьвіслацкага р. Вапнякі выступаюць напаверх каля хутара Града і ў іншых пунктах Асіпавіцкага р. Масавае награмаджаньне валуноў вапняку знаходзіцца каля в. Брадзец на левым беразе Бярозы ў Сьвіслацкім р

Ганчарныя і кафельныя гліны знойдзены каля мястэчка Ланіч

в. в. Вязь і Азерыца на р. Сьвіслачы, а таксама пад Бабруйскам (на р. Бярозе) і пад Стрэшыным (на рэчцы Дняпры).

Белыя кварцовыя пяскі знаходзяцца ў вялікай колькасьці ў Асіпавіцкім раёне каля в. Пераслава, каля м. Клічава ў Глускім раёне.

Знойдзены выхады дробнага чырвонага жалезьняку на ручайку Крывавым (прыток Бярозы); тут на працягу кілёмэтра залягаюць месцам чырвоны і буры жалезьнякі на глыбіні 30-45 см., хімічны аналіз тут выяўляе ў паасобных апрацоўках 77,8 проц. окісі жалеза.

Праф. Блюдуха праводзіць дасьледаваньне карысных выкапняў усходніх рубяжоў Беларусі.

У Калінінскай акрузе да гэтага часу вызначаны ім 107 месцазнаходжаньняў розных выкапняў, у Магілёўскай — 38, у Аршанскай — 39. Пакуль што вывучаюцца ня ўсе выкапні і ня ўсе матар'ялы перапрацованы.

Зварочваюць на сябе асаблівую ўвагу некаторыя вапнякі ля м. Крычава, якія па хімічнаму складу зьмяшчаюць нават менш 1 проц. магнэзіі, і таму зьяўляюцца вельмі карыснымі ў будаўніцтве.

Крэйдавых залежаў шмат ёсьць у Калінінскай акрузе: ля в. Воранева, на правым беразе ракі Лабажанкі ля Клімавіч. Што датычыцца Калінінскіх фасфарытаў, то яны па свайму хімічнаму складу зьмяшчаюць ад 15 да 18,4 проц. фосфарнай квасьнасьці, а некаторыя віды фасфарытаў зьмяшчаюць нават да 30 проц. гэтае квасьнасьці.

Вельмі цікавымі зьяўляюцца залежы зялёнай гліны, якая мае вялікае ўжываньне ў прамысловасьці і якая да гэтага часу прывозілася з-за межаў („філёрыды" з Амэрыкі і інш.). У Расеі такая гліна здабываецца ў Крыме („Кіл"). Магутнасьць пластоў гэтае гліны даходзіць да 1-2 мэтраў і па свайму хім. складу яна зусім чыстая

Сёлета праводзілася вывучэньне трэпелаў (інфузорная зямля), якая была ўзята ля Капысі. Вопыты паказалі, што трэпелы зьмяшчаюць у сабе 84.41 пр. крамнязёму.

Апрача бурага вугалю — гэтага старажытнага торфу, які сустракаецца ў некаторых мясцох, нашы балаты і вазёры багаты сапрапэлямі, паўвадкім гаручым элемэнтам, якія ў перагонцы даюць змазачныя клустасьці, парафін і інш. На некаторых балотах сустракаюцца нават цьвёрдыя залежы гэтага каштоўнага мінэралу, шмат цьвёрдага сапрапэлю знаходзяць на балоце Буг, Талачынскага раёну, дзе, як мяркуюць, даўней было возера.

# Як спаткалі № 1 „Беларускае Культуры“.

Водгукаў на выхад першага нумару нашай часопісі было шмат. Іх можна падзяліць на дзьве групы: прыхільныя і варожыя, з другога боку, водгукі можна падзяліць на рэцэнзіі, якія былі зьмешчаны ў газэтах, альбо часопісях, і на водгукі паасобных грамадзян, якія прыслалі ў рэдакцыю „Б. К.“ прыватныя пісьмы. З апошніх трэба ад'значыць пісьмо праф. Фасмэра, вядомага славістага з Бэрліну, які прывітаў „Б. К.“ і напісаў нам, што з „над'звычайнаю цікавасьцю прачытаў“ № 1 „Б. К.“ і ад'значыць яго ў сваім навуковым часопісе. З іншых прыватных водгукаў заслугоўвае на ўвагу пісьмо поэта М. Васілька, які на вялікі жаль ня змог даць сваіх твораў у № 1, — але які адначасна з гэтым ад'значыў: „дарэмна дзяўкаюць на... „Б. К.“, — яна запраўды заслугоўвае гэтае пачэснае назовы“.

Лісты прыватныя са Стоўпцаў з Наваградчыны гавораць аб тым, што „Б. К.“ беларуская інтэлігэнцыя прыняла вельмі прыхільна, асабліва-ж захаплялася творамі А. Бартуля. Што да водгукаў у прэсе, то тут у першую чаргу трэба ад'значыць вельмі талентную і глыбокую рэцэнзію „Беларускай Крыніцы“, — якая ў № 36, ад 2-га верасьня зьмясьціла аб „Б. К.“ цэлы артыкул. Вось што, між іншым, гэта старэйшая беларуская газэта напісала аб нашай часопісі:

> „З любасьцяй, з эстэтычным пачуцьцём бяром у рукі „Б. К.“.
>
> Паважная вокладка, добрая папера, прыгожыя, а некаторыя поўны высокага сымболізму застаўкі выклікаюць у нас сымпатыю для месячніка і прымушаюць пазнаёміцца з яго зьместам.
>
> Чытаем. Сымпатыя для часопісі павялічваецца. Мова, з малымі выняткамі, чыстая, старанная. Але хутчэй да зьместу.
>
> На пачатку зьмешчаны дзьве няпоўныя старонкі ад рэдакцыі. Спатыкаем у іх глыбока патрыятычныя і інтэлігэнтныя думкі аб незалежнасьці Беларусі.
>
> Далей ідзе аддзел прыгожага пісьменства, у якім першы раз бліснуў сваім поэтыцкім, з „Божай ласкі“ талентам, малады наш пясьняр А. Бартуль. Яго „Князёўна“ — казка ў двух актах — гэта пэрла нашай літэратуры. Твор гэты бяссумніву высока ўзносіць маладога поэта на беларускі Парнас і ставіць яго вобак найвялікшых песьняроў нашых. У гэтай казцы, казаў бы ў люстры, бачым, як ворагі: ведзьмы, хохлікі, нячысьцікі мучаць народ наш, як лепшыя сыны народу з гэнай сілай нячыстай змагаюцца, як Рыцар, вяшчун ясных дзён народу, сьветлую долю яму прарочыць, як творчы гнеў народны пяруном б'е і маланкай зьяе, проч гонячы ад народу сілы цёмныя, урэшце, як народ наш... наша Князёўна „праснулася, ня сьпіць“. І з прыкрым расчараваньнем чытаем мы, што ўжо канец першага акту „Князёўны“. Чародны нумар часопісі пэўне-ж прынясе нам другі і апошні акт цудоўнай „Князёўны“
>
> Творы геніяльных польскіх поэтаў, як „Ангэльлі“ — Ю. Словацкага, „Сьвітэзь“ А. Міцкевіча ў прыгожай беларускай вопратцы знайшлі так-жа тут сабе куток.
>
> „Марская Легэнда“. Напісаў С. Белайц. Цудоўная легэнда! Прачытаўшы яе, чалавек сьвяжэе душой, далей і ясьней бачыць шляхі таёмнага быту свайго. Ідэйны каралевіч, які насупроць свайго бацькі караля і багатыроў ня гнаўся за золатам, заклікаў людзей да творчай працы, да тэй працы, да якой кожны здольны, — сваім бацькам каралём пасаджаны ў турму. Але анел вызваліў яго з няволі і „стаўся ён — апякунчым духам мараком і рыбаком, якія ў мінуту сьмяротнай небясьпекі клічуць яго на помач і заўсёды гэтак: як клічаш яго і верыш, што прыбывае, то ён збавіць цябе і павязе да бясьпечнага месца, а калі ня верыш, — згінеш. Але дзіўна тое, што яго рэдка хто бачыць, толькі хто мае сумленьне чыстае, той бачыць ягоную туманную постаць, стаячую каля кіруна...“

Вось сынтэза зьместу „Легэнды“. У прыгожай форме расказу ды які стройны глыбокі этычны зьмест!

Далей спатыкаем сільны патрыятычны верш, не надрукаваны ў Менску; „Суклон Сталецьця“ — Рабіндранат'а Тагора — індыйскага філёзофа-мастака, які глыбока і прыгожа ў кароткіх нарысах снуе думкі проціў зьбярынага нацыяналізму на чэсьць глыбокага гуманізму, далей ідуць недрукаваныя дагэтуль вершы М. Багдановіча і характарыстыка новых твораў Я. Коласа...“

Скрытыкаваўшы з свайго пункту гледжаньня палітычны артыкул „Шлях да незалежнасьці Беларусі“, — „Б. Крыніца“ вельмі прыхільна прыняла артыкул „Аб вуніі на беларускіх землях“, і пра аўтора яго кажа, „што так цяжкую і запутаную справу... як у пэрспэктыве мінуўшчыны, так і ў пэрспэктыве справы беларускае ў будучыні прадставіў цалком правідлова і ясна“. Падрабязная рэцэнзія „Беларускай Крыніцы“ аб „Беларускай Культуры“ канчаецца такім вельмі характарным абзацам:

„Дык памінаючы некаторыя пахібы месячніка, вынікаючыя з духу аднастароннасьці і... ахвоты папалітыкаваць, агулам месячнік мае дадатняе значэньне. *Зьмест яго агулам вытрыманы ў духу народным, патрыятычным, форма прыззгітая, культурная.* Гэта ня „Родныя Гоні“, якія зьяўляюцца нейкай недарэчнай зьбіранінай: вучонага і камсамольскага, народнага і соцыялістычнага, вузка нацыяналістычнага і міжнароднага, прыгожага і грубых асабістых лаянак...

Дык больш працы на ўзор „Бел. Культуры“! Народная культурная праца патрэбна, як расьціне расіца“.

З іншых беларускіх газэтаў адгукнуліся на выхад „Б. К.“ „Сялянская Ніва“, „Наша Праўда“ і „Беларускае Слова“. Першыя дзьве газэты зьмясьцілі варожыя артыкулы-рэцэнзіі настолькі таннага і несаліднага зьместу, што ня лічым нават і патрэбным ад'значаць іх у нашым аглядзе. Вельмі арыгінальную пазыцыю заняло „Б. Слова“, якое ў № 26 зьмясьціла цэлы рад пратэстаў проціў „Б. Культуры“ і напісала ўступны артыкул „Наш адказ“. Уся гэтая кампанія паднялася проціў „Б. К.“ таму, што ў артыкулах „Шлях да незалежнасьці Беларусі“ і ў аглядзе „Ад «Нашае Долі» да «Б. К.»“ — пра газэту „Б. Слова“ і пра дзеяльнасьць Паўлюкевіча было зьмешчана 15 крытычных радкоў. Шкада, вельмі шкада, што апрача гэных 15 радкоў, Паўлюкевіч нічога больш у „Б. К.“ не заўважыў і дзеля гэтага пераходзім над яго пратэстамі да парадку дня.

З польскіх часопісаў аб „Б. К.“ былі зьмешчаны вельмі прыхільныя артыкулы ў „Kurjerze Wileńskim“ і ў „Przeglądzie Wileńskim“. Іншыя газэты ў Вільні абышлі выхад „Бел. Культ.“ моўчкі. Прамаўчала і газэта „Народ“, а таксама і часопісь „Родныя Гоні“.

# Хроніка „Беларускае Культуры“.

## Пісьмо грам. Уладзімера Самойлы.

Ніжэй друкуем пісьмо вядомага публіцыстага Уладзімера Самойлы, надрукованае ў некат. беларускіх газэтах. Ул. Самойла да самых апошніх дзён прыймаў актыўны ўдзел у палітычным і грамадзкім беларускім жыцьці і супрацоўнічаў у грамадаўскіх газэтах. Гэтае пісьмо мае пэўнае грамадзкае значэньне, бо высьвятляе той глыбокі духоўны крызыс, які перажываець беларуская грамадзкая думка ў сучасны момант, даведзеная да роспачы штучным падзелам беларусаў на партыі па загаду нацыянальных ворагаў Беларусі. Спэцыяльных комэнтараў да гэтага пісьма не падаём, бо лічым, што думкі, выказаныя ў пісьме, аж занадта зразумелы кожнаму шчыраму беларусу. Вось гэты вельмі характарны дакумант беларускае сучаснасьці:

„Цэлы рад унутраных і вонкавых прычынаў прымушае мяне зрабіць публічна гэткага зьместу заяву.

Ад пэўнага часу беларускае грамадзянства падзялілася на некалькі розных групаў, між якімі стварыліся такія немагчыма варожыя адносіны, што яны атручваюць ды руйнуюць усё палітычнае, грамадзкае дый нават папросту — асабіста-прыватнае жыцьцё ў грамадзянстве.

Скуткі гэтага страшэнна ненармальнага стану — перад вачыма ўсіх...

Асабліва несьцярпімае палажэньне вытвараецца гэткім станам грамадзянства для тых, хто жыве ў стычнасьці з ім, не залічаючы сябе азначана ні да аднаго з варожых „абозаў“.

Але — трэба думаць, што з распачацьцем выбарнай кампаніі, калі і без таго раздражненыя групавай барацьбой ды ненавісьцяй страсьці разгарацца яшчэ страшней, гэткі стан у грамадзянстве яшчэ завострыцца... Усё гэта не варожыць і ў далейшым нічога добрага беларускаму грамадзянству, а праз яго і беларускаму народу, аб якім—у заядласьці групавай ці асабістай барацьбы — яго павадыры часта забываюць...

Зусім асаблівае палажэньне ў беларускім грамадзянстве займаю я. Я заўсёды лічыў і лічу сябе, так сказаць, — непаўнапраўным сябрам беларускага грамадзянства, як ня маючы — а ні палітычных правоў у краі (польскага грамадзянства), а ні паўнаты ўласнага беларускага нацыянальнага самапачуцьця і самаазначэньня, ня гледзячы на маю кроўную сувязь з краем і маё бязьмежнае жаданьне працаваць на яго карысьць. Дзеля таго я павінен і пачуваць сябе толькі як быццам „госьцем“, ці „працаўніком“, не бяручы на сябе абсалютна ніякай адказнасьці за ўсё, што робіцца ў беларускім грамадзянстве яго паўнапраўнымі, а дзеля таго і бяручымі на сябе паўнату адказнасьці сябрамі. Я быў гэткім чынам тутака заўсёды — у найвышэйшай меры „прыватным чалавекам“. І я ўсьцяж рабіў, насколькі ў мяне хапала сілы, — усе высілкі, каб лагодзіць усё ўзрастаючую, усьцяж шалеючую варожасьць паміж раскалоўшымі грамадзянства групамі, стаўшыся амаль не „фаховым“ разьемчым судзьдзёй у лічных справах іх павадыроў, выступаючы аднолькава, як паўнамоцнік то тэй, то гэтай стараны... Дагэтуль я не забіраў ніколі — за ўвесь час майго сужыцьця з беларускім грамадзянствам — адкрыта голасу ў яго прэсе, выпаўняючы ў ёй толькі працу „фахоўца“.

Цяпер — бо-ж больш не магу вытрымаць!—я ў пяршыню забіраю голас з аднаго боку, — дзеля апошняй перасьцярогі: даволі гэтай моральнай атруты — узаемнага нігілізаваньня! даволі гэтага самаруйнаваньня! даволі ахвяраў гэтага страшэннага падзелу. Гэты падзел, пры нашай слабой культурнасьці дый асабліва зложаных і цяжкіх абставінах жыцьця — ідзе, нажаль, значна, ах, значна далей, як нармальны падзел грамадзянства на палітычныя партыі, ці грамадзкія групы, ня толькі распыляючы, але, як сказана, папросту руйнуючы, зьніштажаючы грамадзянства, якое і без таго ня можа пахваліцца багацьцем людзей, здольных да культурна-будаўнічай працы... Гэта з аднаго боку. А з другога, я гэтым прымушаны заявіць, што я ня маю больш папросту а ні фізычных, а ні моральных сілаў знасіць такі стан таго грамадзянства, сябрам якога я хачу сябе лічыць, — я не магу ня толькі працаваць, але папросту не магу больш дыхаць атручанай атмосфэрай, якая створана гэтым нігілістычным, запамінаючым аб людзкіх і боскіх законах, аб інтарэсах і моральным здароўі грамадзянства і народу, — падзелам і яго скуткамі... Ня маючы ізноў паўнапраўнай волі і ўласнага самапачуцьця ў беларускім грамадзянстве, каб распа-

чаць якую-небудзь уласную, адкрытую, адказную акцыю — грамадзка-палітычную, — скіраваную на перамогу страшэннага зла падзелу, я магу, пасьля гэтаіі сваей перасьцярогі, фактычна зрабіць толькі адзіны, астаючыся для мяне магчымым, а канешным, — крок. Калі дагэтуль я быў абмежаваным дый самаабмежаваным „homo privatus“, дык цяпер я раблюся — у беларускім грамадзянстве „homo privatissimus“...

Практычна гэта мае значыць тое, што я раблю сябе сам яшчэ больш і яшчэ далей абмежаваным у сваім сужыцьці і супрацы з беларускім грамадзянствам. Я фармальна выходжу з усіх беларускіх таварыстваў, дзе я ад даўняга часу быў, — праўда, у апошнія часы, — зусім ужо нячынным бязьдзейным сябром. Бо-ж я не магу — паводле агульнага падзелу беларускага грамадзянства на групы — таксама дзяліць беларускую навуку, мораль, культуру, гаспадарку, школу і г. д., як гэта змушаны рабіць падзеленыя паміж варожымі групамі істнуючыя беларускія таварыствы і іншыя установы... У дадатак — дзяліць тое, чаго і без таго — драбніца.

Я складаю з сябе апошнія рэшткі грамадзкіх правоў і грамадзкай адказнасьці, якія яшчэ, прынамсь намінальна, меў у беларускім грамадзянстве, як сябра гэтых таварыстваў... І гэткі мой стан „анабіозу“ („паўсьмерці“) будзе трываць датуль, пакуль істнуючы ў грамадзянстве ненармальны, шкодны падзел прынамсь не пазбавіцца сваіх самазабойчых „нігілізмаў“... Можа трэба было-б зрабіць якраз наадварот — астацца і працаваць усьцяж... Я гэта разумею. Але на гэта я ўжо ня маю сілаў. Ня слухалі мяне раней, калі з усіх сілаў працівіўся падзелу, пераконваючы ў яго страшэнных няўхільных екутках.. Пэўна-ж — не паслухаюць і цяпер.. Цяпер, калі гэтыя скуткі прыходзяць усё ясьней, і страшней, вінаватыя павінны самі адбыць грамадзкую кару дый у яе жудзе — зразумець віну і адрадзіцца...

Пакідаю сабе толькі — вольнае і абсалютна неадказнае супрацоўніцтва асьветна-інфармацыйнага характару ў беларускіх часопісях, якія гэтага пажадаюць. У заключэньне дадаю, што ніякай асабістай уразы ні да каго з паасобных сяброў беларускага грамадзянства я ня маю.

Шчыра спагадаючы амаль ня роднаму мне беларускаму народу, астаюся назаўсёды

*Уладзімер Самойла.*

5 кастр. 1927 г. Вільня.

## Беларускі спэктакль.

Беларускі Народны Тэатр, вярнуўшыся ня так даўно з правінцыі, дзе даў цэлы рад беларускіх спэктакляў, пасьля свае рэарганізацыі приступіў ізноў да працы. У нядзелю 23.IX. г. г. Беларускі Народны Тэатр паставіў „Паўлінку“. Заля была густа запоўнена публікай, горача прыймаўшай наагул удалую і добрую ігру артыстаў. Артысты, як ужо вышэй сказана, гулялі добра, мо' толькі жаноцкія ролі, выйшлі ня так удачна, а то дзеля таго, што артысткі ня маюць школы. Выступленьне Беларускага Народнага Тэатру паказвае, што зусім рэальным і патрэбным зьяўляецца арганізацыя сталага беларускага тэатру ў Вільні.

## Ажыўленьне грамадзка-палітычнага жыцьця.

Апошнімі часамі, ў зьвязку з надходам выбараў у Сойм, узмаглася грамадзка-палітычная праца сярод беларускага грамадзянства. Рад проектаваных зьездаў і конфэрэнцыяў сьведчыць аб тым, што беларусы пачынаюць рупіцца мацней аб сваёй долі, шукаючы дарог і спосабаў да яе палепшаньня. Абавязак консолідацыі грамадзянства павінен быць першым заданьнем кожнага сьвядомага беларускага дзеяча.

## Арышт Антона Луцкевіча.

12.X.27 арыштованы вядомы беларускі дзеяч, адзін з першых беларускіх адраджэнцаў Антон Луцкевіч. Арышт зьвязаны мусі з сьледзтвам у справе Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

## На Усходзе.

### Літэратурная група „Узвышша“ ў Менску.

Прыблізна год таму назад частка лепшых маладых пісьменьнікаў, у большасьці беспартыйных, нездаволеная працаю арганізацыі „Маладняк“ — адкалолася ад яго і заснавала сваю літэратурную групу „Узвышша“. Да гэтага часу „узвышаўцам“ удалося выдрукаваць тры нумары свае часопісі, якую яны называюць імем свайго аб'яднаньня. Калі судзіць па трэцім нумары „Узвышша“, які выйшаў у жніўні, дык гэтая група патрапіла ня толькі замацавацца, але і перацягнуць на свой бок усё лепшае, што ёсьць у літэратурным Менску. Побач

з першымі „узвышаўцамі“ Ул. Дубоўкаю, Кузьмою Чорным, З. Бядуляй, Крапівой— у трэцім нумары друкуе свае творы і Якуб Колас (Т. Гушча), які падае другую часьць свае аповесьці „У глыбі Палесься“. З новых супрацоўнікаў „Узвышша“ трэба ад'значыць знаёмага Вільні поэта Жылку, які, як відаць, таксама пакінуў „Маладняк“, бо друкуець у трэцім нумары свае вершы.

У аддзеле крытыкі „Узвышша“ праф. Замоцін падаець артыкул аб М. Багдановічу, А. Бабарэка — артыкул аб „Сымоне Музыцы“ Я. Коласа, праф. Вазьнясенскі— аб Беларускім тэатры, Ц. Сааруні — Каротькі нарыс армянскае літэратуры, Зьм. Сьнежка — Літэратурная Японія.

Як з боку літэратурнага, так і наагул па зьместу „Узвышша“ стаіць значна вышэй за „Маладняк“.

## Жыцьцё і быт менскіх студэнтаў.

Выканаўчае бюро менскіх студэнскіх арганізацыяў у пачатку 1927 году апрацавала анкету з рознымі пытаньнямі аб тым, як жыве менскі студэнт. Вынікі гэтае анкеты далі такі матар'ял:

**I. Матар'яльнае палажэньне студэнтаў.** Частка студэнцтва (15,3 проц.) адначасна прымушана вучыцца і служыць, большая-ж частка студэнцтва жыве на стыпэндыі (19 рублёў у месяц) і на сродкі ад выпадковага заробку; невялікі процант (3,5 проц.) жыве на сродкі бацькоў. З месячным бюджэтам у 15 рублёў і меней жыве — 3,1 проц., ад 15-20 руб. жыве — 57,6 проц., ад 21-30 руб.— 12,7 проц., ад 31 да 45 руб. — 8,8 проц. З гэтага відаць, што большасьць студэнцтва жыве з бюджэтам у 19-20 руб.

Кватэрныя ўмовы далёка не адпавядаюць мінімальным запатрабаваньням. Аб гэтым сьведчыць тое, што ў невялічкім пакоі да 3-х асоб жыве 37,1 проц., на 4-5 асоб—26,6 проц., па 6-9 асоб жыве — 17,5 проц., па 10-15 і болей жыве — 16,8 проц., студэнцтва ун-ту; па адным чалавеку жыве ў пакоі вельмі нязначны процант. Жылой плошчы менш чым на 1 кв. саж. на чалав. прыходзіцца на 42,2 проц. студэнцтва, ад 1 да 1 з паловай кв. саж. прыходзіцца на 26,2 проц. і толькі 31,6 проц. жывуць у больш менш спрыяючых умовах.

Цікавыя даныя атрыманы на пытаньне аб самапачуцьці; адказала, што яно добрае толькі 9,3 проц., здавальняючае — 59,5 проц., дрэннае — 29,5 проц. Рэшта адказу не дала.

**II. Культурнае Жыцьцё.** З прычыны обмяжованнасьці сродкаў, студэнцтва мала выпісвае газэты, а большасьцю чытае ў чытальнях, істнуючых на кожным факультэце. Сыстэматычна чытае газэты 57,1 проц., несыстэматычна — 40,3 проц. і зусім ня чытае, альбо не далі адказу толькі 2,6 проц. Па 2-3 газэты чытае — 68,1 проц. Большасьць чытачоў прыходзіцца на газэту „Звезда“ (79 проц.), затым ідзе „Правда“ (76 проц.), „Савецкая Беларусь“ (23 проц.), іншыя газэты менш.

З прычыны даражыні білетаў, студэнцтва мала наведваецца ў тэатр і кіно.

Наведваньне студэнтамі тэатру, кіно, студэнцкіх і прафсаюзных вечароў - у тэатры: ня быў ні разу 21,8 проц., адзін раз у 2-4 мес.—32,6 проц., 1-2 разы ў мес. 11,5 проц., 3 разы ў мес.—4,7 проц., 4 разы ў мес.—9,8 проц.

На студэнцк. і клюбн. вечарох: ня быў ні разу—18,5 проц., 1 раз у 2-4 мес. —25 проц, 1-2 разы ў мес.—11 проц., 3 разы ў мес.—5,8 проц., 4 разы ў мес. — 10,7 проц.

У кіно: ня быў ні разу 6,9 проц, 1 раз у 2-4 мес.—24,8 проц., 1-2 разы ў мес 24,4 проц., 3 разы ў мес.—10,7 проц., 4 разы ў мес.—26,3 проц.

Ня гледзячы на перагружанасьць, на цяжкое матар'яльнае становішча, студэнцтва вядзе грамадзкую працу як у горадзе, так і ў вёсцы, у часе летніх вакацыяў.

40,9 проц. студэнтаў прымае сталы ўдзел у грамадзкай працы, не сыстэматычна працуе 27,3. Усяго гэткім чынам працуе 69,2 проц., але значная частка студэнтаў ня прыймае ўдзелу ў грамадзкай працы. Некаторыя кідаюць грам. працу з-за цяжкага матар'яльнага становішча. Гэтак на пытаньне, чаму пакінута грамадзкая праца, адна адказвае: „...цяжка працаваць галоднай... у мінулым годзе кінула — трэба было шукаць на харчаваньне“.

У настроі студэнцтва ёсьць упадніцтва. Некаторыя кажуць: „...няма рэвалюцыйнага ўздыму, няма запалу 17-га, 18-га, 20-га гадоў...“, „...не хапае энэргіі, прытупілася зусім...“, „...не магу выступаць на сходах, гурткох і г. д. з прычыны трусасьці, неяк нядобра сябе адчуваю...“, „...работа тэхнічная, а за больш адказную страшна ўзяцца, ня ўпэўнена ў сілах...“, „...ніколі на вечары не хадзіў, лічу лішнім, бо няма добрай вопраткі...“, „...Агульнае матар'яльнае становішча вельмі дрэннае. Пры такім матар'яльным становішчы карыстацца гэткімі благамі нельга“...

**III. Разьмеркаваньне дня.** Шмат часу траціць студэнт на хадзьбу, што бязумоў-

на выклікана раскіданасьцю унівэрсытэцкіх будынкаў па ўсіх канцох гораду і тым, што больш танныя кватэры, адпавядаючыя сродкам студэнцтва, знаходзяцца на акраінах гораду; гэтак на хадзьбу ў дзень па 2 гадзіны траціць — 35,7 проц., а па 3 і больш гадз.—26,7 пр. студэнтаў. Акадэмічным заняткам па 6-8 гадз. штодзенна ўдзяляе 41,1 проц., па 9-10 і больш гадзін удзяляе 28,2 проц. студэнтаў. Сьпяць студэнты па 7 гадзін і меней—43,8 проц., па 8 гадзін—47,5 пр., цікава, што па 10 гадз. і болей сьпяць толькі 1,3 проц. (18 кал.).

**IV. Палавое жыцьцё.** Пытаньне аб палавым жыцьці ў анкеце ня было кардынальным, тым ня менш мы маем цікавыя даныя.

Сваім ідэалам палавога жыцьця лічаць:

| | мужчыны: | жанчыны: |
|---|---|---|
| Шлюб царкоўны і цывільны (савецкі) | 33,8 проц. | 36,5 проц. |
| Доўгатэрміновае свабодн. сужыцьцё бяз шлюбу, або як кажуць у Менску „напавер“ . . . | 29,1 проц | 40,4 проц. |
| Кароткатэрм. зносіны і выпадк. сустр. (прастытуцыя) | 15,3 „ | 3,5 „ |
| Устрыманьне . . . | 9,1 „ | 10,0 „ |
| Не адказалі . . . | 12,7 „ | 9,6 „ |

У сучасны-ж момант устрымліваюцца ад палавога жыцьця мужчын—48,4 проц., жанчын—60,9 проц.; вядуць нармальнае палавое жыцьцё — м. 18,8 проц., ж. 11,3 проц.; беспарадкавыя зносіны маюць — м. 24,6 проц., ж. 3 проц., не далі адказу мужчыны—8,2 проц., жанчыны—24,8 проц. У шлюбе знаходзіцца 15,8 проц. студэнцтва. Раней займалася ананізмам: м. — 23,9 проц., ж. — 3,7 проц; цяпер займаецца: м. — 5 проц., ж.—1,8 проц.; не далі адказу на гэта пытаньне: мужчын — 10,4 проц., жанчын—15,2 проц.

Як відаць з гэтае савецкае анкеты, жыцьцё студэнтаў у Менску далёка ад таго, каб назваць яго нармальным і здаровым.

**Ад Рэдакцыі:** Па прычынах тэхнічных чацьвёрты аркуш „Б. К.“ ня мог быць своячасова выдрукаваны і выхад № 2-3 спазьніўся. Дзеля гэтага ў аддзеле „хроніка“ зьмешчаны зацемкі аб фактах, якія здарыліся і ў кастрычніку.

# Бібліяграфія.

**I. ДВАРЧАНІН. Хрэстаматыя Новай Беларускай Літэратуры.** Выпускі: I, II, III, IV і V. Выданьне Беларускага Выдавецкага Таварыства. Вільня 1927 г.

Патрэбнасьць у Хрэстаматыі новай беларускай літэратуры адчувалася балюча ўжо некалькі гадоў па меры паўставаньня да жыцьця, хоць і прыватнае, сярэдняе беларускае школы і па меры таго, як расла і шырылася нацыянальная сьвядомасьць шырокіх сялянскіх масаў Заходняй Беларусі.

Прыбыўшы ўсяго год назад з заграніцы, д-р філёлёгіі I. Дварчанін гэтым сьвежым выпускам у сьвет „Хрэстаматыі“ залячыў нашу прыкрую культурную балячку вельмі ўмела. Праца яго прызначана „для старэйшых клясаў беларускіх сярэдніх школаў“. Але яе трэба рэкамендаваць і самым шырокім колам беларускіх чытачоў, якія хацелі-б больш-менш, пазнаёміцца з узорамі творчасьці беларускіх пісьменьнікаў, пачынаючы з 1905 году, калі фактычна і нарадзіліся першыя магчымасьці нашага легальнага друку, дзякуючы першай рэвалюцыі ў былой Расеі, служыўшай да таго самым цяжкім „вастрогам народаў“.

Выпуск I „Хрэстаматыі“ Дварчаніна ахапляе сабою лепшыя творы Ядвігіна Ш., К. Каганца, А. Паўловіча і Цёткі, выпуск II — Янкі Купалы і Якуба Коласа, вып. III — Алеся Гаруна, З. Бядулі, К. Буйлянкі і Г. Леўчыка, выпуск IV — Власта, Я. Лёсіка, Ул. Галубка, іншых сялянскіх пісьменьнікаў і пролетарскага пісьменьніка Цішкі Гартнага. V-ты выпуск пачынаецца творамі В. Багдановіча і Гарэцкага і зьмяшчае ў сабе творы іншых „пісьменьнікаў інтэлігэнцыі“, канчаючыся на пісьменьніку мяшчанства Ф. Аляхновічу.

Трэба думаць, што гэтымі пяцьма выпускамі вялікая, як на беларускі капыл, праца I. Дварчаніна ня скончыцца, бо ў прадмове да „Хрэстаматыі“ аўтор дакляруе падаць у ёй пры канцы яшчэ 2 разьдзелы: „Беларуская крытыка“ і „Найлепшыя пераклады з чужых моваў“. Выйшаўшыя 5 выпускаў падзелены, паводле, характару пісьменьніцкай творчасьці нашых літаратараў, гэтак:

А) Нашаніўская пара (Ядвігін, Каганец, Паўловіч).

Б) Сялянскія пісьменьнікі (Цётка, Купала, Колас, Гарун, Бядуля, Буйлянка. Леўчык, Власт, Лёсік, Галубок, лепшыя вершы: Арла, Янука Д., Я. Журбы, Петрашкевіча, Піліпавага, Старога Уласа, Чарнышэвіча, імпрэсіі Палуяна, Таўруса і Шантыра).

В) Пролетарскія пісьменьнікі (Цішка Гартны).

Г) Пісьменьнікі інтэлігэнцыі (Багдановіч, М. Гарэцкі, К. Сваяк. вершы А. Зязюлі і Фарботкі, расказы Дзядзькі Пранука, імпрэсійкі Зоські Верас, вершы і расказ Краўцовага Макара, вершы Я. Быліны).

Д) Пісьменьнікі мяшчанства (Ф. Аляхновіч — вершы і ў скарочаньні „Няскончаная Драма“).

Засьмечаньне нашае мовы вельмі часта непатрэбнымі ўжо цяпер барбарызмамі, ці праўдзівей кажучы слоўцамі. прышчапляўшых нам сваю „вышэйшую“ культуру, расейцаў ды палякоў, — зьвярнула на сябе строгую ўвагу аўтора „Хрэстаматыі“, і ўсе чужыя ды малазразумелыя словы вынесены і вытлумачаны ім па парадку літараў азбукі ў месцах самых літэрацкіх твораў або ў канцы кніжкі асобна пад загалоўкам „Увагі“. Гэткім чынам, знаёмства шырокіх колаў нашага грамадзянства з працаю Дварчаніна шмат можа памагчы ім у імкненьні нашым да чысьціні роднае мовы; асабліва карыснай можа быць „Хрэстаматыя“ для нашых наймалодшых пісьменьнікаў, якія, па прычыне адсутнасьці дасканальнай беларускай школы, часта-густа мусілі вучыцца ў сякіх-такіх яе сурогатах і не маглі праз гэта добра азнаёміцца з роднаю моваю.

Карэктура „Хрэстаматыі“ даволі акуратная, хоць, бяручы гэту працу пад увагу, як школьны падручнік, варта было-б яго скарэгаваць яшчэ стражэй, не дапушчаючы нават і тых невялічкіх хібаў, якія ў „Хрэстаматыі“ здараюцца...

Усяму грамадзянству варта сказаць сваё „дзякуй!“ аўтору „Хрэстаматыі Новай Белар. Літэратуры“, гэтак навукова паказаўшаму сябе на нашай культурнай ялавіне.

**ЯКУБ КОЛАС (К. Міцкевіч). Выбраныя творы.** Угодкавае выданьне Беларускага Выдавецкага Таварыства. Вільня 1927. Вялікага фармату сшыток (78 стр.), прыгожа выпушчаны друкарняй „Віленскага Выдавецтва Б. Клецкіна“ з патрэтам і аўтографам на ім Я. Коласа. Тут у скарочаньні знаходзім „капітальныя“ поэтычныя творы аўтора — „Сымон Музыка“ і „Новая Зямля“, а таксама дробныя „баявыя“ патрыятычныя вершы з гэткім маляваньнем у іх роднае беларускае прыроды і нашага сялянскага быту, на якое хіба і здольны адзін толькі Я. Колас. З коласаўскай прозы знаходзім у „Выбраных Творах“ лепшыя расказы за розную пару яго творчасьці, а ў канцы ў адрыўках прыгожая повесьць „У Палескай глушы“

Рэдактар-Выдавец:
Ф. Умястоўскі.

## Зьмест:



Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, ul. św. Anny 3.